Алесь Раткевіч

# НЕВЯДОМАЯ ГІСТОРЫЯ МАЙГО КРАЮ



# ПРА АЎТАРА

***Раткевіч Аляксандр Аляксандравіч***
***(Алесь Раткевіч)***



Нарадзіўся 24 чэрвеня ў 1957 годзе ў вёсцы Чарвякі (цяпер Сакалоўка) Хаценчыцкага сельсавета, што на Вілейшчыне. У 1972 годзе скончыў Крамянецкую васьмігодку. У гэтым жа годзе паступіў у Вілейскае СПТВ-16. Скончыў яго ў 1974-м і адразу ўладкаваўся ў саўгас «Лукавец» трактарыстам. Пасля вайсковай службы вярнуўся ў свой саўгас, у якім адпрацаваў шафёрам да 1988 года. У гэтым жа годзе, пабраўшыся шлюбам з цудоўнай дзяўчынай, ужо з сям'ёй перабраўся ў Чысць Маладзечанскага раёна на новабудоўлю буйнапанэльнага домабудавання. Спачатку працаваў звычайным фармоўшчыкам. Пры ўводзе завода ў эксплуатацыю быў прызначаны майстрам змены фармовачнага цэха. Напрыканцы 90-х мінулага стагоддзя звольніўся па стане здароўя. Атрымаўшы 3-ю групу інвалiднасці, працаваць вымушаны быў на больш лёгкіх работах. Але, каб не «скаржанець» ад таго, што мала працы, пачаў надаваць больш увагі і часу грамадскай дзейнасці. Двойчы абіраўся дэпутатам пассавета. Краязнаўствам зацікавіўся яшчэ з юнацтва. Добраахвотны арганізатар і каардынатар практычных работ па рэстаўрацыі помні-

каў, аднаўленні брацкіх магіл ахвяр мінулай вайны, усталяванні мемарыяльных дошак у вёсках Хаценшчыны з прозвішчамі загінулых у Другой сусветнай вайне, ушанаванні памяці вядомага свайго земляка СЫЧА ПЁТРЫ на яго малой Радзіме ў Лукаўцы (Батурыне). Суаўтар першага гістарычнага зборніка «ВІЛЕЙСКІ ПАВЕТ» (ваенная тэматыка). Пастаянны пазаштатны аўтар незалежнага выдання «РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА», у якой нататкі друкуюцца пад рубрыкай «НЕВЯДОМАЯ ГІСТОРЫЯ МАЙГО КРАЮ». Матэрыялы друкаваліся і ў іншых СМІ.

# ВОДГУКІ ЧЫТАЧОЎ

Алесь, сегодня я по другому поводу попал на сайт «РГ», но увидел и прочитал цикл Ваших статей о судьбах жителей дер. Плещаны и др. Это в прямом смысле потрясающий материал. Как в прошлом журналист и человек, занимающийся историей, хочу сказать, что рассказами таких стариков Вы создаете документ истории, а не ее интерпретацию. Впечатлен, потрясен и благодарен! Выдающаяся работа!

*Богданов Владимир, Минск.*

Алесь, огромное вам СПАСИБО!!!!!! Благодаря только Вам я теперь знаю, где, как и когда погибли и захоронены мои родственники. И в первую очередь мой дедушка, Спиридович Александр Викентьевич. Ещё раз спасибо Вам за все Ваши праведные дела, благодаря вам наши дети и внуки будут знать историю своего рода и передавать её по наследству.

*Колобан (Сецко-Спиридович) Валентина, Сахалин.*

# АД АЎТАРА

Расповеды старажылаў пра нялёгкі і ў большасці сваёй трагічны лёс кожны раз мяне хвалявалі да глыбіні душы. Пра жыццё беларусаў (асабліва «заходнікаў») пры царскай Расеі, за польскім часам ды і пасляваенным бальшавіцкім «вызваленні». Трагічны час Другой сусветнай вайны, якая забрала траціну беларускага насельніцтва, заўжды аддаваўся болем ў сэрцы. Збіраючы гістарычныя звесткі мінулага стагоддзя, іншы раз даводзілася нават шкадаваць, што сваімі пытаннямі прымушаў старых сваіх землякоў зноў і зноў у думках вяртацца да трагічна перажытага імі мінулага. Але цяпер сведкі таго часу пасмялелі і амаль без боязі распавядаюць пра ўсё, што не так даўно было ў поўнай забароне. Распавядаюць з надзеяй на тое, што ў рэшце рэшт пра іх складаны і нялёгкі жыццёвы лёс даведаюцца іншыя. Што, нарэшце, будуць абнародаваныя і несправядліва выкрасленыя з памяці імёны загінулых іх родных і блізкіх, частку якіх ужо атрымалася вярнуць з забыцця. Людзі гінулі не





Брэст (1939г.) Ваенны парад САЮЗНІКАЎ.

толькі ад рук фашыстаў і лясных бандытаў, але і ад рук асобных партызанаў. Час не стаіць на месцы. Ён з кожным разам усё далей і далей аддзяляе нас ад мінулага, забіраючы ў свет іншы нешматлікіх, ужо апошніх, сведкаў, наш надзейны жывы гістарычны архіў мінулага стагоддзя. Таму і было вырашана выдаць кнігу ўспамінаў, каб зберагчы іх для нашчадкаў. Каб дзеці нашы і ўнукі добра ўсвядомілі, што такое вайна. Што вайна – гэта не толькі ордэны, медалі, зоркі герояў ды слава. Вайна, у першую чаргу, – гэта вялікае людское гора. Гэта голад, холад, разбурэнні, нявінна пралітая кроў і гвалтоўная смерць старых і дзетак! Толькі ў дакладным параўнанні, ведаючы праўду пра вайну, якая ў шматлікіх выпадках бывае балючай і горкай, нашы нашчадкі змогуць правільна ацаніць МІР на зямлі. Будуць імкнуцца здзяйсняць геройскія ўчынкі пад мірным небам, а не на франтах вайны. Распачатая гітлераўскай Германіяй і бальшавіцкай Расеяй, Другая сусветная вайна на Вілейшчыну прыйшла 17 верасня 1939 года. Яна абярнулася жахлівай шматтысячнай людской трагедыяй. Ад 39-га і да 41 года жыхары гінулі ў сталінскіх лагерах, іх расстрэльвалі ў Курапатах толькі за тое, што амаль два дзесяцігоддзі не па сваёй во-

лі, а згодна з ганебнай Брэсцкай дамовай, жылі і працавалі спачатку пад немцамі, а пасля пад палякамі. Вяршыня трагізму прыпала на 1941–1944 гады. Насельніцтва гінула за сувязь з партызанамі і за аброк фашыстам. Працаздольныя жыхары Вілейшчыны і іх сем'і бязлітасна знішчаліся за адмову выезду на працу ў Германію і за тое, што працавалі ў фашысцкіх арцелях.

Цэлыя тры гады мірнае насельніцтва жыло паміж молатам і кавадлам. Дакладней будзе сказаць, што не жыло, а выжывала паміж двух агнёў. Безабаронныя старыя, жанчыны, іх унукі і дзеткі, як ніхто іншы, напоўніцу адчулі на сабе ўсе жахі Другой сусветнай вайны. І пры ўсім гэтым сеялі хлеб, саджалі бульбу і збіралі ўвосень ураджай, гадавалі жывёлу, ткалі палатно, шылі адзенне, боты, пяклі хлеб ды гналі самагонку – усім гэтым забяспечвалі шматтысячнае партызанскае войска, без чаго яно не было б баяздольным. А ў дадатак да ўсяго гэтага, безабароннае мірнае насельніцтва пастаянна падвяргалася рабаванню з боку фашыстаў ды невядомых лясных бандытаў. Лясы беларускія ў той час у сваіх нетрах шмат каго хавалі. Гэта і Армія Краёва, і ўласаўцы, і бандэраўцы,



і літоўскія «браты лясныя», акружэнцы, дэзерціры ды звычайны мясцовы крыміналітэт з цюрэмшчыкамі. А самае масавае – гэта партызанскія злучэнні. І ўсім ім хацелася есці, піць гарэлку, жанчын ды дзяўчат «кахаць». Насельніцтва на працягу трох гадоў кожную хвілінку глядзела смерці ў вочы і гінула. Вось якія дадзеныя ахвяраў вайны мне ўдалося сабраць за апошнія сем гадоў на асобна ўзятай тэрыторыі. І гэта толькі па васьмі вёсках Хаценчыцкага сельсавета і прылеглых да іх хутароў: Сакалоўка (Чарвякі), Навасёлкі, Ляхі, Новая Гута, Батурына, Мардасы, Дварэц, Пляшчаны. Калі ўсё абагульніць, то ў гэтых вёсках на Хаценшчыне падчас Другой сусветнай вайны, згодна з дадзенымі кнігі «Памяць», загінула 114 чалавек. А на самой справе, дзякуючы, на вялікі жаль, ужо нешматлікім ветэранам і сведкам тых трагічных часоў, іх колькасць дасягнула 212 чалавек. У лік загінулых уваходзяць і ахвяры ляснога бандытызму. Імі сталі 50 мірных жыхароў. Менавіта гэтай катэгорыі загінулых у кнізе надаецца найбольшая ўвага. Сёння мы ўжо не разбяромся, ад каго загінулыя атрымалі лютую смерць. У якім абліччы былі іх каты? Ды ўвогуле, хто тыя рабаўнікі, гвалтаўнікі і забойцы мірнага насельніцтва? Гэта ўжо не галоўнае. Галоўнае, паказаць праўду пра вайну, якой бы горкай яна ні была, іншы бок медаля. Праўду вачыма непасрэдных яе сведак, якія прымалі самы непасрэдны ўдзел у той вайне дзеля яе перамогі. І ім вельмі крыўдна за тое, што яны, мірнае насельніцтва, пасля вайны апынуліся незаўважнымі сталінскай уладай. І на самой справе, насельніцтва хоць і не трымала зброю ў руках, але яно таксама змагалася з фашызмам, ад рук якога загінулі мільёны беларусаў, і не проста так, а за сувязь з партызанамі. А сувязь на самой справе была непасрэдная. Забяспечваючы партызанаў харчаваннем, адзеннем

і звесткамі, людзі рызыкавалі сваімі жыццямі і жыццямі сваіх дзяцей. А вынік гэтай сувязі нам вядомы – траціна беларускага насельніцтва аддалі свае жыцці дзеля перамогі над ворагам. Але ўсе лаўры гэтай перамогі, на вялікі жаль, дасталіся тым, хто трымаў у вайну толькі зброю ў руках. Пра іх барацьбу напісана шмат кніг, знята шмат фільмаў. Толькі мірнае насельніцтва, якое забяспечвала ўсім неабходным партызанскае войска, засталося далёка за кадрам і не патрапіла на старонкі кніг. А як усё адбывалася і як перажылі тую страшэнную вайну нашы землякі на Вілейшчыне, вы хоць часткова, але даведаецеся ў гэтай кнізе. У ёй абнародваюцца самыя праўдзівыя звесткі з распоседаў непасрэдных сведак таго трагічнага часу. Але ў кнізе ўважлівы чытач можа заўважыць невялікую розніцу звестак з распоседаў некалькіх сведкаў аднаго і таго ж жыццёвага эпізоду. Я іх наўмысна не падкарэктоўваў, не падганяў пад штосьці адзінае, бо лічу, што кожны з расказчыкаў па-свойму перажыў той момант жыцця, гэта яго асабісты боль і яго лёс. І выпраўляць штосьці і падганяць пад агульнапрынятыя стандарты я палічыў непатрэбным і немэтазгодным. Бо ў гэтай кнізе я намагаўся адлюстраваць позірк на вайну менавіта вачыма людзей, якія прашлі праз усе выпрабаванні вайной і рэпрэсіямі. І толькі лічаныя моманты, якія закранаюць канкрэтную асобу, падмацаваныя архіўнымі дадзенымі.

***Вось ён, жывы архіў невядомай гісторыі мінулага стагоддзя:***

**Барысевіч** Уладзімір Канстанцінавіч – 1928 г.н. **Паўлюкевіч** (Шахрай) Галіна Пятроўна – 1932 г.н. **Вярбіцкая** (Юшкевіч) Яўгенія Аляксандраўна – 1934 г.н. **Валовік** (Валовік) Паліна Ігнатаўна – 1937 г.н. **Валовік** (Валовік) Соф’я Ільінічна – 1935 г.н. **Шахрай** Станіслаў Іосіфавіч – 1919 г.н. **Валовік** (Цывілька) Ганна Канстанці-

наўна – 1932 г.н. **Пякарская** Марыя Трафімаўна – 1930 г.н. **Спецыян** Таццяна Іванаўна – 1931 г.н. **Дарожка** Іосіф Пятровіч – 1931 г.н. **Гадлеўская** (Гэйна) Марыя Уладзіміраўна – 1931 г.н. **Кажура** Аляксандр Іванавіч – 1927 г.н. **Кажура** Галіна Іосіфаўна – 1925 г.н. **Луцкі** Міхаіл Гаўрылавіч – 1922 г.н. **Доўнар** Аляксандр Аляксандравіч – 1932 г.н. **Доўнар** (Булах) Аляксандра Мікалаеўна – 1929 г.н. **Тарадайка** (Сыч) Браніслава Пятроўна – 1936 г.н. **Міцько** (Папковіч) Леаніла Антонаўна – 1928 г.н. **Васько** (Арцішэўская) Ганна Ігнатаўна – 1939 г.н. **Шахрай** Станіслаў Іосіфавіч – 1919 г.н. **Шахрай** (Пятровіч) Фаіна Аляксандраўна – 1930 г.н. **Мікуліч** (Кулеш) Леакадзія Станіславаўна – 1934 г.н. **Дзік** (Кратовіч) Соф'я Мікалаеўна – 1916 г.н. **Раковіч** (Карповіч) Зінаіда Іванаўна – 1929 г.н. **Шостак** (Карповіч) Яўгенія Іванаўна – 1934 г.н. **Радкевіч** (Фокіна) Зінаіда Фёдараўна – 1931 г.н. **Архіпава** (Фокіна) Анна Фёдараўна – 1934 г.н. **Фокін** Аляксандар Фёдаравіч – 1936 г.н. **Бейшар** Ірына Антонаўна – 1938 г.н. **Фадзеева** (Кіслая) Яўгенія Мікалаеўна – 1932 г.н. **Анасовіч** (Кучко) Фаіна Сяргееўна – 1931 г.н.

Дзякуй Вам вялікі і нізкі паклон за памяць!

# ШЧОКАЎШЧЫНА

Фадзеева (Кіслая) Яўгенія Мікалаеўна, 1932 г.н., свае карані мае са Шчокаўшчыны Хаценчыцкага сельсавета Вілейскага раёна. У гэтай вёсцы яна нарадзілася і жыла яшчэ за польскім часам і паспела скончыць адзін клас польскай школы. Пасля амаль два гады жыла пад першымі бальшавікамі і тры гады пад немцамі. Пасля вайны скончыла школу, педінстытут. Па размеркаванні была накіраваная на працу матэматыкам у Відзы. Там, на Віцебшчыне, выйшла замуж і пражыла ўсё жыццё. Сёння жыве ў дачкі ў Мінску. На яе дзяцінства прыпала панаванне трох уладаў: польскай, бальшавіцкай і нямецкай. Так што ёй ёсць што ўспомніць і параўнаць, пры якой уладзе як жылося і што вялося. Але спадарыня Яўгенія вырашыла не распавядаць падрабязна пра сваіх родных, пра сваю сям’ю, спаслаўшыся на звычайнасць сялянскага жыцця. Не лі-


ФАДЗЕЕВА(КІСЛАЯ)ЯЎГЕНІЯ МІКАЛАЕЎНА


Бароўскі Леон на ровары.
Бароўскі Ян у капелюшы. пачат.XXст.

чыць патрэбным завастраць увагу, бо нічога значнага ў ім няма. Таму ў сваіх расповедах аддала перавагу галоўным чынам сям'і пані Бароўскай Марыі, якая пры Польшчы тут гаспадарыла і пакінула вельмі добрыя ўспаміны пра сябе.

### *Бароўская пані Марыя*

Бароўская жыла са сваім мужам Бароўскім Лявонам і сынам-інвалідам, які кульгаў на адну нагу, якая ад роду была крыху карацейшая. Галоўны іх маёнтак быў у Вепраце. Але як усталявалася савецка-польская мяжа і Вепрата адышла да саветаў, Бароўскія вымушаныя былі з яго з'ехаць і асталявацца ў сваёй леснічоўцы каля Шчокаўшчыны. Пасяліўшыся, пачалі ў першую чаргу адбудоўваць гаспадарчыя будынкі: ток, свіран, канюшню і ўсё астатняе для вядзення гаспадаркі. Усе прылеглыя землі належалі ім. Пані Бароўская па натуры была вельмі добрая і спагадлівая да ўсіх, нягледзячы на веравызнанне і саслоўе. У адносінах да іншых і сялян у характары не мелася ганарлівасці, а панавала толькі спагада і справядлівасць. Панская сям'я не цуралася ўзяць у рукі серп альбо касу, каб на асабістым прыкладзе паказаць, што гэту альбо іншую працу ўсе рабіць могуць. Пан Бароў-

скі Лявон быў больш у раз'ездах, таму гаспадаркай, галоўным чынам, кіравала пані. Яна па спецыяльнасці была медсястра і па медыцынскай частцы нікому не адмаўляла настолькі, наколькі ёй дазваляла медыцынская адукацыя, а дабрыні душэўнай у яе было больш, чым трэба. Аднойчы Шчокаўшчынскаму селяніну па мянушцы Сынок стала вельмі дрэнна, то пані Бароўская сама на сваёй брычцы адвезла яго ў Вілейскую лякарню, у якой яму зрабілі аперацыю на сляпую кішку. Праз пэўны час пасля аперацыі яна таксама з'ездзіла і прывезла хворага дадому. А пасля пастаянна рабіла яму перавязкі да тае пары, пакуль той не паправіўся.

### *Кола рольнічых, ці сельскагаспадарчы гурток*

Пані Бароўская рэгулярна праводзіла розныя спаборніцтвы «Кола рольнічых» – хто выгадуе большага быка альбо зробіць найлепшую брычку, на якой не сорамна будзе на кірмаш выехаць, і шмат іншага і на любы густ. Дзяцям таксама давалі магчымасць паказаць свае здольнасці і талент.

Галоўныя вынікі падводзіліся на галоўным сялянскім святце дажынкі, дзе пераможцы атрымоўвалі прызы. Але перападала і ўсім астатнім удзельнікам спаборніцтва. Усе былі задаволеныя, асабліва дзеці, якім пані Марыя ўдзяляла заўжды асобую ўвагу. Улетку дзеці Шчокаўшчыны і навакольных вёсак адпачывалі ў арганізаваным пані Бароўскай дзіцячым лагеры «Ахронка», штосьці накшталт піянерлагераў. Там пад наглядам дарослых яны праводзілі ўсе дні, там жа і харчаваліся. Усё гэта было за кошт панскага двара. Беспрацоўных, як цяпер, ніколі не было. Калі дзе ў якой сям'і здаралася бяда, Бароўскія заўжды намагаліся хоць чымсьці дапамагчы. Пані была вельмі шчырай і культурнай жанчынай. Яе ўсе, без выключэння, паважалі. Нават у полі любой жняі было за гонар жаць




дабро разам з пані. А брыткаслоўе было вялічэзным сорамам для любога вяскоўца. Паміж людзей, нават пры лаянцы, ніколі не было чутна мацюкоў.

У Бароўскіх было шмат кароў. Малако з кароўнікаў вазілі на малачарню ў Хаценчыцы да пані Высоцкай альбо ў Чарвякі (цяпер Сакалоўка) на сырабойню брата Лявона, пана Бароўскага Ігнася. Калі ў 1939 годзе прыйшлі саветы, Бароўскія з’ехалі са Шчокаўшчыны. Іх маёнтачак-лесНічоўку ў Дварцы і ўсю гаспадарку разрабавалі прышлыя.



## *Вярнулася, каб змагацца*

Неўзабаве наступіў 1941 год. Бальшавікі ў чарговы раз здалі Шчокаўшчыну немцам. Праз нейкі час сюды вярнулася пані Бароўская, але толькі з сынам, без пана Лявона. Засяліліся ў свой абрабаваны маёнтак, спрабавалі штосьці аднавіць, але зрухаў не было бачна. Хоць маёнтак і стаяў водаль ад Шчокаўшчыны, але сяляне заўважалі, што да пані прыязджаюць палякі з Раёўкі, часцяком заязджаў і ільянскі ксёндз Ястцкі Уладзіслаў. Неяк аднойчы восенню 1942 года на маёнтак наляцелі немцы і арыштавалі пані Марыю з сынам і ўсіх, хто там знаходзіўся. Пазней стала вядома, што ўсе яны былі арыштаваныя немцамі за падпольную барацьбу супраць фашыстаў і непасрэдную сувязь з Арміяй Краёвай. Арганізацыя мела сваіх прадстаўнікоў у Чарвяках (сёння Сакалоўка) – гэта Царык Аляксандр і Цекатоўскі Часлаў Янавіч 1925 г.н., ільянскі ксёндз пробашч Вілейскага дэканата Ястцкі Уладзіслаў 1905 г.н. Усе яны былі расстраляныя фашыстамі ў Ілы, акрамя ксяндза Ястцкага Уладзіслава, якога пасля допытаў і моцных катаванняў расстралялі ў Вілейскай турме. Ёсць меркаванне, што прах пані Бароўскай Марыі і яе сына шчокаўшчынцы перанеслі на раёскія могілкі. Але гэта толькі версія.

# У МАЙГО БАЦЬКІ ЗАБРАЛІ ВОСЕМ ГАДОЎ ЖЫЦЦЯ




Майму тату, Радкевічу Аляксандру, лёсам было адмерана толькі 59 гадоў.

Нарадзіўся ён у 1918 годзе ў вёсцы Чарвякі Вілейскага павета Хаценчыцкай гміны. У восем год застаўся сіратой. Яго бацька, а мой дзед Лявон, памёр ад тыфу, пакінуўшы бабцы Паўліне пяцярых дзяцей: Ляксандру, Юзю, Маньку, Адольку, Мар'ю. Жыла сям'я вельмі бедна. Карміліся з невялікага кавалачка зямлі. Але бацьку ўсё ж атрымалася скончыць чатыры класы польскай школы. Выручылі залатыя рукі бабкі Паўлінкі, якая вельмі добра валодала кравецкай справай. Кожны з дзяцей па сваіх здольнасцях набываў навыкі ў працы. Цётку Мар'ю і дзядзьку Адольку больш цягнула да зямлі, гаспадаркі. Цётка Манька з маленства служыла на польскай стражніцы ў Брыцкім прачкай. Дзядзька Юзя пачаў свой працоўны шлях спачатку памочнікам, а пасля ўжо кавалём у кузні пана Бароўскага. А майго бацьку прывабіла прафесія сталяра, з якой ён ніколі не расставаўся аж да апошніх дзён свайго жыцця. Дзеці раслі, сям'я мацнела, складаліся нейкія планы на будучыню. Усё зруйнавалася ў верасні 1939 года, калі бальшавікі перайшлі савецка-польскую мяжу, якая знаходзілася ў васьмістах метрах на



ўсход ад вёскі, акурат за рэчкай Вепраткай. Панскія маёнткі, спіртзавод у Лукаўцы былі абрабаваныя бальшавікамі. А тых гаспадароў, што не паспелі ўцячы, забралі ў палон.

Бальшавіцкія прапагандысты агітавалі мясцовых жыхароў на супрацоўніцтва з новай уладай. Распавядалі пра цудоўнае жыццё і вялікія заробкі ў савецкай краіне, асабліва на Далёкім Усходзе. Нямала маіх землякоў паддалося на гэта хлуслівае заманьванне. Шмат хто з іх, добраахвотна завербаваўшыся і з’ехаўшы ў казачную краіну, знік назаўсёды. Мне па сённяшні дзень невядома, як мой бацька апынуўся на Далёкім Усходзе яшчэ да вайны. Пра гэта ён мне ніколі не расказваў. Шчыра кажучы, я тады і не вельмі цікавіўся яго мінулым. Ды і на цікавасць гэту была накладзеная своеасаблівая забарона. А калі пра што размаўлялі, то толькі шэптам. У бацькі амаль на ўсе пытанні быў адзін адказ: «Менш ведаеш, спакайней жывеш. Не хачу, каб мой лёс паўтарылі мае дзеці». Нават пасля рэабілітацыі ў 1966 годзе бацька не рашыўся цалкам усё расказаць. Памятаю, як паштальён прынёс яму паведамленне аб рэабілітацыі, у якім ні слова не было сказана ні пра якую-небудзь кампенсацыю, ды і прабачэння ніхто не папрасіў. Прачытаўшы яго, бацька проста на вачах у паштальёна парваў той ліст на дробныя кавалкі і кінуў у печ. Там і згарэлі восем год яго жыцця. Затое не згарэла ў памяці людской і засталося на ўсё жыццё званне ворага народа. Пасля рэабілітацыі, праўда, гэтым

ужо не папракалі. Але часам хто-небудзь не-не, ды і кіне ў вочы. Падаваць якое-небудзь прашэнне на кампенсацыю бацька не хацеў. Маўляў, хто мне верне мае восем гадоў, а на меншае ён не пагаджаўся, лічачы прыніжэннем годнасці. За восем год лагернага жыцця ён так і не здрадзіў сваім жыццёвым прынцыпам, застаючыся самім сабой да канца сваіх дзён. Дадому ён вярнуўся ў 1951 годзе.

## *Жыццё пасля ГУЛАГу*

Не сказаць, што ўсё складвалася ўдала. Таму разам з некаторымі землякамі паціснуў на Захад шукаць больш спакойнага жыцця. У літоўскім горадзе Лендварысе ўладкаваўся на завод «Кайрат» сталяром. У 1953 годзе ажаніўся з дзяўчынай са Смаленска, якая таксама не ад салодкага жыцця прыехала ў Літву. Але як бы там добра ні было, бацьку ўсё адно цягнула на Радзіму, у свой родны кут. Сабраўшы пажыткі ў чамаданы, разам з жонкай і трохгадовай дачушкай у 1957 годзе вярнуўся ў Чарвякі, у бацькаву хату, і адразу ж стаў будавацца. За год ён узвёў сабе невялікі домік і спрабаваў наладзіць аднаасобную гаспадарку. Не атрымалася. Мясцовыя ўлады прыціскалі


Радкевіч А.Л. пасля ГУЛАГу з жонкай Зінаідай

з усіх бакоў, пакуль ён усё ж не напісаў заяву ў калгас. Таго, што плацілі за працу ад цямна да цямна, не хапала, каб пракарміць сям'ю. І каб не бацькавы залатыя рукі, не ведаю, як бы мы жылі. Ён быў вядомым на ўсю акругу сталяром. За кошт заказаў, якія атрымліваў ад людзей, былі мы і накормленыя, і абутыя. На жаль, не паспеў усіх вывесці ў людзі. Маці адна выпраўляла нас у жыццё. Усё, што мне ўдалося высветліць пра бацьку пасля яго смерці, укладваецца ў некалькі радкоў: Радкевіч Аляксандр Лявонавіч, 1918 года нараджэння, ураджэнец Беларусі, жыхар г. Ульянаўска, рабочы, 16.06.43 Ульянаўскім аблсудом па артыкуле 58-10 ч. 2 УК РСФСР незаконна асуджаны на 8 гадоў пазбаўлення волі. Звестак аб далейшым лёсе няма. Цалкам рэабілітаваны 20.04.66.

# ЛЁС МАТУЛІ

Вось і забраў ад нас тата нашу матулю да сябе назаўжды. І тут ужо нічога не зробіш, бо гэтак уладкаванае наша жыццё. Чалавек нараджаецца для таго, каб пакінуць добры след на Зямлі і ў пэўны час сысці ў нябыт, перадаўшы жыццёвую эстафету нам,сваім нашчадкам. Але, як нярэдка здараецца ў нашай жыццёвай кругаверці, што не заўсёды дастаткова мы ўдзяляем увагу тым, хто падарыў нам жыццё. А то і ўвогуле забываемся пра сваіх самых блізкіх і родных яшчэ пры іх жыцці. І гэта датычыцца ў самую першую чаргу нашых татаў і матуляў. Пачынаем шкадаваць толькі тады, як іх страчваем беззваротна. Вось так


РАДКЕВІЧ (ФОКІНА)ЗІНАІДА ФЕДАРАЎНА

і нашу сям'ю напаткала вялікае гора. Ад нас на 85 годзе жыцця ў свет іншы назаўсёды адышла наша матуля. Яна, як і ўсе з яе пакалення, прайшла вельмі складаны, нялёгкі жыццёвы шлях. Нарадзілася ў 1931 годзе на Смаленшчыне ў збяднелай пасля рэвалюцыі сялянскай сям'і.

Матулін дзед, Іван, да кастрычніцкага бальшавіцкага перавароту меў сем гектараў зямлі, якую падчас калектывізацыі адабралі, а разам з ёй – каня і ўсё да яго. Жыццё ўскладнілася, выжывалі толькі дзякуючы сваёй працавітасці. Матулін тата, а мой дзед, Фокін Фёдар Іванавіч, 1907 г.н., у 1929 годзе быў прызваны ў РККА. Праз год быў звольнены ў запас. Адразу ж ажаніўся з мясцовай дзяўчынай Еўдакіеей. А каб не патрапіць у спіс «ворагаў народа», вымушаны быў працаваць не пакладаючы рук на калгасных палетках, а па вечарах на «сваіх» сотках. Але гэтага не было дастаткова, каб пракарміць сям'ю, таму трымаў дзясятак сямей пчол, хаваючыся ад падаткоўцаў, і лавіў рыбу ў Дняпры, якая была галоўнай у рацыёне. Другая сусветная вайна для Фёдара Іванавіча, як і для



нас, беларусаў, пачалася ў 1939 годзе з фінскага фронту, з якога вярнуўся, хоць без медалёў і славы, але жывым. Не паспеў, як кажуць, змыць пыл фінскага фронту, як тут Гітлер, разарваўшы сяброўскія адносіны са Сталіным, паходным маршам рушыў на Маскву. 23 чэрвеня 1941 года агульная мабілізацыя – і зноў фронт. Толькі на гэты раз недалёка ад дому, пад Смаленск. Адной трохлінейкай на траіх чырвонаармейцаў утрымаць Смаленск не было ніякіх шансаў. РСЧА адступіла пад Дарагабуж. Там, на знакамітай Салаўёўскай пераправе, дзядулю кантузіла. У бяспамяцтве трапіў у фашысцкі палон. Тысячы ваеннапалоных РСЧА немцы размясцілі на адкрытай, абгароджанай калючым дротам пляцоўцы, у межах чыгуначнай станцыі Кардымава. Там жа разам з ваеннапалонымі знаходзіліся сагнаныя з акупаванай тэрыторыі працаздольныя жыхары Смаленшчыны. Усіх іх чакала адпраўка ў Германію. Сярод палонных, мірных жыхароў, дзед Фёдар сустрэў свайго 18-гадовага швагру Мікалая. Пра палон родных, нейкім чынам, даведаўся дзедаў цесць Уладзімір, Мікалаеў бацька. Ён адшукаў сярод іх сваіх родных, якія ўначы праз падкоп пад дротам здолелі збегчы з лагера. А цесць на кані па лясных сцяжынках перавёз іх дадому ў Макееўскую. Пакуль дзед Фёдар адыходзіў ад кантузіі, баі за Днепр скончыліся, а фронт перамясціўся пад Маскву.

### *Ад крыві вада ў Дняпры стала ружовай*

Мая матуля была самай старэйшай з дзяцей, таму і абавязкі на ёй ляжалі большыя, кантраляваць меншых, пакуль дзед Фёдар лячыўся, а баба Дуня (Еўдакія Уладзіміраўна) раздабывала ежу, вопратку. Матуля расказвала, як падчас баёў Днепр некалькі разоў пераходзіў з рук




у рукі то немцам, то рускім, і таму яны кожны дзень прама ў твар адчувалі подых смерці. Да канца дзён перад яе вачыма стаялі усцеленыя мерцвякамі з двух бакоў калгасныя палеткі, чырвоны ад крыві Днепр, бясконцыя бамбардзіроўкі ды разрывы снарадаў, ад чаго сонечны дзень ператвараўся ў пекла. Матуля гэта запомніла на ўсё сваё жыццё. Падчас стаяння фронту вёска амаль цалкам згарэла. Засталіся толькі лічаныя хаты, цудам уцалела і дзедава. Але палову яе немцы забралі для сваіх вайскоўцаў. Кватаравалі, галоўным чынам, немцы-франтавікі, якіх камандаванне адпраўляла з фронту ў тыл на адпачынак. Апынуўшыся пад акупацыяй, сям'я выжывала як магла. Дзед лавіў рыбу і вазіў яе ў Кардымава, Смаленск і іншыя гарады і мястэчкі. Там яе мяняў на адзенне, абутак, соль, алей. З год жыццё было больш-менш спакойнае. Фашысты не вельмі звярэлі. Але ўжо ў 1943-м пачалі хадзіць чуткі, што то ў Салаўёве хтосьці штосьці ўзарваў, то ў Кардымаве мост чыгуначны ўзляцеў у паветра. З-за гэтага немцы распачалі пошукі партызан-дыверсантаў. Усіх падазроных арыштоўвалі. Па даносу суседзяў, быццам бы мой дзед меў сувязь з партызанамі, немцы прыехалі яго ўжо арыштоўваць. Але Бог мілаваў. Якраз у той момант у хаце знаходзіліся чарговыя адпачываючыя немцы-франтавікі, якія і заступіліся за Фёдара Іванавіча. Такім чынам, дажылі да прыходу савецкіх войскаў. 01.10.1943 года дзядулю зноў мабілізавалі ў РСЧА і адразу ж накіравалі ў штрафбат стралком (за тое, што ў 41-м кантужа-

ны трапіў у нямецкі палон). Пад Віцебскам быў паранены. Пасля шпіталя ваяваў у якасці камандзіра гарматы. Удзельнік баёў за Кёнігзберг, Шталупен і іншых. Узнагароджаны медалямі за мужнасць, за баявыя заслугі, за перамогу над Германіяй. Атрымаў ганаровую падзяку ад Сталіна за мужнасць і гераізм, праяўленыя ў баях ва Усходняй Прусіі, ордэн Айчыннай вайны і іншыя ўзнагароды. Вайну дзед Фёдар скончыў ў 1945-м у Берліне. Пра капітуляцыю фашысцкай Германіі даведаўся каля самага рэйхстага, на якім пакінуў сваё прозвішча. Падчас вайны быў тройчы паранены. Мабілізаваўся Фёдар Іванавіч 25 верасня пераможнага года.


Фокін Ф. І.

## *У пошуках годнага жыцця*

Пасля вайны, скончыўшы сямігодку, матуля з’ехала жыць і працаваць у Літву. У той час шмат хто ехаў у Прыбалтыку з усяго СССР, бо на Захадзе было лепш з заробкам і забеспячэннем прадуктамі і ўвогуле розным жыццёва неабходным таварам. У літоўскім горадзе Лендварысе працавала на маслазаводзе лабарантам. Там жа яе і звёў лёс з беларусам Радкевічам Аляксандрам Лявонавічам. Былым «ворагам народа», «ахвяраваўшым» 8 год жыцця на будоўлю светлай будучыні камунізму. У 1953 годзе пажаніліся. Але жыць у Літве, хоць і лепш было, не



захацелі, бо вабіў родны кут. У 1957 годзе вярнуліся на татаву малую радзіму Чарвякі (цяпер Сакалоўка). Цяжка было ўладкоўвацца, будавацца. Як-ніяк «вораг народа» вярнуўся. Татавы звароты да мясцовай улады амаль заўжды заставаліся нявырашанымі station ўча. Дрэва на будоўлю выдзялялі ў першую чаргу тым, каго лічылі заслужанымі: франтавікам, партызанам, калгаснікам і г.д. Выручала толькі татава працавітасць, яго залатыя рукі сталяра і тое, што матуля па нацыянальнасці руская. Таму і ўзяла яна на сябе ўсе зваротныя функцыі да ўладных структур. Не атрымаўшы дрэва на будоўлю, тата здолеў зарабіць сталярскай справай на старэнькую хацёнку, якую перавезлі ў Чарвякі з «васточнай» з Франуліна, што на Лагойшчыне. Матуля нарадзіла, выгадавала, вывучыла і ў людзі выправіла пяцярых дзетак. Гэты ўвесь сямей-

ны цяжар на матуліны плечы ўзваліў наканаваны ёй лёс, бо тата з жыцця сышоў вельмі рана, у 1979 годзе, калі яму не было і 59-ці. А 5 жніўня 2015 года пакінула нас і матуля. На вялікі жаль, толькі цяпер прыходзіць усведамленне, колькі было не ўдзелена ёй, як матулі, нашай дзіцячай увагі. Таму, каб хоць як рэабілітавацца перад яе светлай памяццю, я прысвяціў сваёй матулі радкі, у якіх перадаю свае пачуцці да яе, для якіх не знайшоў часу, калі яна яшчэ была жывая. Спадзяюся, што яна ў чарговы раз зразумее і даруе сваім недарэчным дзеткам і прыме запозненнае прызнанне.

## Споведзь

Сорак дзён ужо мінула,
Як нас пакінула матуля,
Закончыўшы Зямны шлях свой,
У Свеце іншым набыла спакой.
Яна там зараз спачывае,
З нябёс за намі назірае,
Як памяць пра яе мы тут шануем:
Ці памятаем і ці сумуем.
А як жа можна пра яе забыцца?!
Яна ўсё жыццё нам будзе сніцца,
Бо ўсіх пад сэрцам нас насіла
І аж пяцёра дзетак нарадзіла.
Адна яна нас гадавала,
Бо тату рана смерць забрала,
І адзявала нас, і абувала
Ды ад хвароб засцерагала.
І па чарзе ў школу ўсіх збірала,
Пасля хлапцоў у войска адпраўляла.

Жаніла нас, а дочак замуж выдавала
І чым магла, усім дапамагала.
Пасля адна сядзела ў акенцы,
Чакала, калі ж зойдуць дзеткі ў сенцы.
Яна была ўсім нам рада,
Толькі не заўжды ў нас была спагада.
Усе мы ў гэтым вінаваты,
Што лянаваліся наведацца да хаты.
А гэта ж хатка, наш радзімы кут,
Бо маці ўсіх нас нарадзіла тут.
Да смерці яе Таня даглядала,
Таму і спадчыну па праву атрымала.
Я, спадзяюся, што зберажэцца хата,
Бо будаваў яе калісьці тата.
Радкі вось гэтыя матулі прысвячаю,
Хай там яна спакойна спачывае,
Хай пухам Зямля ёй там будзе,
А мы яе ніколі не забудзем.

# ЧАРВЯКІ, ЯКІЯ СТАЛІ САКАЛОЎКАЙ, І БАНЭТКАЎ ХУТАР, ЯКІ ЗНІК

Мая вёска Сакалоўка, што ў Вілейскім раёне, мае сваю гісторыю, як любы горад альбо мястэчка. Некалі яна мела назву Чарвякі. Адсюль шмат пытанняў. А што гэта за Банэткаў хутар? За ўвесь час свайго існавання вёска разам з жыхарамі зведала шмат перамен і цяжкасцяў. Былі, праўда, і часы адраджэння, але ненадоўга. Іншаземнае пастаяннае нашэсце не дазваляла зберагчы гістарычныя каштоўнасці, і таму ўсё, што адбывалася, адыходзіла ў нябыт, пакідаючы толькі тое, што пераходзіла з пакалення ў пакаленне.



### *Сакалоўка была Чарвякамі*

Да 1965 года вёска Сакалоўка называлася Чарвякамі. Невядома, як і адкуль узялася гэта назва, чаму яе перайменавалі, чаму бальшавікам так хацелася ўсё былое знішчыць, сцерці з памяці, нават разам з людзьмі, ператварыць усё раней збудаванае ў руіны? І гэта рабілася, не пакідаючы пасля сябе аніякіх архіўных звестак. А калі што з запісаў і заставалася, то было ўсё ў «ружовым колеры». Сама вёска ўмоўна падзеленая нібыта як на адміністрацыйна-тэрытарыяльныя адзінкі. Кожная мае сваю назву: Пясчына, Глінішча, Казёншчына, Двор. Усе палі, лугі, лясы вакол вёскі таксама маюць розныя назвы. Напрыклад, Зяновіна, Вараніха, Паповіна, Куты, Расцяроб і Дзірынкі, Бор, Валокі ды Узвалле. Рэчка Вепратка і тая мела нейкі падзел брадамі, як іллючкоў, баранкоў, сталюкоў, чубачкоў і гэдак далей. Усё гэта, невядомае і загадкавае, сувязь з гэтымі назвамі, мяне і цікавіць. Я ўпэўнены, што шмат хто можа мне пярэчыць, маўляў, знайшоў пра што пісаць, такое паўсюль, бо так уладкаванае наша жыццё – адно знікае, а на яго месца прыходзіць штосьці іншае. Магчыма, яно і так. Назва нейкай малавядомай вёсачкі і яе гістарычны шлях – гэта як кропля ў моры для агульнай гісторыі. Але ж, як я лічу, гэта гісторыя, сапраўдная гісторыя краіны і павінна складацца менавіта вось з такіх кропелек, а не пісацца дзесьці ў прасторных кабінетах. За кожнай назвай хаваецца абавязкова штосьці вельмі цікавае. Але, на вялікі жаль, шмат пра якія, пра іх паходжанне мы ўжо ніколі не даведаемся. Хочацца распавесці пра адну вось такую назву і як яна ўзнікла – пра Банэткаў хутар. Пра існуючую назву гэтага месца мне распавёў 84-гадовы старажыл Сакалоўкі Барысевіч Уладзімір.




А ведае пра гэты хутар Уладзімір Канстанцінавіч не па чутках, ды і адносіны да яго мае самыя непасрэдныя, бо гэта яго малая радзіма. Тут ён правёў амаль што ўсё сваё дзяцінства. Гэта хутар яго бацькоў, на якім калісьці бурліла жыццё сям'і з марамі на лепшую будучыню. На вялікі жаль, тыя мары, як для большасці беларусаў, скончыліся трагічна. Але хочацца вярнуцца крыху назад, у больш ранні гістарычны час існавання вёскі Чарвякі.

Вёска наша, як і ўся Беларусь, ніколі не мела сваёй самастойнасці. Яна заўжды ад некага залежала і падпарадкоўвалася то царскай Расеі, то Вялікаму Княству Літоўскаму, то панскай Польшчы. І завяршыўся прыгнёт – бальшавікамі. У 1898 годзе ў карэннага жыхара Чарвякоў, у цесляра Барысевіча Бенядзікта, нарадзіўся сын, назвалі яго Канстанцінам. Рос хлапчук, як і ўсе вясковыя. Асвойваў навукі цесляра і сталяра. Разам з дарослымі працаваў на ладным кавалку зямлі, які перадаваўся ў спадчыну з пакалення ў пакаленне. А калі ў сваёй гаспадарцы працы было няшмат, то руплівы да працы хлопец хадзіў у суседнія Галэцкія да пана на падпрацоўку. Не цураўся аніякай работы. Што загадвалі – выконваў своечасова і якасна, за гэта пан яго цаніў і ніколі не крыўдзіў ў заробку.

### *Маланкавае каханне*

Кастусь быў не толькі да працы руплівы, але і да дзевак хваткі. Тут, у Галэцкіх, у пана на фальварку таксама працавала маладая і вельмі прыгожая дзяўчына з Борак, Кучка Анэта. Не заўважыць такую красуню Кастусь проста не мог. Патаемнае маланкавае каханне паміж маладымі схаваць было немагчыма. Адгуляўшы вяселле, яны адразу ж пачалі думаць пра асобны кут для сябе. Да іх асабістых зберажэнняў дабавілася яшчэ двухбаковая дапамога бацькоў. І ў хуткім часе ў вярсце ад Чарвякоў, у Навінках, каля лесу (Навінкі – гэта назва поля, там калісьці засяляліся новыя прыезджыя людзі), маладая сям'я купіла 7,5 гектара зямлі, на якой, не марудзячы часу, пачалі будавацца. Талакой будаўніцтва ішло хутка, і ўжо ў кароткі тэрмін пад лесам у Навінках з'явілася новая хата з гаспадарчымі пабудовамі. З той пары гэты хутар і пачалі называць у гонар старэйшага Барысевіча – Бенядзікта, якога вяскоўцы называлі па-простаму Банэткам. Вось так і з'явілася ў Чарвяках новая народна-геаграфічная адміністрацыйная адзінка – Банэткаў хутар. У маладых адно за другім нараджаліся дзеткі: Еўка, Адам, Валодзя і Грышка. Услед за сям'ёй разрасталася і мацнела сама гаспадарка. І гэта адбывалася толькі дзякуючы працавітасці маладых гаспадароў хутара. Ніводнага кавалачка зямлі не пуставала, усё засявалася, абраблялася і ўбіралася. Акрамя працы на зямлі, Кастусь меў заказы на выраб брычак.

### *Спакуса «райскага» савецкага жыцця*

Але з цягам часу праца на ўласнай зямлі і гаспадарцы стала не задавальняць. Хацелася больш багатага і больш цудоўнага жыцця. Спакусай гэтага «больш багатага і цудоўнага жыцця» была бальшавіцкая краіна, мяжа з якой

праходзіла менш як за вярсту на ўсход ад вёскі. Рэчка Вепратка з’яўлялася якраз памежжам паміж краінай саветаў і Польшчай. Бальшавіцкія лазутчыкі агітавалі мясцовае насельніцтва да супрацоўніцтва з НКВД, абяцаючы за гэта ім і іх сем’ям «райскае» жыццё пры савецкай уладзе. Кастусь патаемна, нават не сказаўшы жонцы, падпісаў пагадненне з бальшавіцкай разведкай на супрацоўніцтва. І каб больш валодаць унутранай інфармацыяй аб дзейнасці мясцовай польскай улады, уладкаваўся на працу ў Хаценчыцкую гміну (гэта як цяпер сельсавет) фурманам. Вазіў войта як у Вілейскі павет, так і па іншых справах. Увайшоўшы ў давер да войта, Кастусь збіраў розныя звесткі, якімі цікавіліся бальшавікі. Сабраную інфармацыю аб польскіх планах Кастусь хаваў у патаемнай схованцы, спецыяльна зробленай ім у брычцы. Пасля ў дамоўленым месцы гэтыя звесткі перадаваў бальшавікам…

## *Подыхі вайны*

Ужо ў сярэдзіне 1930-х гадоў добра адчувалася тое, што ў вёску хутка прыйдзе змена ўлады. У 1934 годзе Кастусём пачала ўжо цікавіцца польская разведка, і ён быў вымушаны, пакінуўшы ўсю сваю сям’ю на хутары, перабірацца за мяжу да бальшавікоў. Праз тры гады маўчання, у 1937 годзе, ён прыслаў ліст з далёкай Комі ССР, у якім увогуле анічога не пісаў пра абяцанае бальшавікамі «цудоўнае» савецкае жыццё. У лісце адчувалася нейкае расчараванне. Але нягледзячы на гэта, ён загадаў, каб сям’я ўжо пачынала рыхтавацца да пераезду, каб распрадавала ўсю гаспадарку і чакала ад яго выкліку.

Пакуль усё распрадавалася, а гэта брычкі, малатарня, шасцёра свіней, тры каровы, цяляты, два кані, шмат

курэй і іншае, наступіў верасень 39-га. І перабірацца хутаранам дзесьці ўдалеч за «шчасцем» адпала патрэба. Гэта «шчасце» на гора людзям само сюды прыйшло. Ад Кастуся сям'я так і не дачакалася больш вестак. У гаспадарцы Банэткавага хутара засталася толькі адна карова і некалькі курэй. Застаўшыся без гаспадара і амаль што без гаспадаркі, Банэткаў хутар ужо так, як раней, не жыў, ён толькі існаваў. Жылі за кошт выпадковых заробкаў ды яшчэ за кошт дапамогі бацькоў. З боку новай улады пра нейкую дапамогу не магло быць ніякай гаворкі.

Саветы вельмі коса, па-варожаму ставіліся да асобнікаў. Гэта так званая «вызваленчая» бальшавіцкая місія, акрамя калектывізацыі і арыштаў, нічога новага, а тым больш лепшага, для вёскі і яе жыхароў не прынесла. А ў чэрвені 1941 года гэта «праслаўтая» ўлада пакінула безабароннае чарвякоўскае насельніцтва на разарванне акупантаў і мясцовага бандытызму. Жыццё людзей ператварылася ў пекла. Удзень на хутар рабаваць прыязджалі немцы, а ўначы партызаны праводзілі экспрапрыяцыю. Банэткаў хутар у немцаў лічыўся партызанскім, і таму 5 мая 1943 года патрапіў пад фашысцкую карную аперацыю і быў спалены фашыстамі ў адзін дзень з Люа бчай, Боркамі, Брыгідавам і Старынкамі. Страціўшы ўсё, што было, нават і дакументы на зямлю, сям'я Барысевічаў знайшла прытулак у былой польскай стражніцы, якая знаходзілася каля маёнтка пана Бароўскага ў Чарвяках. Каб як пражыць сям'і, 14-гадовы Валодзя падаўся ў партызанскі лагер, дзе пасвіў там кароў. За працу партызаны давалі такія-сякія для сям'і пажыткі. Скончылася вайна, шмат хто з вяскоўцаў загінуў: хто ад нямецкіх шмайсераў, а хто ад бандыцкіх абрэзаў. Шмат не вярнулася з фронту.

## *Шпіёніў на бальшавікоў, а тыя ж яго і расстралялі*

Не вярнуўся і знік бясследна Барысевіч Канстанцін, былы агент бальшавіцкай разведкі пры польскім часе. Савецкія ўлады доўгі час не адказвалі яго родным на запыты і толькі ў 60-х гадах прыслалі адказ, што Барысевіч Канстанцін Бенядзіктавіч памёр ад сардэчнай хваробы ў Комі ССР. А ў гэтым годзе Уладзімір Барысевіч, сын Канстанціна, выпадкова даведаўся з архіўных дакументаў пра сапраўдны лёс свайго бацькі. А лёс яго быў падобны на лёс мільёнаў іншых савецкіх грамадзян. У 1934 годзе агент бальшавіцкай разведкі Барысевіч К. В., які збег ад польскага правасуддзя за мяжу да бальшавікоў за абяцаным імі цудоўным жыццём, у хуткім часе там патрапіў у рэпрэсіўную сталінскую машыну. Вынік – тры гады працоўных лагераў, а пасля суд «тройкі», арт. 58, расстрэл. Уладзімір Канстанцінавіч ніяк не можа ўразумець, за што расстралялі бацьку? Ён жа служыў гэтым бальшавікам верай і праўдай, а яны яго расстралялі як ворага народа!

## *Дакументы ў арыгінале*

• Борисевич Константин Венедиктович

Родился в 1898 г., д. Червяки Вилейского уезда; белорус; образование начальное; крестьянин, единоличное хоз-во. Проживал: Вилейская обл., Вилейский р-н, Хотенчицкая гмина, д. Червяки.

Арестован 16 июля 1934 г.

Приговорен: ОСО 2 декабря 1934 г., обв.: 24-68 УК БССР – шпионаж в пользу Польши.

Приговор: 3 года ИТЛ, отбыв.: Ухтпечлаг г. Чибью. Реабилитирован 31 мая 1989 г. Прокуратура БВО.

Источник: Белорусский «Мемориал»

• Борисевич Константин Венедиктович

Родился в 1898 г., Польша, Верейский уезд, д. Червяки; русский; слесарь при Доме печати. Проживал: г. Сыктывкар.

Арестован 26 августа 1937 г.

Приговорен: Особое Совещание при НКВД 10 января 1938 г., обв.: по ст. 58-6 УК РСФСР

Приговор: высшая мера наказания

Источник: Книга памяти Республики Коми.

Барысевічу Уладзіміру Канстанцінавічу, аднаму з нямногіх жывых сведак апошніх гістарычных вясковых падзей, ужо 84 гады. І ён амаль што адзіны, які вельмі жадае зберагчы і перадаць нашчадкам памяць аб мінулым. Шмат чаго ўжо знікла беззваротна, і не толькі значэнні нейкіх назваў, але знікаюць з картаў нават цэлыя вёскі. Але я задаволены тым, што невядомая гісторыя майго краю з кожным разам становіцца больш вядомай. І Банэткаў хутар гэту гісторыю дапаўняе.

# НОВАЯ ГУТА, ВАЙНА І БЫК ВАСЬКА

Каб расказаць пра лёс вёскі, я звярнуўся да тых вяскоўцаў, якія памятаюць, як Новая Гута перажыла Другую сусветную вайну і якой была да яе пачатку. Баба Лёдзя – так завуць вяскоўцы самую старэйшую і карэнную жыхарку гэтай вёскі. Калі афіцыйна, то Мікуліч (Кулеш) Леакадзія Станіславаўна. Яна нарадзілася яшчэ за польскім часам, у 1934-м, у працавітай сялянскай сям'і. Бацька, Кулеш Станіслаў Іосіфавіч, 1887 г.н., і маці, Вольга Іванаўна (Філістовіч), 1902 г.н., акрамя дачкі Лёдзі, выхоўвалі яшчэ двух сваіх сыноў: Гэньку, 1931 г.н., і Бронюка, 1929 г.н. Сям'я мела нядрэнную гаспадарку. У пабудаваным дыхтоўным доме мела прытулак і родная сястра гаспадара, адзінокая старая дзеўка Антаніна Іосіфаўна. Усім хапала



месца ў хаце, працы – таксама. Куляшы валодалі трыма гектарамі ворнай зямлі. Трымалі дзве каровы, сем авечак, шмат курэй, гусей і нават качак, штогод калолі па чацвёра парсюкоў. Для апрацоўкі зямлі мелі свайго каня з усімі прыладамі. І быў яшчэ здаравенны бык Васька, які ў гаспадарцы цалкам сябе апраўдаваў. Да вайны Новая Гута налічвала каля 70 двароў, кароў было шмат, і пасвілі іх на два канцы вёскі. Васька спраўна выконваў свае «кавалерскія» абавязкі, за якія яго гаспадар атрымоўваў ад гаспадынь «нявест-рагуль» матэрыяльную ўзнагароду. Калі патрэба ў Васькавых паслугах спадала, ён не адмаўляўся і ад ярма, каб каню ў полі дапамагчы альбо дроў на зіму з лесу нацягаць. Так і жылі паціху пры сваіх інтарэсах, з павагай, паразуменнем і сяброўскімі адносінамі да суседзяў і да вяскоўцаў увогуле. Усе разам святы святкавалі ды ў бядзе адзін аднаго не кідалі.

Напрыканцы 30-х гадоў інфраструктура вёскі складалася з трох крамаў, невялічкага шклозавода, на якім выраблялiся побытывыя дробязі (газнічкі, графіны, чарнільніцы, фуфэрыкі пад лекі і іншае. Была школа з чатырма польскамоўнымі класамі і невялічкая ўніяцкая царква, стаўшы пасля вайны праваслаўнай.

У 1932 годзе праз гарэлку ў адной вясковай краме, гаспадаром якой быў Шушкевіч Іван, здарыўся вялікі пажар. Польскія ўлады забаранялі прыватнікам гандляваць гарэлкай. Але тыя час ад часу не падпарадкоўваліся і прадавалі моцныя напоі. Аднойчы гандляр Шушкевіч у чарговы раз палез на гарышча крамы па схаваную там гарэлку для кліентаў. Ад няўдала чырканутай запалкі, каб пасвяціць, раптам успыхнула саламяная страха крамы. З-за гарачага і ветранага надвор'я полымя так хутка ахапіла ўсю пабудову, што гаспадар і наведнікі ледзь паспелі з яе выскачыць на вуліцу. Вецер пачаў зрываць саламяную па-




лыхаючую страху цэлымі снапамі і разносіць іх на іншыя хаты. Быў рабочы дзень, амаль што ўсе працавалі ў полі. Пакуль народ зляцеўся ў вёску, полымем ужо было ахоплена больш за дзесяць хат. У выніку, 17 сямей засталіся без даху над галавой, гаспабудоў і амаль без жыўнасці. Такой трагедыі Новая Гута яшчэ не ведала. Але тады навагуценцы не ведалі, што гэта бяда не самая страшная. Талакой пачалі адбудоўваць пагарэльцаў. Да зімы хоць і з цяжкасцямі, але ўсе засяліліся ў такое-сякое жытло. Ад польскай улады чакаць нейкай дапамогі не даводзілася. Было ўжо не да сялянскіх праблем. Набліжаўся 1939 год. Ужо ўсе добра адчувалі набліжэнне вайны. Ды і гаварылі пра яе адкрыта савецкія лазутчыкі-агітатары. Яны амаль што без перашкод пераходзілі савецка-польскую мяжу, якая была чатыры вярсты на ўсход ад вёскі, за суседнімі Боркамі. Для жыхароў Новай Гуты, як і для шматлікіх беларусаў, Другая сусветная вайна пачалася ў 1939 годзе. Спачатку разгарнулася мабілізацыя сялян у польскае войска, а па прыходзе бальшавікоў – у Чырвоную Армію. Але пасля маланкавага захопу бальшавікамі польскай тэрыторыі, настала амаль двухгадовае заціш-




ша. Парушылася яно 22 чэрвеня 1941 года. А ўжо 25 чэрвеня гэтага ж года ў Новую Гуту на матацыклах завіталі гітлераўцы са сваім новым парадкам і загадамі.

Вяскоўцам загадалі выбраць вясковую ўладу – солтыса. На гэту пасаду навагуценцы ўгаварылі пайсці Гаўрыліка Міхаіла, чалавека з халоднай галавой, самастойнага і справядлівага. Солтыс сачыў за грамадскім парадкам, кантраляваў своечасовыя зборы падаткаў, памер якіх залежаў ад магчымасцяў кожнага падворка. Спіс такіх магчымасцяў і павінны быў складаць менавіта солтыс. Што ён і зрабіў, але знізіўшы іх да мінімуму. Час ішоў, немцы ў вёску заязджалі рэдка. А калі яны з'яўляліся, то людзі, каб падаткаабкладанне адпавядала магчымасцям, аператыўна хавалі сваю галоўную жыўнасць ў лесе ў даржніку.

Пасля ад'езду немцаў жывёлу прыганялі дадому. «Але не кожны раз усю, – кажа Леакадзія Станіславаўна. – Бывала, пакуль у вёсцы па хлявах гаспадарылі немцы, у лесе з даржніка знікалі то авечка чыя-небудзь, то парсючок, а то і карова нават». Як пасля высветлілася, вакол вёскі ў лесе сталі з'яўляцца ўзброеныя людзі. З наступленнем




маразоў яны ўвогуле перайшлі жыць у Новую Гуту. Вось адна з такіх груповак, чалавек дзесяць, засялілася ў дом Куляша Станіслава. Спалі ў большым пакоі на падлозе на саломе. Так і жылі ціхенька гэтыя «кватаранты» да канца 1942 года. Прэтэнзій ніякіх ні да каго не выказвалі, нават да солтыса. А пры з'яўленні ў вёсцы немцаў сыходзілі ў лес. У пачатку 1943 года кудысьці сышлі і не было іх бачна з месяц. Вярнуліся «кватаранты» да Куляша на двух падводах, якія былі загружаныя мяшкамі з мукой. Іх адносіны да гаспадара дома былі ўжо патрабавальнымі. Вользе Іванаўне паведамілі, што яна цяпер штодня будзе пячы хлеб для партызанскай брыгады. А гаспадару Станіславу Іосіфавічу загадалі аддаць ім быка Ваську для стратэгічных патрэб брыгады. З'еўшы Ваську, народныя мсціўцы тым самым пакінулі вясковых кароў ялаўкамі, якіх ужо і так было няшмат. Дагэтуль «кватаранты» на вясковую вуліцу і носа не высоўвалі, а пасля па ёй пачалі гуляць, як поўныя гаспадары. Усім людзям, у тым ліку і солтысу, з пагрозай пакарання загадалі, каб больш немцам ніякіх падаткаў не плацілі, а дапамагалі ім. Людзі апынуліся ў вельмі складаным становішчы паміж двух агнёў. Раней пагроза была толькі з боку немцаў,




а цяпер яшчэ і ад гэтых узброеных асоб. «Кватаранты» ў Куляша забралі добрага каня, а ў замен аддалі нейкага старога і ўвогуле сляпога. Апрача гэтага, яны яшчэ на гэтым коніку прымусілі Куляша ездзіць збіраць сена для партызанскай канюшні. Вось гэтак неспадзявана Куляшы сталі дапамагаць партызанам: Вольга была партызанскім хлебапёкам, а Станіслаў – партызанскім фуражным забеспячэнцам.

Аднойчы ў марозную сакавіцкую ноч Станіслаў вёз з Вязыні сена і, праехаўшы ўжо Іллю, нарваўся на нямецкі патруль. Вымушаны быў звярнуць у лес і там хавацца, а з канём гэта не так проста. Праседзеў у лесе на марозе ці не двое сутак. Як здолеў выбрацца з лесу і дабрацца дадому, Станіслаў распавясці ўжо не змог. Ад моцнага пераахаладжэння памёр, аддаўшы жыццё за сена для партызанскіх коней.

Наступіла вясна, хтосьці данёс у іллянскую камендатуру, што навагуценцы не плацяць немцам падаткі, таму што дапамагаюць партызанам, якія тут і жывуць. Немцы не прымусілі сябе чакаць і знянацку наляцелі на вёску, каб захапіць партызан і тых, хто ім дапамагае. Але партызан хтосьці папярэдзіў пра акцыю, і яны своечасова сышлі ў лес. Не знайшоўшы чужынцаў і іх прыхільнікаў, немцы ў апошні раз папярэдзілі насельніцтва пра наступствы непадпарадкавання нямецкім уладам. Падаткі павінны быць сабраныя, інакш кары не мінуць! Вясковы сход вырашыў сабраць хоць якія падаткі ды адправіць немцам. Так і зрабілі, каб быць ад граху падалей. Пар-

тызаны па вёсцы больш не ездзілі, прыязджалі толькі па хлеб да ўдавы Вольгі.

Напрыканцы красавіка 1943 года, сярод ночы, у хату Лабкоўскай (Альбуты) Елізаветы ўварваліся невядомыя асобы. Вывелі яе і 17-гадовага сына Уладзіміра ў сад і расстралялі, пакінуўшы запіску «за здраду». За якую і каму, ніхто не ведае і сёння. На наступную ноч гэтыя ці іншыя начныя бандзюганы забралі са сваёй хаты братоў Філіповічаў, Пятра і Паўла. Яны таксама зніклі без следу і невядома за што. А праз некалькі дзён Новую Гуту акружылі карнікі. Акрамя шматлікіх аўтаматчыкаў, яны з добрым дзясяткам кулямётаў стаялі па ўсім перыметры вёскі. Усіх жыхароў, ад малога да старога, сагналі да тока Альшэўскіх. Сам ток быў ужо абкладзены пад самую страху саломай, абліты газай і чакаў свае ахвяры. Людзей абвінавачвалі ў непадпарадкаванні нямецкай уладзе і ў садзейнічанні партызанам. Тут уступіўся Гаўрылік Міхаіл, вясковы солтыс. Ён намагаўся запэўніць галоўнага эсэ эсаўца ў тым, што людзі тут не вінаватыя. Яны не маюць аніякай сувязі з партызанамі. У вёсцы днямі невядомыя ўжо і так дваіх чалавек забілі, і падаткі вяскоўцы плацяць спраўна. Гітлеравец штосьці задумаўся і ўсё-такі вырашыў праверыць словы солтыса. Ускочыўшы вярхом на каня, ён падаўся ў Іллю. Праз пэўны час вярнуўся назад і даў каманду



Масальская Ванда Уладзіміраўна

адмяніць акцыю расправы. Як толькі гітлераўцы з’ехалі, вяскоўцы гуртам рушылі ў лес рыхтаваць сабе запасное жытло, зямлянкі на «лісіных норах». І не памыліліся. Невядомыя ўначы забралі Гаўрыліка Міхаіла і адвялі на Навасёлкаўскія могілкі, на якіх і расстралялі. Толькі за што? Ён жа фактычна вырятаваў людзей ад немінучай гібелі, а яго расстралялі. Пасля месца солтыса заняў таксама свой вясковец, Ілля Кібалка. Вось гэты ўжо служыў верай і праўдай немцам. Прымаў удзел у спальванні сваёй жа роднай вёскі і нават сваёй хаты. Пасля вайны атрымаў дзесяць год зняволення за злачынствы, праяўленыя супраць мірнага насельніцтва. Нават супраць сваіх блізкіх і родных.

Хочацца асобна вылучыць гібель маленькіх дзетак, гадавалага Толіка і двухгадовую Марыльку Масальскіх, якія загінулі галоднай смерцю проста на руках іх старэйшай сястрычкі Ванды.

# КРАМЯНЕЦ І «СВЯТЫ КАМЕНЬ» ДАЖДЖБОГА

Крамянец Лагойскага раёна – гэта вёска-загадка. На першы погляд яна цяпер нічым не адрозніваецца ад іншых. І, як шматлікія беларускія вёсачкі, упэўнена набірае сабе балы бесперспектыўнасці. Маладзейшыя яе жыхары, хто не паспеў яшчэ моцна спіцца, пакідаюць свой родны кут ды раз’язджаюцца па ўсёй краіне ў пошуках лепшай долі. Цяпер насельніцтва Крамянца складае крыху больш за сотню жыхароў, галоўным чынам пенсіянеры. А калісьці, нават у перадваенны час, у Крамянцы жыло недзе да паўтысячы чалавек. Вёска адмірае разам са сваімі жыхарамі, якія нясуць з сабой у свет іншы звесткі пра няпісаную, вельмі цікавую і загадкавую гісторыю вёскі. Адно толькі само размяшчэнне вёскі загадкавае


Крамянец. Від з Маяковай гары.

і выклікае зацікаўленасць. Вёска з трох галоўных вуліц утварае трохкутнік. З усіх яе бакоў, да самых падворкаў, прылягаюць шнуры вяскоўцаў, а за імі раскінуліся калгасныя палеткі. Паселішча знаходзіцца на гарыстым ландшафце, на ўзвышшы 209 метраў над узроўнем мора. І што цікава: калі глядзець з вышыні, то Крамянец стаіць быццам бы на няправільным чатырохкутнім востраве памерам прыкладна 5×2,5 кіламетра. І, хутчэй за ўсё, калісьці, шмат стагоддзяў таму, яно так і было на самой справе. Бо межамі яго з «вялікай» Зямлёй з'яўляюцца чатыры рэчкі, якія абгінаюць Крамянец з усіх бакоў, пакінуўшы толькі адзіны вузенькі, у некалькі соцень метраў, праход на паўднёвым усходзе, паміж рэчкамі Выпратай і Мышкаўкай. На паўночным усходзе мяжой, будзем казаць, вострава, з'яўляецца рэчка Ілля. Паўднёвы Усход размяжоўваюць рэчкі Мышкаўка і Сліжанка. Паўднёва-заходняя і заходняя мяжа пралягае акурат па рэчцы Выпрата. Тры апошнія рэчкі з'яўляюцца прытокамі Іллі. Рэчышчы гэтых чатырох рэчак калісьці блыталіся па непралазных балотах і паплавах. У 60-70 гадах мінулага стагоддзя, пасля меліярацыі балот, на паўночных, усходніх і паўднёвых межах Крамянецкага ўзвышша праводзілася торфанарыхтоўка. Меліярацыя не закранула толькі заходнюю мяжу, таму што была менш забалочанай, але ўсё адно цяжкапраходнай. Бо прылеглае да берагоў рэчак разналессе было таксама забалочанае. Таму мясцовасць гэта, на самой справе, падобна больш да вострава. Палеткі вакол Крамянца давалі не толькі добрыя ўраджаі збожжа, бульбы, лёну, але яшчэ ўраджайнымі былі на крэмень, які краменчукам прыносіў нядрэнныя прыбыткі да сямейнай казны.

Але толькі гэтым зямля крамянецкая не абмяжоўвалася. Яна ў сваіх нетрах захоўвала немалыя залежы мелу.

Яго тут дабывалі з незапамятных часоў. А дабываўся мел паўадкрытым спосабам. Распрацоўкі былі цалкам ручныя і невялікімі шахтамі, якія былі вельмі небяспечныя, бо нічым не ўмацоўваліся. Такія шахты часцяком абрушваліся, забіраючы жыцці здабытчыкаў пад свае завалы. Здабыты з шахты мел-сырэц мясілі як гліну, раскладалі гэта месіва ў формы, высушвалі, і ў выніку атрымоўваўся кілаграмовы паўкруглы мелавы праснак. Гандлявалі ім на кірмашах у Даўгінаве, Іллі, нават Маладзечне і Ракаве.


Дажджбог,крамянецкі
камень- следавік.

А самая загадкавая гістарычная таямніца Крамянца, якая надала вёсцы знакамітасць, – гэта «Святы камень» Бога Сонца – Дажджбог. Як, калі, адкуль, з якой мэтай гэты камень тут з’явіўся і якую ролю адыгрываў у жыцці краменчукоў, ніхто па сённяшні дзень адназначнага адказу не мае. Існуюць розныя меркаванні і паданні, але ў дадатак да ўжо сказаных, я хачу расказаць пра яшчэ адно, думаецца, што яму знойдзецца месца на гістарычнай старонцы Крамянца. Нашы далёкія і нават не зусім далёкія продкі жылі са шчырай верай у душы і сэрцы. І вера гэта пераходзіла з пакалення ў пакаленне, як спадчына. З глыбіні стагоддзяў да нашых дзён дайшлі прыклады і культавыя сімвалы язычніцкай веры, якая была вельмі моцнай. Вера ў Бога і ў свайго бліжняга аб’ яд-

ноўвала людзей, прыбаўляла ім аптымізму на заўтрашні дзень і на будучыню. І мае землякі, краменчукі, гэтаму не выключэнне. Іх продкі свята верылі Богу, а для яго пакланення і ахвяравання выбралі валун на ўскрайку лесу за вёскай. «Святы камень» – гэтак яго называюць з незапамятных часоў. Язычніцкая вера ў нас, у параўнанні з Еўропай, існавала вельмі доўгі час. Але, як кажуць, усе шляхі вядуць у Рым, а культавыя ў першую чаргу. У Еўропе першыя старажытнарымскія культавыя пабудовы (базілікі) з'явіліся ўжо ў другім стагоддзі да нашай эры. Да краменчукоў таксама дайшла альтэрнатыва іхняму «Святому каменю», але толькі аж у XVII ст. н.э. Тады ў суседнім Батурыне была пабудаваная ўніяцкая капліца, якая ўваходзіла ў лукавецкі маёнтак Шумскай Брыгіды. У той час Батурына належала да Вялікага Княства Літоўскага. Краменчукі пачалі наведваць гэту святыню і паступова пераходзіць з язычніцтва ва ўніяцтва. У 1793 годзе – пасля другога падзелу Рэчы Паспалітай – Батурына адышло да Расейскай імперыі. Імператрыца Кацярына ІІ скасавала ўніяцкую царкву, адным росчыркам пяра пераўтварыўшы ўніятаў у праваслаўных. Пад гэта пераўтварэнне патрапіла і батурынская капліца, а разам з ёй і яе прыхаджане, у тым ліку і з Крамянца. Але ўжо ў канцы 1796 года расейскім імператарам стаў сын Кацярыны Павел. Ён аднавіў уніяцкую царкву і вярнуў ёй ранейшыя парафіі. Тады ж было ўтворанае Мінскае каталіцкае біскупства, у склад якога ўвайшлі каталіцкія парафіі Лагойшчыны. Батурынская капліца таксама апынулася ў ягоным складзе. У тым самым годзе храм быў «асвечаны абрадам рымскім пад тытулам св. Міколы» і стаў філіяльным касцёлам парафіі ў Гайне (Лагойскі раён), а пасля – парафіі ў Радашкавічах. З усімі гэтымі пераўтварэннямі вымушаны былі пагаджацца і парафіяне

з Крамянца. У Батурынскім касцёле яны вянчаліся, хрысцілі дзетак, але свой «Святы камень» не забывалі.

Як расказвалі старажылы, падчас Другой сусветнай вайны «Святы камень» выратаваў жыхароў Крамянца ад немінучай смерці. У нямецкай паліцыі ніхто з крамянчукоў не служыў, гэта была цалкам партызанская вёска, акружаная амаль з усіх бакоў балотамі. Фашысты сюды не заязджалі, толькі некалькі разоў бамбілі з самалётаў. На Вялікдзень 1943 года адбылася чарговая бамбардзіроўка. Вяскоўцы «адсвяткавалі» яе на балоце ў Белях. Пасля гэтага наступіла зацішша. Людзі вярнуліся да свайго звычайнага на той час жыцця. Узяліся за сяўбу і да Радаўніцы амаль што ўправіліся. Вёска вырашыла перанесці страчанае Велікоднае святкаванне на Радаўніцу. Як толькі ўсе жыхары сабраліся каля «Святога каменя», над Крамянцом узняліся чорныя клубы дыму. Вясковая разведка прынесла звесткі, што фашысты знянацку, з боку Чарвякоў (Сакалоўкі), распачалі блакаду супраць насельніцтва. Не застаўшы вяскоўцаў у вёсцы, карнікі вырашылі яе спаліць. Вёска была знішчаная датла. Абышлося без чалавечых ахвяр дзякуючы толькі «Святому каменю», які «паклікаў» сваіх вернікаў да сябе на свята. У крамянчукоў па сённяшні дзень зберaглася вера ў моц «Святога каменя», Бога Сонца. Святое месца наведваюць і сёння, але ўжо нешматлюдна. Вёска вымірае, памяць застаецца, але як надоўга? Гэта залежыць толькі ад нас, ад жывых!

# НЕВЯДОМАЯ ГІСТОРЫЯ МАЙГО КРАЮ

## *Успаміны сведак трагічных падзей мінулага стагоддзя*

Тое, пра што хачу распавесці, узятае з успамінаў самых непасрэдных сведак тых далёкіх і трагічных часоў мінулага стагоддзя. Амаль што ўсе відавочцы памерлі, забраўшы з сабой вялікую частку таго, што бачылі, праз што прайшлі, што перажылі і што адчулі менавіта на сабе. І гэта не проста людзі, гэта людзі з вельмі складаным і трагічным лёсам. Яны прайшлі праз шматлікія выпрабаванні і сталі жывой гісторыяй, гісторыяй майго краю. Гэта Спецыян Таццяна, Валовік Паліна, Барысевіч Уладзімір, Паўлюкевіч Галіна, Луцкі Мікалай, Арцішэўская Ганна, Тарачдайка (Сыч) Браніслава, Міцько Леаніла, Кажура Аляксандар, Булах Аляксандра, Карповіч Зінаіда і іншыя. Яны могуць яшчэ шмат чаго дапоўніць да раней сказанага іншымі, каго ўжо няма сярод нас. Лічу, тое, што нам стала вядома, неабходна абнародаваць, інакш згіне беззваротна і сатрэцца з памяці людской і гэта, хоць невялічкая, але сапраўдная частка невядомай гісторыі майго краю.

## *Пачатак трагічнага перыяду*

У маёй вёсцы Чарвякі (цяперашняя Сакалоўка), як і ва ўсёй заходняй частцы Беларусі, польская ўлада скончылася ў верасні 1939 года. З таго часу пайшоў адлік новага і вельмі трагічнага часу як для самой вёскі, так і для яе жыхароў. Першае, што зрабілі бальшавікі, гэта далі во-

лю як сабе, так і вяскоўцам рабаваць маёнтак пана Бароўскага Ігнася, а таксама ўсё, што яму належала. А гэта канюшня, сырабойня, птушнік, ставы, на якіх разводзілася шмат карпа, вадзяны млын. Зямлю панскую падзялілі і аддалі ў карыстанне чарвякоўскаму беззямельнаму сялянству. Усё пусцілі на самацёк, а наладзіць парадак у грамадстве і ўводзіць хоць нейкае сваё заканадаўства не вельмі спяшаліся. Яны ўсю ўвагу скіравалі на пошукі «ворагаў» народа сярод жыхароў, і гэта ў іх нядрэнна атрымоўвалася. Сам пан Бароўскі з сям’ёй і ўпраўляючым Цекатоўскім Янам паспелі збегчы на захад. А вось Раткевіча з Загаранаў, які працаваў у пана аграномам, напаткаў марны лёс. Яго самога і яго жонку Ванду (яе дзявочае прозвішча Барысевіч) бальшавікі арыштавалі і саслалі ў Комі. Патрапілі на гэты шлях і простыя вяскоўцы, па адным толькі даносе. А тут неўзабаве наступіў 1941 год, і на змену бальшавіцкаму нашэсцю прыйшло фашысцкае і лесабандыцкае. Хвалёнае «несокрушимое и непобедимое» бальшавіцкае войска так спешна адступала, што нават не заўважыла, як яго вайскоўцы разбягаюцца па беларускіх лясах.


Герб Бароўскіх

Немцы ў вёсцы з’явіліся ўжо на трэці дзень вайны. Яны прывезлі з сабой новага ўпраўляючага польскага паходжання, прозвішча якога з цягам часу ўжо сцерлася з памяці, а вось імя яго было Ежык, па прафесіі адстаўны ваенны лётчык. Ён адразу ж пачаў аднаўляць панскі маёнтак і ўсю гаспадарку. Запрацавалі ставы і млын. А частку зямлі ад сялян ён забраў пад нямецкую ўправу. У гэтай управе ў хуткім часе з’явіўся нават трактар, які і апрацоўваў усю зямлю. Вярнуўся назад у сваю хату

і былы панскі ўпраўляючы, Цекатоўскі Ян з 24-гадовым сынам Чэславам. Чарвякоўцы працавалі: хто на сваёй зямлі, хто на панскім двары альбо на ставах. Пастаянных немцаў у вёсцы не было, а гарнізоны іх знаходзіліся ў Іллі і Хаценчыцах. Прыязджалі яны ў вёску рэдка, і то толькі днём. Але жыцця спакойнага не было. Што хлебанулі чарвякоўцы страху, гора і бяды, то хлебанулі! Днём немцы збіралі аброк з людзей – у каго яйкі, у каго курыцу, а ў каго і парася. Але каб сказаць, што ўсё пад чыстую, то не. А ноччу таксама не было спакою. Вакол вёскі ў лясах было шмат груповак, якія складаліся пераважна з акружэнцаў. Яны спрабавалі называць сябе партызанамі, але насельніцтва іх лічыла самазванцамі і бандытамі, таму што паводзіны ў гэтых лясных ваяк былі цалкам бандыцкія. Дык вось ноччу яны ў насельніцтва экспрапрыіравалі ўсё, што толькі можна было, а хто не аддаваў добраахвотна, забіралі прымусова. Упартаму гаспадару накідвалі адзін канец вяроўкі з пятлёй на шыю, а другі канец перакідалі праз бэльку і ў падвешаным стане пакідалі чалавека да той пары, пакуль не скажа, дзе што схавана. Альбо ставілі да сцяны і стралялі. Свіст куль над галавой даводзіў чалавека да бяспамяцтва. Такім чынам бандыты прымушалі чалавека аддаваць апошняе. І ўчыняліся гэтакія здзекі прама на вачах усёй сям'і, у тым ліку і маленькіх дзетак. Тых, хто праклінаў дзеянні гэтых бандыцкіх фарміраванняў, бязлітасна каралі, нярэдка самай лютай смерцю. Такі вось страшны лёс напаткаў Юшкевіча Янука, у якога гэтыя ваякі неяк выцягнулі апошняе парася з хлява, за што той абазваў іх бандытамі. А ўжо праз некалькі дзён пасля выпадку гэтыя бандыты завіталі да Юшкевіча і загадалі ісці з імі, быццам бы паказаць дарогу да Борак. Перапалоханага Янука вывелі за вёску на хутар Зароўскага, дзе спачатку з яго здзекаваліся ўсяляк,

а пасля ўжо зусім знямоглага дабілі шомпалам праз вуха і кінулі ў студню.

Іванец Кастусь з суседняй вёсачкі Ляхі працаваў у Ежыка на ставах, вазіў рыбу немцам у Іллю. Яго за гэта бандыты таксама ўначы выцягнулі з хаты і адвялі да рэчкі. Пасля няўдалага стрэлу параненага Кастуся задушылі ломам ужо ў вадзе. А вось чаму самога Ежыка не зачапілі, засталося загадкай. Пасля расправы над Кастусём, каб больш немцы не атрымоўвалі рыбу, самазванцы ўзарвалі плаціну на рацэ Вепратцы. Драўляная плаціна яшчэ спрадвеку ўтварала вялікае возера, вада з якога падавалася на ставы і круціла млын. У выніку гэтай дыверсіі мясцовыя жыхары, якія працавалі на ставах, засталіся без працы, а ўся вёска без млына. Чарвякоўцы, каб змалоць якое-небудзь збожжа, вымушаныя былі ўжо хадзіць за тры вярсты ў Краменец. Але ў 1943 годзе плаціна была адрамантаваная партызанскай брыгадай імя Фрунзе. Запрацавалі ставы і млын.

Падчас вайны ў пошуках ежы па вёсках хадзіла шмат гарадскога насельніцтва. Многія не мелі пры сабе дакументаў. Такіх людзей як шпіёнаў расстрэльвалі не толькі немцы, але і лясныя ваякі. Аднойчы гэтыя ваякі сустрэлі нейкага хлапчука без зброі і дакументаў, адразу расстралялі як нямецкага шпіёна на Лявонавым хутары. Жанчына-інвалід, бязрукая, з дзіцем маленькім, зайшла ў вёску хлеба папрасіць, дык спачатку з яе паздзекаваліся, а пасля таксама расстралялі разам з дзіцем. І падобных забойстваў было вельмі шмат. Забітых у лесе людзей бандыты ніколі не хавалі. Гэту місію выконвалі вяскоўцы, калі знаходзілі якога-небудзь забітага, а не – знойдзеныя даставаліся ваўкам. А калі каго бандыты стралялі ў вёсцы, то свае ахвяры ў асноўным закопвалі самі на могілках у бульбяных ямах.

Пасля вайны яшчэ доўгі час людзі знаходзілі чалавечыя косці і чарапы ў лесе. Аднойчы, яшчэ ў дзяцінстве, збіраючы ягады, мы таксама натрапілі на такую знаходку. Відовішча вельмі жахлівае. А самая жудасная трагедыя адбылася ў 1942 годзе, калі была расстраляная цэлая сям'я Валовіка Сцяпана, які даводзіўся маёй бабцы Паўлінцы родным пляменнікам і стрыечным братам майму бацьку. Сцяпан працаваў леснікам і пры Польшчы, і пры саветах, застаўся працаваць і пры немцах. Ягоная сям'я на той трагічны час тулілася ў маленькай варывеньцы, бо хата іх згарэла падчас бамбёжкі вёскі з самалётаў. Дарэчы, гэта варывенька стаіць яшчэ і сёння, у сценах яе добра бачныя дзіркі ад кулямётных куль. Што мелі да Сцяпанавай сям'і лясныя «мсціўцы», так і засталося невядомым. Яны, як звычайна, уначы ўварваліся ў тую варывеньку і з кулямёта перастралялі ўсіх, хто толькі там быў: Сцяпана, яго жонку Сашку і двое іх маленькіх дзетак, дзвюх Сцяпанавых сясцёр – Надзю і Кацю, а таксама яго састарэлую маці, Марыльку. Параненая Надзя намагалася ўцячы ад бандытаў, але беднай дзяўчыне ўдалося дабегчы толькі да



плота. Там у яе лясныя злачынцы ўжо не стралялі, каб не нарабіць лішняга шуму ў вёсцы, а дабівалі ўжо прыкладамі. Выратаваўся тады ад смерці толькі брат Сцяпана, Васілька. Ён неяк здолеў босым выскачыць з варывенькі і ўцячы ад смерці за дванаццаць вёрст ад Чарвякоў у Шчарачыху, дзе жыў тады ягоны старэйшы брат Андрэйка. Вачсілька там расказаў, як у тую ноч у варывеньцы Валовікаў знішчалася сям’я, расказаў тое, што здолеў запомніць. Ён казаў, што нейкі тоўсты бандыт усё дапытваўся ў Сцяпана, чаму ён працуе ў лясніцтве, і за кожным разам біў яго шомпалам па вачах. Не вытрымаўшы катаванняў, закрыўшы акрываўлены твар рукамі, Сцяпан паваліўся на падлогу. Шукаючы хоць якога паратунку ад бандытаў, ён запоўз пад ложак і ўжо адтуль кляўся, што ні ў чым не вінаваты, і прасіў пашкадаваць хоць сям’ю. Азвярэлы бандыт ужо нічога не хацеў слухаць і загадаў свайму напарніку страляць. Старая Марылька, пачуўшы такое, узяла на рукі ўнучку, якой было тры тыдні, і запатрабавала ад бандытаў: «Калі будзеце страляць, то перш мяне!» Стоячы каля парога, бандыт, які размаўляў з каўказскім акцэнтам, даў доўгую чаргу пад ложак, Сцяпан сціх. Другая чарга прайшлася па Марыльцы і некалькі куль патрапілі прама ў тварык немаўляці.

У гэты момант у варывеньцы стала цёмна, ці то пагасла газнічка, ці то ад убачанага ў Васількі ў вачах пацямнела! Як бы там ні было, але ў той момант у Васількі, хутчэй за ўсё, спрацаваў інстынкт самазахавання. Ён не памятаў, як апынуўся ў канцы заснежаных агародаў, на сцежцы (на палявой дарозе ўздоўж вёскі). Першае, што пачуў, гэта дзявочы крык, а пасля мужыцкую лаянку. І раптам усё сціхла. Васілька здагадаўся, што гэта крычала адна з яго сясцёр. Хвілін праз дзесяць-дваццаць акалелыя ногі данеслі яго да свайго свірна. Не паспеў як




мае быць адагрэцца ў сенях, як у вёсцы зноў прагучалі глухія кулямётныя чэргі. Стрэлы даносіліся ў накірунку хаты, у якой жыла Барвічыха Стася са сваёй сястрой. Васілька зразумеў, што радні яго ўжо больш няма і калі заставацца тут, то толькі на сваю пагібель. Абгарнуўшы саматканай посцілкай ногі, ён рушыў у бок Шчарачыхі да брата, як мага далей ад сваёй смерці. Але, мабыць, Васільку было наканаванае кароткае жыццё, бо хутка яго і брата Андрэйку расстралялі каля Капусціна быццам бы немцы, але існуе версія, што іх забілі як сведкаў злачынства тыя самыя бандыты.

Засталася з усёй сям'і толькі адна Ксеня, сястра Сцяпана, якая ў той час жыла ў Лукаўцы ў радні Анкудаў. У тую ж ноч пасля забойства Сцяпанавай сям'і бандыты расстралялі і цешчу Сцяпана, Барвічыху Стасю, і яе сястру за тое, што быццам бы Стасін сын служыў у паліцыі. Гэтых забітых дзвюх жанчын бандыты самі завезлі на могілкі і закапалі ў бульбяных ямах. І па сённяшні дзень нікому невядома дакладнае іх месца пахавання. А вось расстраляную Сцяпанаву сям'ю лясныя нелюдзі загадалі Сцяпанавым суседзям Краўчонкам завезці на могілкі і закапаць. Ад іх і стала вядомае месца пахавання. Пасля вайны па Сцяпану і ўсёй загінулай тады радні сястра Ксеня паставіла помнік, які быў выраблены з бетону маім бацькам Ляксандрам і Ксеніным мужам Віктарам.

Аналагічная трагедыя, пра якую мне распавяла Таццяна Спецыян, адбылася і ў суседніх Навасёлках, у якіх таксама была знішчаная цэлая сям'я з дзевяці душ, у




тым ліку шасцёра дзяцей ад 16 год да аднаго месяца. Гэта сям'я Мардаса Івана, ці Прайцісёнкаў, як звычайна іх клікалі. (Раней пры зносінах паміж сабой вяскоўцы выкарыстоўвалі мянушкі, па якіх можна было адразу зразумець, менавіта каго субяседнік мае на ўвазе. Бо шмат хто з жыхароў вёскі меў аднолькавыя прозвішчы. Амаль палова чарвякоўцаў мела прозвішча Валовік. Таму людзі, каб не блытацца, проста вымушаныя былі прымяняць мянушкі). Прычынай расстрэлу сям'і Прайцісёнкаў стала нібыта сувязь Іванавага швагры з немцамі. Банда вар'ятаў дзейнічала па аднолькавым сцэнарыі, як і ў Чарвяках. Уварваліся ноччу ў хату і з кулямёта зрашэцілі ўсіх, хто толькі там быў, не пашкадавалі нават месячнае немаўля, якое ляжала ў калысцы. Пасля той жорсткай звярынай расправы над сям'ёй Мардаса, бандыты загадалі вясковым мужыкам, каб тыя да раніцы пахавалі расстралянных, а ў самой хаце прыбралі ўсе сляды забойства. Калі мужыкі пайшлі забіраць загінулых, то ў хаце сутыкнуліся з такім відовішчам, ад якога адзін з іх, убачыўшы тое крывавае месіва, нават страціў прытомнасць. Усё было заліта крывёй; сцены, падлога і самі забітыя ляжалі ў лужах крыві. Але бандыцкі загад мужыкі выканалі – сям'ю Мардаса Івана пахавалі на Навасёлкаўскіх могілках,




Ушанаванне памяці загінулых

а ў хаце ўсё прыбралі. Праз нейкі час у ёй размясціўся штаб партызанскай брыгады імя Фрунзе.

У лясах, ад Навасёлак і да Любчы, хавалася шмат узброеных груповак. Дысцыпліна ў гэтых атрадах увогуле адсутнічала і наладжваць яе ніхто не збіраўся. Савецкае камандаванне неаднаразова намагалася дэсантаваць кадравых ваенных у гэтыя атрады, але ўсё дарэмна. Яны загадкава гінулі альбо ўвогуле знікалі без следу. Сярод старых, хто добра памятае той ваенны час, існуе такое меркаванне, што гэтых савецкіх кадравых ваенных знішчалі самі ж самазванцы-партызаны. Ім вельмі падабалася вольнае казацка-бандыцкае жыццё з анархісцкім ухілам.

Але ўжо з 1943 года вольнае жыццё гэтых груповак паступова пачало набіраць дысцыплінаваны характар. Спрыяла гэтаму тое, што ў Навасёлках размясціўся штаб партызанскай брыгады імя Фрунзе, іллянскае падполле, а таксама асобы аддзел НКВД, які кватараваў у хаце Куляша Іосіфа. Сама брыгада дыслакавалася ў лесе, у вярсце на поўдзень ад вёскі, на месцы былой смалярні. Складалася і папаўнялася яна за кошт усё тых жа разрозненых,

анархісцкіх груповак з акружэнцаў і мясцовага насельніцтва. У Чарвяках на былым панскім двары ў пабудове былой сырабойні быў размешчаны сфарміраваны атрад у колькасці 32 партызанаў, якім камандаваў Аляксееў. А ў Ляхах з’явіўся асобны атрад падрыўнікоў, яго ўзначальваў Селівёрстаў. Насельніцтва не падтрымлівала гэтыя атрады з-за іх дурной славы, і, хутчэй за ўсё, гэта галоўная прычына таго, што яны не патрапілі ў Кнігу памяці Вілейскага раёна. Асобы аддзел НКВД правяраў усіх, хто прыходзіў у брыгаду. Асабістаў цікавіла пераважна здрада і сувязь з немцамі, і гэта было галоўным для бандыцкіх фарміраванняў, якія тут дзейнічалі з самага пачатку вайны. Здзекі, катаванні і забойствы мірнага насельніцтва з боку гэтых фарміраванняў НКВДоўцы амаль што не бралі да ўвагі. Магчыма, штосьці і разглядалася, але пра іх рашэнні нічога не афішыравалася сярод насельніцтва.

Быў толькі адзіны выпадак, калі яны разгледзелі злачынства, якое немагчыма было ўжо схаваць, таму што мела вялікі рэзананс сярод насельніцтва. За садысцкія адносіны да жанчын быў асуджаны да вышэйшай меры з адтэрміноўкай пакарання мужчына па мянушцы Садко. На насельніцтва навакольных вёсак ужо толькі адно слова Садко наводзіла жах, асабліва на жанчын. Неаднаразова асуджаны за злачынствы яшчэ да вайны, а падчас вайны ўзброены карабінам, Садко ў кожнай вёсцы адчуваў сябе поўным гаспадаром, браў усё, што хацеў і каго хацеў. Пасля прысуду Садко выпала магчымасць рэабілітавацца. Па загадзе камандавання брыгады ён здолеў знішчыць бліндаж з немцам і трыма паліцэйскімі ў Хаценчыцах. Гэты ўчынак НКВДоўцы палічылі геройскім і даравалі яму не толькі жыццё, але і званне партызана, якое ён з вялікім гонарам насіў да канца сваіх дзён, яшчэ шмат год пасля вайны.

Наступіў 1943 год, у вяскоўцаў ночы сталі спакайнейшымі. Бандыцкія рабаванні зніклі, ды і забіраць ужо не было чаго, амаль за два гады ў людзей выцягнулі ўсё, што толькі можна. А хто з іх займаўся рабаваннем, гвалтам жанчын, здзекамі, катаваннем і забойствам мірнага насельніцтва, гэтага высветліць нам, хутчэй за ўсё, ужо ніколі не ўдасца. Прайшло ўжо сем дзесяцігоддзяў, а следства наконт гэтага так ніхто і не распачынаў, не распачынае і наўрад ці распачне. Таму што пасля вайны радня Валовікаў хацела даведацца пра забойцаў сям'і, але ўсё дарэмна. Адказ на зварот быў кароткі і зразумелы: «Вайна патрабуе ахвяр, а пераможцаў не судзяць!» Як усім вядома, савецкая ідэалогія забараняла штосьці мяняць у гісторыі, якая была напісаная там, «наверсе», і толькі ў ружовым колеры. Яно і ў наш час яшчэ шмат хто больш паважае салодкую хлусню, а не горкую ды балючую праўду. Можа, ужо і не трэба капаць вельмі глыбока. Забітых ужо не ўваскрэсіш. І тых, хто забіваў, таксама ўжо няма на гэтым свеце. Ды й варушыць усё, каб адпомсціць іх нашчадкам, значыць, быць падобнымі да тых забойцаў. Я ўпэўнены ў тым, што дзеці альбо ўнукі тых злачын-


Сям'я Бароўскіх. (канец XIXст.)

цаў калі не ўсё, то вельмі шмат ведаюць пра «гераізм» сваіх продкаў. Не сумняваюся ў тым, што, ведаючы пра ўчынкі сваіх бацькоў і дзядоў, якія здзекаваліся з мірнага насельніцтва, жыць з гэтым ім і так ой як цяжка! Таму наша галоўная задача – не ўчыняць разборкі, а вярнуць з забыцця прозвішчы нявінна загінулых і ўшанаваць іх светлую памяць.

Паспрабуем паразважаць, хто яны былі гэтыя бандыты, адкуль яны ўзяліся, хто імі кіраваў, што іх штурхала на злачынствы, што ім служыла апраўданнем за забойствы мірнага насельніцтва, у тым ліку немаўлят? Ці панёс хто-небудзь з гэтых самазванцаў якое-небудзь пакаранне і як склаўся іх лёс у пасляваенны час? Калі сабраць у адно цэлае ўсе ўспаміны сведкаў таго ваеннага ліхалецця, то ўсё сыходзіцца на адным. Бандыцкія фарміраванні складаліся як з акружэнцаў, так і з мясцовага насельніцтва, і кіравала імі анархія і ўпэўненасць у беспакаранасці за свае ўчынкі. На злачынны шлях у адносінах да насельніцтва іх падштурхоўвала ўласная баязлівасць, смага да добрага жыцця і вера ў тое, што вайна ўсё спіша. І спадзяванні іхнія ўсё ж такі апраўдаліся. Немцаў яны баяліся чапаць, а вось ад рабавання безабароннага насельніцтва, гвалту жанчын, забойстваў людзей атрымоўвалі вялізную асалоду. Ды і пагрозы ім ад сваіх няўзброеных людзей не было ніякай. Успаміны старажылаў сведчаць пра аднаго вельмі жорсткага бандыта Федасеева Пашку-старшыну. Ён быў узброены кулямётам Дзегцярова, з якім і патрапіў у атрад Аляксееўцаў. І што менавіта з гэтага кулямёта была расстраляная сям'я Валовіка, то гэта адназначна. Толькі хто націскаў на курок, Пашка ці хто іншы, – невядома? Жорстка Пашка адносіўся і да сваіх братоў па зброі. Неяк двое Пашкавых сяброў вырашылі цішком сысці не толькі ад яго з-за жорсткасці, але з атрада ўвогу-

ле, на ўсход, за лінію фронту. Недалёка яны змаглі адысці, ужо на ставах гэтыя два хлопцы былі расстраляныя як здраднікі Пашкавымі паплечнікамі. Праз нейкі час пасля гэтага, падчас блакады, на Паліку быў забіты і сам старшына Пашка. Шмат хто сцвярджаў, што яго парашылі свае за жорсткасць і садызм.

Да сённяшняга дня заставалася загадкай, чаму, калі немцы палілі Любчу, Боркі, Брыгідава, Старынкі, Батурына і Банэткаў хутар 5 мая 1943 года, вёскі Чарвякі і Навасёлкі не былі знішчаныя? Зыходзячы са шматлікіх сабраных звестак, якія вядуць толькі да адной версіі, ужо сёння з упэўненасцю можна канстатаваць той факт, што гэтыя вёскі ад знішчэння выратаваў псаломскі Ляшкевіч Сцяпан, які служыў тады ў Хаценчыцкай царкве і добра валодаў нямецкай мовай. А як гэта яму аднаму ўдалося зрабіць? Сведкі ўсе амаль аднагалосна спасылаюцца толькі на адну версію: немцы ўсё ж такі ўлічылі тое, што гэтыя вёскі і так былі ўжо пакараныя ляснымі бандытамі. А ў гэтым іх запэўніў тады, падчас той карнай аперацыі, менавіта псаломскі. Таму вёскі і не знішчылі. Калі з усяго гэтага зрабіць агульныя высновы, то атрымоўваецца,


Васілі,Іван,Марына,Валянціна,Аляксандр
Тамара,Віктар. Дзеці Ксені Наўмовіч.

што чарвякоўцы і навасёлкаўцы цалкам абавязаныя сваім аднавяскоўцам, якія загінулі ад бандыцкіх куль сем дзесяцігоддзяў таму! Ім было лёсам наканава загінуць, каб жыла вёска, каб жылі мы і нашы дзеткі. І таму загінулыя сем'і заслугоўваюць вялікай пашаны, і псаломскі Ляшкевіч Сцяпан таксама. Бо існуе толькі адзіная, вось гэта версія выратавання Чарвякоў і Навасёлак ад знішчэння ў той дзень, 4 мая 1943 года, калі вакол палыхалі Любча, Боркі, Брыгідава, Старынкі, Батурына і нават Банэткаў хутар, а нашы вёскі і іх жыхары засталіся цэлымі. Таму загінулыя дарослыя і дзеткі заслугоўваюць таго, каб іхнія прозвішчы былі вернутыя з забыцця. Вось прозвішчы людзей, якія былі закатаваныя і расстраляныя ляснымі бандытамі і якія не патрапілі ў Кнігу памяці?

**Чарвякі (Сакалоўка)**

Валовік Сцяпан (галава сямі'і) 1920 г.н.
Валовік Аляксандра (жонка) 1921 г.н.
Валовік Надзея (сястра) 1923 г.н.
Валовік Кацярына (сястра) 1924 г.н.
Валовік Іван Сцяпанавіч 1940 г.н.
Валовік Ганна Сцяпанаўна 1942 г.н.
Валовік Марылька (маці) 1880 г.н.
Баравік Станіслава (Барвічыха цешча) 1891 г.н.
Баравік Ганна (сястра Стасі) 1895 г.н.
Іванец Кастусь 1897 г.н.
Юшкевіч Янук 1895 г.н.

**Навасёлкі**

Мардас Іван (галава сям'і) 1905 г.н.
Мардас Манька (жонка) 1908 г.н.
Мардас Антон (брат) 1912 г.н.
Мардас Стась (сын) ?

Мардас Яніна (дачка) ?
Мардас Марыся (дачка) ?
Мардас Владэк (сын) ?
Мардас Віця (сын) ?
Мардас (месячнае немаўлятка) 1942 г.н.
Пашкевіч Ксенія Сцяпанаўна 1924 г.н.

А як жа склаўся пасляваенны лёс герояў гэтага артыкула... Валовік Ксенія Іванаўна ў 1951 годзе выйшла замуж за мясцовага хлопца Навумовіча Віктара. У іх сям'і нарадзілася чацвёра хлопцаў і тры дзяўчыны. Бог паслаў ім такую колькасць дзетак як кампенсацыю за страту родных у тую ракавую ваенную ноч. Цяжка, вельмі цяжка было гадаваць такое сямейства, але на гэта ніхто не скардзіўся. У сям'і кожны займаўся тым, што было яму па сілах і здольнасцях. Дзеткі падрасталі. Гледзячы на сваё сямейства, як яно ўпэўнена падымаецца на ногі, і пасля народзінаў Марынкі, як кажуць паскрэбка, у Ксені ўпершыню за доўгія гады на твары пачала праскокваць усмешка. Магчыма, пачаў прытупляцца душэўны боль па страчаных родных падчас вайны. Толькі-толькі штосьці пайшло да лепшага і з'явілася нейкая радасць у жыцці, як лёс паслаў Ксені новае выпрабаванне. Трагічны выпадак на паляванні забраў жыццё мужа і бацькі семярых дзяцей, Віктара. Здарылася гэта трагедыя ў 1970 годзе, калі самай меншай, Марынцы, тады было ўсяго толькі тры годзікі. Гэты стрэл для Ксені адгукнуўся далёкай кулямётнай чаргой з мінулага, ад якой загінулі яе ўсе родныя. Яна зноў стала панурай і замкнутай. Але нягледзячы на ўсе цяжкасці жыцця, на невыносны, а да якой ступені, то гэта толькі ёй адной вядома, душэўны боль, яна змагла адна выгадаваць, падняць на ногі і вывесці ў людзі сваіх дзетак. Сёння яны ўсе займаюць годнае месца ў грамад-

стве. Жывуць спадзяваннем, што наступіць час і імёны іх трагічна загінулых продкаў зоймуць пачэснае месца ў гісторыі вёскі і ў Кнізе памяці. Барысевічу Уладзіміру Канстанцінавічу 84 гады, але ён вельмі добра памятае тое трагічнае ваеннае ліхалецце. Памятае, як чарвякоўцам даводзілася падпарадкоўвацца тром уладам – фашысцкай, партызанскай і бандыцкай. Уладзімір Канстанцінавіч – карэнны жыхар вёскі Чарвякі, якія ў 1965 годзе сталі Сакалоўкай. Ён амаль да драбязы памятае, што адбывалася ў вёсцы яшчэ за польскім часам. На маё пытанне, адкуль ён столькі ўсяго ведае, Канстанцінавіч адказаў: «Шмат ведаю, таму што пражыў на свеце ўжо нямала і таму што жыццё ўсё сваё пражыў разам з вяскоўцамі. Радасць і гора ў нас заўжды былі агульнымі». Да самага трагічнага перыяду свайго жыцця Уладзімір Канстанцінавіч адносіць час Вялікай Айчыннай вайны. Жыць даводзілася пад пастаянным страхам за сваё жыццё, якое магло абарвацца ў любую хвіліну: днём ад нямецкіх шмайсераў, а ноччу ад бандыцкіх абрэзаў ды кулямёта. Не па чутках яму вядома, як ад рук лясных бандытаў гінулі вяскоўцы,



БАРЫСЕВІЧ У.К. І ШАХРАЙ АНАТОЛЬ,НІНА І ІХ УНУКІ




і ў першую чаргу сям'я Валовіка Сцяпана. Яму ёсць пра што расказаць нашчадкам, галоўнае, каб яны ўмелі слухаць і памяталі, праз што прайшлі іх бацькі і дзяды. Валовік Паліне Ігнатаўне і Валовік Соф'і Ільінічне, так як і майму бацьку, Валовік Сцяпан даводзіўся стрыечным братам. Яны на свае вочы бачылі акрываўленае месца забойства нашай агульнай радні, учыненае ляснымі бандытамі. Яшчэ і сёння перад вачыма ў гэтых жанчын стаяць знявечаныя кулямі тварыкі маленькіх дзетак. Каб пахаваць забітых, радні трэба было яшчэ ўзяць на гэта дазвол у тых самых бандытаў, якія расстралялі Сцепанёнкаў, а гаспадарку іхнюю ўшчэнт абрабавалі. Такое забыць немагчыма. Жанчыны ўсё жыццё мараць, каб хоць як ушанаваць памяць бязвінна загінулых. Думаецца, калі ўзяцца агулам, то цяпер гэта ўжо можна зрабіць.




Паўлюкевіч Галіна Пятроўна таксама добра памятае ваенны бандытызм і безуладдзе, якое панавала ў вёсцы ад чэрвеня 1941-га і да вясны 1943 года. Бандыты, якія па-зверску забілі яе дзядзьку

Кастуся, хутчэй за ўсё, так і засталіся непакаранымі. А дзядзька, як і іншыя загінулыя ад рук бандытаў, нават не патрапіў у Кнігу памяці ахвяр вайны. Пякарская Марыя Трафімаўна, 82-гадовая жыхарка вёскі Шчарачыха, – адна з нямногіх, хто застаўся яшчэ жывой сведкай мінулай вайны. Праз што прыйшлося прайсці ёй і яе сям'і, яна не здолее забыць да канца сваіх дзён. Яна яшчэ і сёння здзіўляецца таму, як яны змаглі выратавацца ад гвалтоўнай і галоднай смерці падчас таго жудаснага ваеннага ліхалецця. Безуладдзе, а больш правільным будзе сказаць шматуладдзе, прымушала не жыць, а выжываць пад пастаянным страхам за сваё жыццё і жыццё родных перад мацнейшымі. А мацнейшы быў той, хто меў зброю, а хто са зброяй, той і ўлада. Немцы ўдзень законы свае трактавалі ды аброк збіралі, а ўначы то бандыты налёты рабілі, то партызаны кватаравалі. І іх трэба было забяспечваць усім неабходн


ПАЎЛЮКЕВІЧ ГАЛІНА ПЯТРОЎНА


ПЯКАРСКАЯ МАРЫЯ ТРАФІМАЎНА

ным у першую чаргу і толькі пасля, што заставалася, – сабе, а заставалася амаль нічога. Марыя Трафімаўна добра памятае, як у 1942 годзе да Андрэя Валовіка прыйшоў ягоны родны брат Васіль з Чарвякоў з жудаснай весткай. Ён расказаў, як лясныя бандыты па-зверску знішчылі ўсю сям'ю іхняга старэйшага брата Сцяпана. Не атрымаўшы ніякай спагады і абароны і не знайшоўшы ўправы на бандытаў ад лясной улады, Андрэй у спадзяванні на справядлівасць вырашыў звярнуцца да нямецкай, а ў выніку там жа і загінуў лютай смерцю. Васіль з вёскі загадкава знік. Марыя Трафімаўна таксама, як і іншыя, прытрымліваецца той версіі, што яго знішчылі як сведку злачынства тыя самыя чарвякоўскія бандыты. Сям'я Пякарскіх таксама засталася безабароннай падчас блакады. Як толькі пачалася аблава, кватаранты-партызаны падаліся ў лес у невядомым накірунку, а Пякарскія трапілі ў рукі фашыстаў і ўсе былі вывезеныя на работы ў Германію. З канцлагера сям'ю вызвалялі амерыканцы, і таму дадому яны дабіраліся цэлых паўгода, да восені 45-га. А тыя, хто добраахвотна быў з'ехаўшы на Нямеччыну, дзе жылі і працавалі ў гаспадароў на волі, вярнуліся ў родную вёску вясной, адразу ж пасля перамогі. Марыі Трафімаўне дзіўна тое, што пасля вяртання на Радзіму здраднікамі лічылі не толькі тых, хто з'ехаў добраахвотна, але і тых, хто быў вывезены прымусова ў канцлагер. А з цягам часу тых добраахвотнікаў залічылі ў вязні. Старой крыўдна і балюча такое ўспрымаць. Але кажа: «Бог усім нам суддзя».

Спецыян Таццяна Іванаўна вайну запомніла на ўсё жыццё. Ніколі ёй не забыцца, як у яе вёсцы Навасёлках лясныя бандыты расстралялі сям'ю Мардаса Івана з дзевяці душ, як яе бацьку ставілі да сцяны і з кулямёта стралялі над галавой, каб той аддаваў боты, як апошні кусок хлеба адбіралі ад дзяцей, як палілі немцы вёскі Брыгіда-


ЛУЦКІ МІХАІЛ ГАЎРЫЛАВІЧ

ва ды Старынкі і іх ніхто не змог абараніць, а навасёлкаўцы вымушаныя былі хавацца ў балоце за Крамянцом, хоць і мелі «сваіх» партызанаў у вёс» цы. Але ў той час яны кудысьці з вёскі зніклі.

Луцкі Міхаіл Гаўрылавіч з Хаценчыцаў – жывы архіў гісторыі. Міхаілу Гаўрылавічу на выгляд і пры зносінах больш за 70 не дасі, а на самой справе гэтаму вельмі цікаваму чалавеку стукнула ўжо 92 гады. Нягледзячы на ягоны ўзрост, ён застаецца цудоўным расказчыкам, ведае ўсяго шмат і добра памятае, што адбывалася яшчэ за польскім часам. Памятае ўсё да дробязяў. Ведаў добра ляснога вольнага казака-садыста Садко, які быў вялікай пагрозай для жанчын, а не для немцаў. Вядома яму таксама, хто і за што спаліў вёску Зачарная. Бог надзяліў Гаўрылавіча добрай памяццю. Гэта не проста чалавек, гэта жывы архіў гісторыі нашага краю. Ён можа шмат расказаць, а мы павінны як мага больш усяго гэтага зафіксаваць для нашых нашчадкаў. Да прыкладу, як псаломшчык Хаценчыцкай царкчвы Ляшкевіч Сцяпан, выратаваў ад смерці 97 яўрэяў. А як гэта яму ўдалося, даведаецеся цяпер.

У Хаценчыцах стаяў нямецкі гарнізон, у склад якога ўваходзілі пераважна мясцовыя і літоўскія паліцэйскія, а таксама колькі немцаў. Неяк днём у гарнізон прыехалі карнікі і загадалі ўсім яўрэям з дакументамі і рэчамі першай неабходнасці сабрацца каля былой польскай гміны. Людзі вырашылі, што іх чакае перасяленне, таму і прыхапілі з сабой усё, што маглі, – больш неабходнае і, канешне

ж, каштоўнасці. А іх сагналі ў хлеў пры гміне, загадалі распрануцца і забралі ўсё, што мела каштоўнасць. Адна з яўрэяк упляла ў касу залатыя вырабы, але немцы неяк здагадаліся, а можа, хто і падказаў. Абрабаваных яўрэяў пакінулі ў замкнутым хляве. Псаломскі Ляшкевіч, які прысутнічаў на гэтай акцыі, доўга размаўляў з немцамі, пасля чаго людзей вызвалілі. Па планах карнікаў, яўрэяў павінны былі знішчыць, і вызваленне гэта, як высветлілася пазней, было проста адтэрміноўкай іх гібелі па просьбе псаломскага. З Ляшкевічам немцы лічыліся і прыслухоўваліся да яго, таму што ягоная дачка была замужам за нямецкім афіцэрам. Калі карнікі з'ехалі, то Ляшкевіч папярэдзіў яўрэяў, каб тыя сыходзілі з вёскі і хаваліся, таму што зондэркаманда праз некалькі дзён вернецца. Усе яўрэі пакінулі вёску. Размясціўся лагер за Загаранамі ў лесе пад назвай Зацішша. Жылі пад адкрытым небам. Калі пайшлі моцныя дажджы, то абшчына Шульскага Абрама з 12 чалавек не вытрымала і прыняла рашэнне ісці дадому, маўляў, усё адно гінуць. Але ў вёсцы ўсё кантралявалася паліцаямі. І як толькі яны вярнуліся, адразу з'явіліся карнікі. На допытах ад Шульскіх немцы так і не даведаліся, дзе хаваюцца астатнія.

Шульскага Абрама і ўсю ягоную абшчыну расстралялі ў канцы Хаценчыцаў, сярод трох яўрэйскіх хат, у якіх і да сёння жывуць людзі. А на тым месцы, дзе былі расстраляныя і пахаваныя Шульскія, яўрэі ўсталявалі помнік, які даглядаюць мясцовыя жыхары. Расповеды Масальскай Ванды з Новай Гуты нельга назваць проста расповедамі, гэта КРЫК знявечанай душы! Яна шмат што расказала пра свой лёс. Тое, што яе закранула ў вайну, яна ніколі не зможа забыць. З самага яе пачатку вяскоўцы, застаўшыся сам-насам, цалкам безабаронныя, хаваліся ад усіх тых, хто быў са зброяй у руках. Вёска яе пастаян-

на рабавалася і бандытамі, і немцамі. Немцы намагаліся як мага больш людзей адправіць на працу ў Нямеччыну. Не дасягнуўшы канчатковай сваёй мэты, карнікі знішчылі яе датла, засталіся стаяць толькі белыя коміны ад печаў. І ніхто не змог абараніць ад ворага ні вёску, ні саміх людзей, частка якіх усё ж такі трапіла на Нямеччыну.




Спадарыня Ванда, калі распавядала мне пра свой лёс, то хваляванні і эмоцыі яе перапаўнялі. Жанчына, гледзячы скрозь мяне дзесьці ў далёкае мінулае і ў той жа час зусім блізкае і балючае, скорагаворкай задавала мне пытанні адно за другім і сама ж на іх услед адказвала: «Дзе былі тыя «вызваленцы», калі палілі нашу вёску, Любчу, Боркі?! Чаму не завязалі хоць якую-небудзь вайну з немцамі, каб людзей адбіць?! Не завязалі таму, што самі сядзелі ў кустах і нас ад сябе праганялі, каб немцы іх не заўважылі. Чаму тыя «вызваленцы» дазвалялі бандытам нас рабаваць і чаму не выратавалі ад галоднай смерці маю маленькую сястрычку?! Хутчэй за ўсё дазвалялі таму, што ад тых бандытаў ім штосьці перападала. Будавацца пасля вайны ніхто не дапамог, а сёння гэту хатку бацькоўскую я яшчэ і выкупляць вымушаная. Нікому я не давяраю, ні ў якую справядлівасць не веру і ні на кога не спадзяюся. Давер і вера ў справядлівасць згарэлі ў маёй душы яшчэ ў тыя цяжкія часіны. Калі мы гінулі, то ніхто не падаў руку дапамогі. Ратаваліся самі, як маглі!» Паўгадзінная сустрэча пралящела як пяць хвілін, і я вельмі шкадаваў, што прымусіў гэту жанчыну хоць умоўна, успамінамі, але яшчэ раз прайсці праз пекла той страшэннай вайны.

### *Лічыць сябе вінаватым*

Кажура Аляксандр Іванавіч, былы партызан партызанскай брыгады імя Фрунзе, якая дыслакавалася ў лесе ў вярсце на поўдзень ад вёскі Навасёлкі і ў якой размяшчаўся штаб гэтай брыгады ды асобы аддзел НКВД. У 1943 годзе, як толькі з’явіліся першыя сапраўдныя партызанскія атрады, Аляксандр Іванавіч у 16-гадовым узросце адразу ж падаўся ў іх. Быў прызначаны ардынарцам камандзіра партызанскага атрада. Развозіў пакеты па іншых атрадах. Вазіў падрыўнікоў на чыгуначныя дыверсіі пад Маладзечна. Ведае не па чутках, як некаторыя атрады займаліся разбоямі і начным рабаваннем насельніцтва. Як знішчаліся цэлыя сем’і дзеля запалохвання іншых. Цалкам упэўнены ў тым, што калі б не было партызаншчыны, то і не было б такіх трагічных наступстваў цалкам для ўсяго насельніцтва. Партызаны ваявалі, знішчаючы ворага, а вораг знішчаў мірнае насельніцтва. Пасля перамогі ўзнагароды атрымалі толькі тыя, хто ваяваў, але не мірныя людзі, якія загінулі і якія цудам выжылі ў тым пекле. Такія размеркаванні Аляксандр Іванавіч лічыць несправядлівымі. Ён па сённяшні дзень лічыць сябе вінаватым перад загінулымі, што не змог іх ратаваць. Мабыць, таму ён усё сваё пасляваеннае жыццё даглядае добраахвотна брацкую яўрэйскую магілку, якая знаходзіцца каля самага яго падворка.


КАЖУРА АЛЯКСАНДР ІВАНАВІЧ

## *Пасляваеннае жыццё садыста*

А як жа склаўся пасляваенны лёс бандыта Садко, пра якога я распавядаў яшчэ раней? Садко-садыст атрымаў баявыя ўзнагароды, карыстаўся ўсімі льготамі як ветэран і нават як інвалід вайны. Хаця ўсім было добра вядома, што нагу Садко скалечыў яшчэ да вайны, скочыўшы на хаду з цягніка, на якім рабаваў пасажыраў. Я добра яго ведаў, таму што жыць пасля вайны ён застаўся ў суседнім Брыгідаве. Дзяржава яму як ветэрану дапамагла пабудавацца і як інваліда забяспечыла транспартам (мотакаляскай). Гэта быў чалавек невялікага росту з непрыемным тварам і кульгавы на левую нагу. Вёў разбэшчаны і нахабны лад жыцця, заўжеды выкарыстоўваў сваё становішча ветэрана. Памяняўшы не адну жонку, так і не абзавёўся нашчадкамі (можа, гэта і да лепшага). Апранаўся Садко вельмі недарэчна, таму і выгляд у яго быў абы-які. Асабліва яго шапка-вушанка, у якой адно вуха заўжды было паднятае ўверх, а другое пастаянна цеяляпалася, што кожны раз у вяскоўцаў выклікала смех і жарт з гэтага чалавека. Чарвякоўцы Садко пазнавалі яшчэ здалёк па яго хадзьбе ды па знакамітай шапцы-вушанцы, якую ён мог нацягнуць нават і ўлетку. Па паводзінах вясковых сабак чарвякоўцы нават у начной цемры маглі здагадвацца, што Садко ў вёсцы. Бо калі той ішоў па чарвякоўскай вуліцы, то кульгавая яго нага пастаянна шоргала па брукаванцы, а кійком лязгатаў па камянях так, як сучасныя жанчыны абцасамі па тратуары. І хутчэй за ўсё, што, менавіта, гэта яго шорганне і лязгатанне кійком вельмі не падабалася вяснсковым сабакам, з-за чаго яны і падымалі та-а-к-і-і-і лямант, што аж ланцугі ў іх трашчэлі. А яшчэ, каб трымаць дзетак у дысцыпліне, бацькі выкарыстоўвалі мянушку Садко, паказвалі яго ў вобразе страшылкі і як нешта вельмі адмоўнае і страшнае, якім ён сябе зарэкамендаваў падчас вайны. І ў выхаванні нашчадкаў гэта методыка добра спрацоўвала.

# ДЗЯЦІНСТВА СЯРОД СТРАХУ І КРЫВІ

Бейшар (Царык) Ірына Антонаўна нарадзілася ў 1938 годзе ў Сакалоўцы (Чарвяках) у звычайнай сялянскай сям'і каталіцкага веравызнання. Хрышчэнне прыняла ў Батуранскім касцёле на трэцім месяцы жыцця. Тата, Царык Антон Пятровіч, 1908 г.н., і матуля, Царык (Тарлецкая) Аміля Іванаўна, 1906 г.н. Ірына Антонаўна жыццё пад Польшчай памятаць не магла, бо была зусім маленькая, ды і з ваеннага ліхалецця запомнілася толькі некалькі момантаў. Распавядала мне толькі са слоў сваіх самых блізкіх родных і родных мужа Мечыслава, якім верыла. Давайце разам акунёмся ва ўспаміны спадарыні Ірыны.


Бейшар (Царык) Ірына Антонаўна.

Царыкаў радня была вельмі вялікая, але жылі ўсе не па-царску, а звычайным сялянскім жыццём. Кожная сям'я мела невялікія кавалкі зямлі і абраблялі яе сваімі коньмі. З гэтай зямлі, галоўным чынам, і карміліся, гадуючы каровак, кабаноў ды птушку свойскую, у тым ліку і вадаплаўную. Гэтаму спрыяла рэчка Вепратка і ставы пана Бароўскага, у якога Антон Пятровіч часцяком падпрацоўваў. Наступіўшы 1939 год, прынёс чарвякоўцам раўнапраўе. Царыкі вымушаныя былі «дзяліцца» за гады нажытымі сваімі сціплымі пажыткамі з беззямельнымі і лайдакамі. Панскі двор і сырабойню абрабавалі. Ставы таксама экспрапрыіравалі на карысць народа. Толькі ад той карысці было нашмат больш шкоды. Не паспелі вяскоўцы, як след, апамятацца ад польска-савецкіх пераменаў, як наступілі савецка-нямецкія. І таксама без стрэлаў.

### *Адны сышлі, другія прыйшлі*

Ад раніцы 25 чэрвеня 1941 года саветы, здаўшы ўладу нацыстам і пакінуўшы безабароннае ўжо савецкае насельніцтва на волю лёсу, хуценька сышлі на Усход. Дакладна гэтак, як палякі 17 верасня 1939-га сыходзілі ад саветаў на Захад. Але тады польскія памежнікі хоць крыху на Брыцкім далі адпор «вызваленцам», адкінуўшы да Старынак РСЧА.

Пры немцах выжывалі як маглі, хаваючыся ад усіх, хто са зброяй з'яўляўся ў вёсцы. Рабаванні, гвалт, забойствы адбываліся амаль штодзённа. У 1943-м са з'яўленнем больш-менш дысцыплінаваных партызанскіх атрадаў, бандытызм прыціх, але затое немцы ўзмацнілі налёты і блакады. Падчас адной такой блакады 4 мая 1943 года немцы акружылі вёску. Палова насельніцтва паспела збегчы ў лес, а палова была захопленая фашыстамі. Кар-


Род Бароўскіх на прыканцы 30-х гадоў

нікі абрабавалі начыстую ўсё, што было ў хатах, а людзей загналі на ток Валовіка Сцяпана, сям'ю якога расстралялі лясныя бандыты месяцы чатыры таму. Ток быў ужо абкладзены саломай і абліты бензінам. На таку стаяў енк і плач жанчын, немы крык дзетак. Але раптам дзверы адчыніліся, і нямецкі перакладчык перадаў загад нямецкага афіцэра, каб усе без панікі выходзілі з тока і арганізавана пастроіліся для маршу да месца адпраўкі на працу ў Германію. Усе з палёгкай уздыхнулі і паслухмяна выканалі загад. Нямецкі афіцэр даў каманду, каб з калоны выдзелілі двух чалавек у якасці фурманаў, каб адвезці на двух падводах нарабаванае людское дабро ў Брыгідава. Не здагадваючыся, што брыгідаўцам было ўгатаванае немцамі, ехаць выказаўся Спірыдовіч Аляксандар (Воліс па-вясковаму), 1907 г.н. Яго сям'я паспела ўцячы ў лес, і таму ён разлічваў такім чынам пазбегнуць Германіі. А Цывільку Аляксандра Пятровіча, 1933 г.н., выпхнуў з калоны яго ж тата Пётра (Петлюсем клікалі) таксама з разлікам на паратунак. А ў выніку для гэтых вылучэнцаў паратунак абярнуўся лютай смерцю. Давёзшы нарабаванае да Брыгідава, фашысты забралі ў Воліся і Сашкі іх падводы, а саміх іх загналі на ток, у якім ужо знаходзіліся брыгідаўцы.

А тым часам чарвякоўцаў немцы раздзялілі на дзве калоны. Старых, жанчын і дзяцей – у адну, а працаздольных мужчын і моладзь – у другую. Гэтак дзвюмя калонамі і рушылі ў бок Малявічаў на Іллю, у якой знаходзілася перавалачная база па адпраўцы насельніцтва ў Германію. Прамаршыраваўшы вярсты са тры, калоны зрабілі прывал каля лесу, на Антуноўскім полі. Нямецкі канваір, які вёў і ахоўваў калону жанчын і дзяцей, на дзіва ўсіх, дазволіў ім усім разам схадзіць у лес па сваіх патрэбах, а сам застаўся на месцы прывалу. Скарыстаўшы такі момант, людзі грамадой даліся наўцёкі. І толькі праз хвілін 10, калі людзі ўжо паспелі залезці ў глухі забалочаны лес, пачулі дзесьці на Антуноўскім полі некалькі аўтаматных чэргаў.

Вярнуўшыся пасля вайны з нямецкага зняволення, тата Ірыны Антонаўны распавёў, што немцы тады нават і не збіраліся адшукваць уцекачоў. Магчыма, яны наўмысна вырашылі так пазбавіцца ад старых і дзяцей. Яны былі зацікаўленыя, галоўным чынам, у калоне працаздольных. Пастраляўшы крыху у накірунку лесу, немцы пагналі адну ўжо калону далей да месца прызначэння.




Ірыне Пятроўне на той час было ўжо 6 год, і ёй у дзіцячую памяць гэты дзень жахаў урэзаўся на ўсё жыццё. А яшчэ яна запомніла момант, як на нейкае свята батурынскі ксёндз Вацлаў раздаваў аплаткі і яшчэ нейкія пачастункі. Для нас галодных гэта

было больш чым свята, а ксёндз у нашых вачах выглядаў чарадзеем. Скончылася вайна, і многія з чарвякоўцаў засталіся без сваіх родных і блізкіх. Шмат загінула і сярод Царыкаў – адны на фронце, іншыя тут ад рук фашыстаў і іншай нечасці, якой шмат боўталася па лясах. Ірына Антонаўна ў 1946 годзе пайшла ў Чарвякоўскую пачатковую школу. Пасля яе працягнула вучобу ў Крамянецкай васьмігодцы, якую скончыла ў 1954-м. Адразу пасля школы пайшла працаваць у мясцовы калгас, хадзіла на будоўлю хлебапякарні ў Іллю.

### *Герард Бейшар*

У 1959 годзе выйшла замуж у суседнія Навасёлкі за свайго аднагодка, Бейшара Мечыслава Герардавіча, хлопца не пагадах самастойнага і працавітага. Мечыку не было і двух гадкоў, як тату яго, Бейшара Герарда Казіміравіча, 1916 г.н., 5.08.40 года арыштаваў НКВД, быццам бы за здраду СССР на карысць Польшчы. Герард Казіміравіч быў асуджаны Вілейскім судом да пяці гадоў зняволення з адбываннем пакарання ў Архангельску. А для арышту і абвінавачання ў здрадзе для Бейшара Г.К. паслужыла падстава незаконнага пераходу савецка-польскай мяжы ў сярэдзіне 30-х гадоў мінулага стагоддзя.

У той час з савецкага «раю» ў Заходнюю Беларусь, падкантрольную Польшчы, перабягалі тысячы «ўсходнікаў» нават цэлымі сем'ямі. Усе яны, хто да вайны, а хто пасля, атрымоўвалі розныя тэрміны зняволення, нярэдка і расстрэлы. Герард Бейшар уцёк з СССР не ад лёгкага жыцця, бо хацеў мець свой кавалачак зямлі, каб было на чым пабудавацца ды сям'ёй абзавесціся. А там, на Усходзе, такое атрымаць забараняла савецкая калектывізацыя і іх бессэнсоўнае раўнаправе. Герард пасля пера-

ходу мяжы ў 1936 годзе з год пражыў у стрыечнага брата Шалкоўскага ў Хаценчыцах. Уладкаваўся на працу у Лукаўцы ў канюшню пана Бароўскага. Тут пазнаёміўся з цудоўнай дзяўчынай Пашкевіч Ганнай Сцяпанаўнай, 1917 г.н., з Навасёлак. Неўзабаве сяброўства перарасло ў моцнае каханне. Маладыя абвячналіся ў Батурынскім касцёле і пачалі жыць у доме яе бацькоў.


АБРАЗ БОЖАЙ МАЦІ ЧЭПСТАХОЎСКАЙ

У 1938 годзе ў маладых нарадзіўся сынок, якому далі імя Мечаслаў і таксама ахрысцілі ў Батурынскім касцёле. Але шчасцю іхняму лёсам наканавана было не доўгім быць. Праз 10 месяцаў пасля прыходу бальшавікоў Герарда арыштавалі. Маладая цяжарная яго жонка Ганна засталася адна з маленькім Мечыкам на руках. Безліч разоў ездзіла ў Вілейку да пракурора з прашэннем аб вызваленні мужа, але звароты ўсе былі безвыніковымі. Пяцігадовае зняволенне Герарда абярнулася пажыццёвым. Дахаты ён так і не вярнуўся, згінуў дзесьці ў сталінскіх лагерах.

Вайна з фашыстамі прынесла яшчэ больш бяды і гора. Рабаванні, гвалт пад пагрозай расправы перажывалі амаль кожны дзень. За супрацiў лясным бандытам паплацілася жыццямі цэлая сям'я навасёлкаўцаў Мардаса Івана. Не мінула падобнае гора і родных Бейшар (Пашкевіч) Ганны. Нелюдзі лясныя згвалцілі і расстралялі яе родную 18-гадовую сястру Ксенію. З гвалтам і забойствамі

крыху прыціхла пасля таго, як у Навасёлках абаснаваўся штаб партызанскай брыгады імя Фрунзе, а ў вярсце на поўдзень ад Навасёлак дыслакавалася і сама брыгада. Рабаўнікі ў вёску ўжо не наведваліся, ды й рабаваць ужо не было чаго. Дзякуй Богу, што яшчэ сцены хаты ўцалелі, ды на сценах тых – два абразы з Батурынскага касцёла, спаленага фашыстамі 4 мая 1943 года. Выратаваныя нейкім чынам пры пажары абразы Божай маці Чапстахоўскай і Першанства багатага, Бейшар Ганне на захоўванне перадаў тады ксёндз касцёла Сэнк Вацлаў. І яшчэ адна рэліквія Батурынскага касцёла была выратаваная Сэнкам Вацлавам – гэта драўляны крыж. Ксёндз Сэнк Вацлаў вымушаны быў хавацца ад немцаў то ў адной хаце, то ў другой, і крыж яму быў спадарожнікам яго пастарскага жыцця. Той крыж цяпер захоўвае вёска Сакалоўка (Чарвякі). Гэтак ужо павялося яшчэ з часоў вайны, ён пераходзіць з хаты ў хату, каб правесці ў апошні шлях нябожчыка незалежна ад яго веравызнання.

# БАТУРЫНА

Ёсць у Вілейскім раёне вёсачка з загадкавай назвай Батурына. Яе заўжды закраналі ўсе падзеі, якія толькі здараліся ў краіне на працягу ўсіх стагоддзяў. Пра паходжанне гэтай назвы існуюць розныя меркаванні, але ніводнае з іх не мае пацвярджэння. Вядома толькі, што за час свайго існавання вёска ніколі не налічвала больш за два дзясяткі двароў, а цяпер і ўвогуле засталося толькі шэсць. Паміраюць жыхары, забіраючы з сабой парэшткі вялікай, вельмі цікавай і ў большасці сваёй трагічнай часткі сапраўднай гісторыі. Батурына размешчанае геаграфічна так, што яго заўжды закраналі ўсе падзеі, якія толькі здараліся ў краіне на працягу ўсіх стагоддзяў. Захопніцкія войны Усходу і Захаду заўжды заканчваліся падзелам Беларусі, і Батурына з’яўлялася амаль кожны раз на мяжы гэтага падзелу. А яшчэ праз яго пралягаў і пралягае сёння Даўгінаўскі тракт, раней вядомы як адзін з галоўных гандлёвых шляхоў. У гэтым месцы перасякаліся дарогі, па якіх найкарацей можна было патрапіць у Ракаў і Гародню, Полацк і Оршу, Мінск і Вільню.

### *Гістарычныя факты*

Як сведчаць некаторыя гістарычныя факты, у 17 стагоддзі ў Батурыне была пабудаваная капліца, якая ўваходзіла ў Лукавецкі маёнтак Шумскай Шумскай. Батурына на той час было ў Вялікім Княстве Літоўскім. У 1793 годзе, пасля Другога падзелу Рэчы Паспалітай, Батурына адыйшло да Расійскай імперыі. Пад гэта пераўтварэнне па-


БАТУРЫНСКІ КАСЦЁЛ. СЁМУХА.1918ГОД.

трапіла і батурынская капліца. Але праз некалькі гадоў была адноўленая ўніяцкая царква і вернутыя ёй ранейшыя прыходы. Тады ж было ўтворанае Мінскае каталіцкае біскупства, у склад якога ўвайшлі каталіцкія прыходы Лагойшчыны, да якіх была далучаная і Батурынская капліца. У 1796 годзе храм быў «асвечаны абрадам рымскім пад тытулам святога Міколы» і стаў філіяльным касцёлам пры парафіі ў Гайне (Лагойскі раён), а пасля пры парафіі ў Радашкавічах. У 1920 годзе святыня была зноў асвечаная як касцёл, але ўжо пад тытулам Найсвяцейшай Панны Марыі. Касцёл у Батурыне дзейнічаў да Другой сусветнай вайны, а ў 1943 годзе быў спалены разам з вёскай і больш ужо не адбудаваўся.

Мікалаеўскі касцёл быў драўляны, на каменным падмурку. Як сцвярджаюць сведкі, мяркуючы па здымку 1918 года, які зберагла разам з іншымі і перадала мне Васько (Арцішэўская) Ганна Ігнатаўна з Маладзечна, былая жыхарка Батурына, касцёл глядзеў на ўсход, і пярэдняя верхняя яго частка ўтрымлівалася на шасці-сяміметровых мураваных калонах. Інтэр’ер упрыгожвалі тры «на оптыку маляваныя» алтары. Да філіі ў Батурыне прыпісвалася капліца ў Карпавічах (у 1870 годзе скасаваная).

### *Паўстанні і войны не мінулі Батурына*

У Батурыне ў 1863 годзе пачалося ўсебеларускае паўстанне пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага супраць царскіх захопнікаў. Баявыя дзеянні праходзілі і ў нас. Пасля жорсткага знішчэння расійскімі імператарскімі вайскоўцамі атрада паўстанцаў, які сфарміраваў Козел (Козел-Паклеўскі) Вінцэнт пад Уладыкамі, дзе загінула больш за 150 нашых землякоў, у знак помсты за супраціў імперская ўлада ў 1864 годзе зачыніла Батурынскі касцёл і перадала яго праваслаўным. Пачалося абрусенне сялянства і прымусовы пераход у праваслаўе. З цягам часу ў Батурыне, каля самага касцёла, было пабудаванае і адчыненае народнае вучылішча, у якім навучанне вялося толькі на рускай мове. Прымусовае праваслаўе і рускамоўнае школьнае навучанне ў Батурыне скончылася ў 1918 годзе пасля падпісання Брэсцкага міру паміж Германіяй і ўжо бальшавіцкай Расеяй. Брэсцкі мір для Батурына стаў запамінальнай і знакавай падзеяй.

### *Фэст у Батурыне з нагоды ўтварэння БНР*

25 сакавіка 1918 года была ўтворана Беларуская Народная Рэспубліка (БНР). У Батурыне гэту падзею адзначалі з вялікімі ўрачыстасцямі. Афіцыйных архіўных звестак, на жаль, гэтага святкавання з нагоды аб'яўлення БНР не існуе. Але яны дайшлі да нашых дзён дзякуючы цудам уцалелым фотаздымкам, зробленым амаль стагоддзе таму. Абвяшчэнне аб утварэнні БНР у Батурыне праводзілася ва ўрачыстых абставінах на Пятра, падчас фэсту каля касцёла. Фэсты ў Батурыне ладзілі кожны год на Пятра і Сёмуху. І кожны раз у святкаванні прымала ўдзел шмат людзей. Яны збіраліся з усёй акругі. Хто гандляваў, а хто набываў. Асабліва для дзяцей гэта свята

было заўжды вельмі запамінальным, таму што толькі на гэтых святах бацькі маглі дазволіць ім наесціся прысмакаў. У іншыя дні года з-за галечы і жабрацтва ў сялянскіх сем'ях рацыён быў вельмі сціплы.

Пра незвычайны і вельмі значны для жыхароў фэст ужо новая ўлада, нямецкая, пачала абвяшчаць яшчэ з вясны. Запрашаліся ўсе, хто толькі мог сюды дабрацца. На прызначаны не зусім сонечны, але ціхі і цёплы чэрвеньскі дзень да Батурынскага касцёла пачалі з'язджацца і прыходзіць пешшу жыхары з навакольных вёсак. Усім не цярпелася даведацца, што ж новага, незвычайнага і каштоўнага для сябе яны змогуць пачуць на фэсце? Каля касцёла сабралася больш за тысячу чалавек. Усе прыхаджанне былі ў святочным убранні. Кайзераўскія вайскоўцы ў парадных мундзірах утварылі ганаровую варту ўздоўж сцяжынкі перад касцёлам. Ад касцёла замест арганнай мелодыі разносілася нейкая іншая і вельмі моцная, прыхаджанам невядомая. Гэта іграў вайсковы нямецкі аркестр, запрошаны ўрадам БНР. Пасля набажэнства перад сялянствам выступіў прадстаўнік маладога Беларускага ўрада. Ён падрабязна расказаў прысутным пра незалежнасць маладой беларускай краіны, пра яе перспектывы і ў сувязі з гэтым, які далейшы жыццёвы лёс чакае батурынцаў і ўвогуле ўсіх сялян з наваколля. З гэтага часу батурынская школа стала беларускамоўнай, а на самой школе быў замацаваны бел-чырвона-белы сцяг з пагоняй. Немцы такім зменам у краіне не пярэчылі, прытрымліваліся нейтралітэту. Але ў хуткім часе яны вымушаныя былі адмовіцца ад Брэсцкага міру і пакінуць Беларусь. Зрабіць гэта іх падштурхнула камуністычная рэвалюцыя на сваёй радзіме, у Германіі.

Батурына, як і ўсю Заходнюю Беларусь, пачало зноў ліхаманіць ад змены ўлады. Не паспелі немцы пакінуць

Беларусь, як на яе вайной пайшла Польшча. Ужо да восені 1919 года польскаму войску ўдалося заваяваць вялікую частку Беларусі. Батурына таксама апынулася пад Польшчай. Але тагачасны кіраўнік Польшчы Юзаф Пілсудскі не разлічыў сілы свайго войска і ў хуткасці, вясной 1920 года, савецкая Расея, паправіўшы сваё палітычнае становішча, пачала адваёўваць тэрыторыі, занятыя польскім войскам. Урад БНР вымушаны быў з'ехаць з краіны на Захад. Батурына ў чарговы раз перайшло ва ўласнасць Расеі, але таксама ненадоўга.

17 жніўня 1920 года Чырвоная Армія пацярпела знішчальнае паражэнне пад Варшавай, і таму бальшавікі вымушаныя былі пайсці на перамовы з Польшчай. 18 сакавіка 1921 года ў Рызе была падпісаная мірная дамова паміж Польшчай і савецкай Расеяй, у выніку палітычнага гандлю Беларусь зноў стала разменнай манетай. За мір бальшавікі з палякамі разлічыліся не сваёй тэрыторыяй, а Заходняй часткай Беларусі. Батурына зноў апынулася пад Польшчай, стаўшы памежжам з савецкай Расеяй. У вёсцы размясцілася польская стражніца, якая прастаяла тут амаль дваццацігоддзе. У гэтым жа 1921 годзе ў Батурыне польскай уладай было забароненае ў школе навучанне на беларускай мове. У ёй былі адкрытыя чатыры польскія класы. І ўвогуле паўсюдна сярод насельніцтва пачалося апалячванне.

У верасні 1939 года, парушыўшы Рыжскае пагадненне, бальшавікі зноў пайшлі вайной на Польшчу. Вызваленыя ад апалячвання батурынцы, узамен атрымалі ад бальшавікоў калектывізацыю, раскулачванне, рэпрэсіі, смерць і пакуты ў сталінскіх лагерах. Жахі ваеннага ліхалецця і пасляваенныя рэпрэсіі – усё гэта мела месца ў гістарычным жыцці гэтай маленькай вёсачкі.

## *Арцішэўскі Ігнат*

Батурынцы, як і ўсе беларусы, з пакон вякоў перажывалі і цярпелі пастаянныя, вельмі рэзкія, павароты жыцця. Цягнулі на сабе ярмо прыгнёту: то расейскую баршчыну, то літоўскую князёўшчыну, то польскую паншчыну. Наступіў 1914 год. Царская Расея прадчувала непазбежнасць вайны з Захадам. І ўжо ў пачатку ліпеня гэтага года батурынцаў пачалі мабілізоўваць ў царскае войска. Сярод мабілізаваных апынуўся і селянін Арцішэўскі Ігнат Ігнатавіч 1889 года нараджэння. Нечаканая і гвалтоўная мабілізацыя шмат каго адарвала ад сям'і. Рана застаўшыся без бацькі, сям'я Арцішэўскіх, якая мела трох хлопцаў і чатырох дзяўчат, жыла ў страшэннай нястачы. Самаму старэйшаму, Ігнату, тады было 25 год, ён і кіраваў сваёй невялічкай беззямельнай гаспадаркай. Гвалтоўна адарванага ад сям'і, Ігната вайна матала амаль чатыры гады па шматлікіх франтах, ваюючы супраць немцаў, за цара бацюшку і айчыну. Пасля заключэння Брэсцкага міру ў 1918 годзе полк, у якім служыў Ігнат, цалкам перайшоў на бок бальшавікоў. Абяцаную бальшавікамі дэмабілізацыю з войска ён, як і ўсе астатнія, так і не атрымаў.



1.ІГНАТ АРЦІШЭЎСКІ

Праз год бальшавікі пайшлі вайной на Польшчу, пайшоў і Ігнат, канешне ж, не па сваёй волі. Пад Беластокам быў паранены, але не моцна. Выкарыстаўшы момант, вярнуўся ў сваё роднае Батурына, дзе яго ўжо ніхто і не чакаў. Дзве сястры ў пошуках лепшай долі з'ехалі ў «васточную» – у Докшыцы. Адна сястра, Валерыя, выйшла



Арцішэўскі Вітак (1).Настаўнік Цапеля (2).

замуж за мясцовага адукаванага і працавітага чалавека Паўлюкевіча Яся. Астатнія разляцеліся, як тыя птушачкі, па наваколлі, шукаючы свайго кута. Бацькоўская хатка развалілася зусім, жыць не было дзе, а таму залечваць раны не было калі, трэба ж было неяк уладкоўваць сваё ўласнае жыццё. Першая сусветная вайна ў Батурыне пакінула свой след руйнавання, рабавання, смерці ад голаду і тыфу. У вёсцы не хапала галоўнага – працоўнай сілы. Коней амаль зусім не было, а мужыкоў засталося толькі палова.

Арцішэўскі Ігнат быў вельмі прыгожы, статны, мужны і ўжо сталы. Заглядаліся на яго і ўдовы, і маладзенькія дзяўчаты. Вось на адну з іх ён і звярнуў увагу. На 11 год маладзейшая, невялічкага росту, красуня-шчабятушка Ганна, адзінае позняе дзіцятка ў бацькоў Міхалкі і Елісаветы Мордасаў, вельмі моцна запала ў сэрца былога вайскоўца. Неяк аднаго разу зайшоў Ігнат у хату да сваёй каханай, ды так і застаўся ў яе на ўсё жыццё. Павянчаліся ў сваім касцёле, акурат пасля ўстанаўлення польскай улады ў 1921 годзе. Маладая сям’я ў спадчыну ад бацькоў Ганны атрымала тры дзесяціны зямлі і кут у хаце. Дзеткі нараджаліся адзін за адным: Іосіф –1922 г.н., Бо-

лесь – 1924 г.н., Вітэк – 1927 г.н., Стась –1929 г.н., Юзэфа – 1931 г.н., Бронэк – 1936 г.н., Ганна – 1939 г.н. Такую сям'ю пракарміць, а ў дадатак яшчэ і ў школу выправіць было вельмі цяжка, таму даводзілася хадзіць на падпрацоўку на кароўнік у Гелянова да пана Бароўскага Кондрата.

### *Пан Бароўскі Кондрат з Гелянова*

У пана працы хапала, ды і плата была не зусім дрэнная. Беззямельныя сяляне не мелі магчымасці трымаць сваю гаспадарку, але па загадзе пана Кондрата кожны селянін, які ў яго працаваў, павінны быў мець карову. Сялянскія каровы стаялі ў кароўніку разам з панскімі, і корм ім давалі той жа, што і панскім. У Лукаўцы, у пана Бароўскага Яна, гаспадарка была нашмат большая. Быў у яго і свой спіртзавод, брагу з якога выкарыстоўвалі для корму жывёле як панскай, так і сялянскай. Вазілі гэту брагу пастаянна і на кароўнік у Гелянова. А вось летам пасвіліся каровы чамусьці ў розных статках, асобна. Сяляне, чые каровы стаялі ў пана, выдойвалі малако ўсё сабе. Лішкі маглі здаць на малачарню ў Хаценчыцы альбо на сырабойню ў Чарвякі (сёння – Сакалоўка). Школа ў Батурыне працавала, і дзеці мелі магчымасць атрымаць пачатковую адукацыю. І не бяда, што польскамоўную. Дзеткі Арцішэўскіх адзін за адным заканчвалі школу, усе атрымалі пачатковую адукацыю.


Бароўскія Кондрат, Сафія.



БРАНІСЛАВА,САФІЯ,ЯН,КАЗІМІР,АЛЯКСАНДАР,МІХАЛ,КОНДРАТ-БАРОЎСКІЯ

Набліжаўся 1939 год. Улетку ў тым годзе пачалі з’язджаць на захад паны Бароўскія. Першымі пакінулі свае маёнткі чарвякоўскі пан Бароўскі Ігнат і пан Ян Бароўскі Ян з Лукаўца, а за імі і пан Бароўскі Лявон са

Шчокаўшчыны, які займаў пасаду войта Хаценчыцкай гміны. А чацверты іх брат, геляноўскі пан Бароўскі Кондрат, назаўсёды застаўся на беларускай зямлі. Прыкладна ў 1937 годзе трагічны выпадак забраў жыццё маладога, чулага і спагадлівага да людзей чалавека. Асобнага маёнтка ў пана Кондрата не было, ён жыў у агульным Лукавецкім сядзібным комплексе-маёнтку разам з братам Янам.



СЯДЗІБНЫ ДОМ МАЁНТКА БАРОЎСКІХ У ЛУКАЎЦЫ

Аднаго разу, едучы на кані верхам з Гелянова ў Лукавец, Кондрат патрапіў пад моцную навальніцу. Сцяжынка, па якой звычайна ездзіў пан, пралягала пад раскідзістым шматвекавым дубам, які рос непадалёк ад спіртзавода. У той момант, як пан праязджаў каля гэтага дуба, у яго стукнула маланка. Пахавалі пана Кондрата на Навасёлкаўскіх могілках у грабніцы, якую падчас вайны хтосьці зруйнаваў і абрабаваў. Мабыць, нейкія марадзёры шукалі золата.

## *17 верасня 1939 года*

Ксёндз Батурынскага касцёла Вайткевіч, замяніўшы ксяндза Сэнчака незадоўга да прыходу бальшавікоў, напярэдадні з'ехаў з Батурына на сваёй матацыклетцы да сябе на радзіму ў Літву. Застаўся ў касцёле толькі арганіст Іван Рыкшта. А польскія памежнікі пачалі папаўняць свой вайсковы гарнізон за кошт мабілізацыі мясцовых сялян і інтэлігенцыі. Акрамя сялянства, у польскае войска былі мабілізаваныя настаўнік Батурынскай пачатковай школы пан Цапеля (родам з Зялёнай Гуры), пісар пры Хаценчыцкай гміне Паўлюкевіч Ясь і інжынер-будаўнік гміны Сыч Пётра. Вайсковы гарнізон польскіх памежнікаў быў размешчаны за пяць вёрст ад Батурына,


ГАРНІЗОН ПОЛЬСКІХ ПАМЕЖНІКАЎ,НА БРЫЦКІМ

на Брыцкім. На тэрыторыі гарнізона знаходзіўся шпіталь, у якім лячыліся вайскоўцы, тыя, хто там працаваў і прыслужваў афіцэрам. Сюды таксама маглі звярнуцца па медыцынскую дапамогу і жыхары з навакольных вёсак. У гарнізоне налічвалася каля двухсот жаўнераў і конныя раз’езды. На ўзбраенні, акрамя асабістай зброі, былі кулямёты і нават некалькі гармат. Раніцай 17 верасня 1939 года з боку Крамянца і Мышыц на Батурына з крыькам «ура-а-а-а!» пайшла невялікая групоўка бальшавіцкіх вайскоўцаў. Захапіўшы без стрэлаў стражніцу ў Батурыне, якую польскія памежнікі па загадзе камандавання пакінулі яшчэ з вечара, бальшавікі рушылі на Брыцкае, дзе знаходзіўся гарнізон польскіх памежнікаў. Атрымаўшы нечаканае супраціўленне, «вызваленцы» вымушаныя былі адступіць да Старынак, каб дачакацца галоўных часцей савецкага войска. Гэтым часам гарнізон зняўся і ў спешным парадку пачаў адступаць на захад.

### *Сыч Пётра*

Пад Ашмянамі паміж гарнізонам з Брыцкага, які адступаў, і савецкімі «вызваленцамі» завязаўся бой, у якім большая частка польскіх жаўнераў загінула, а астатнія трапілі ў бальшавіцкі палон. Трапіў у палон і паручнік Сыч Пётра, але нейкім чынам яму ўдалося збегчы. Пачалася калектывізацыя. Той, хто меў сваю зямлю, страціў яе. Такім шляхам і шляхам абкладання вялікімі падаткамі бальшавікі прымушалі сялян ісці на працу ў арганізаваны ў Гелянове саўгас.

Пасля калектывізацыі прыйшоў час рэпрэсій. Вярнуўшыся ў сваё роднае Батурына з палону, Сыч Пётра ў хуткасці быў арыштаваны і змешчаны ў Вілейскую турму. Пасля допытаў і катаванняў быў перавезены ў По-


1.ПЁТРА СЫЧ. 2.ПУЦЭЙКА АЛЯКСАНДР.3.БАРСУК ІГНАЦІ.4.КСЁНДЗ ЦІМАШКЕВІЧ.5.ЖЫЖЭМСКІ

лацк. У 1940 годзе пасля прысуду да 10 год лагераў, быў сасланы ў Комі. У Батурыне засталася яго цяжарная жонка і чатырохгадовая дачка Броня. Каб было больш зразумелым, хто такія Сычы, трэба вярнуцца крыху назад.

Нарадзіўся Сыч Пётра не ў Батурыне (як шмат дзе пішуць), а ў суседняй вёсцы Мышыцы 18 студзеня 1912 года. Бацьку ён свайго ніколі не ведаў, маці гадавала яго адна. Пятру было годзікаў шэсць, як усталявалася бальшавіцка-германская мяжа паміж Мышыцамі і Батурынам. Шмат хто з людзей тады намагаўся з усходняй часткі Беларусі патрапіць у заходнюю. Падганялі іх у гэтым тамашні голад і безуладдзе. Рушыла за мяжу і Сыч Марыся са сваім маленькім Пятром. Пасяліліся ў Гелянове, у вярсце ад Батурына, у маленькай панскай пабудове каля панскага кароўніка, там жа знайшла і працу. Пётра хадзіў ў батурынскую школу, а менавіта ў той час тут настаўнічаў вядомы наш зямляк пісьменнік Бядуля Змітрок (Плаўнік Самуіл Яфімавіч), які нарадзіўся ў вёсцы Пасадзец. А вось як на Пятра 1918 года каля касцёла абвяшчалася Беларуская Народная Рэспубліка, то я ўпэўнены, што маленькі Сыч Пётра там таксама быў. Пасля Батурынскай школы Пётра скончыў сямікласную ў вёс-

цы Хаценчыцы. У 1929 годзе пачаў вучобу ў Віленскім універсітэце на факультэце філасофіі, але праз два гады быў вымушаны кінуць вучобу з прычыны хваробы маці. Ад гэтага часу пачаў працаваць журналістам у віленскіх польскамоўных газетах. Адначасова з публіцыстыкай Сыч Пётра распачаў і пісьменніцкую дзейнасць. Першы верш на польскай мове быў надрукаваны ў 1932 годзе ў віленскай газеце «Голас люду». І пад артыкуламі, і пад мастацкімі творамі падпісваўся як Петрэк Вілейскі, або сваім сапраўдным прозвішчам. Быў блізка знаёмы з Сымонам Рак-Міхайлоўскім, Тарашкевічам Браніславам.


ПЁТРА СЫЧ

Сыч Пётра быў вельмі прыгожы і таленавіты хлопец, пісьменны, цудоўна маляваў. Ажаніўшыся ў 1935 годзе з Дзік Ганнай з Мардасоў, пайшоў працаваць інжынерам-будаўніком у Хаценчыцкую гміну. Быў адказным за будаўніцтва і рамонт дарог і мастоў па сваёй воласці. Гэтыя работы выконваліся пры непасрэдным і абавязковым удзеле мясцовага насельніцтва, у каго быў свой транспарт. Кожны павінны быў адбыць так званую шарварку, нешта падобнае да сучасных суботнікаў. Жыццё наладжвалася, але наступіў 1939 год. У 1940-м, пасля таго як арыштаванага Сыча Пётру асудзілі і саслалі ў лагер, НКВ Доўцы ўзяліся за яго сям'ю. Невядома, як склаўся б далейшы лёс яго жонкі Ганны і чатырохгадовай дачкі Бронькі, але здарылася так, што якраз ў той момант, калі «чорны варанок» пад'ехаў да хаткі забіраць сям'ю Пётры, яго Ганна нарадзіла дачку Марысю. Нешта чалавечае ўсё ж такі крыху заварушылася ў чэкістаў, і яны парадзіху не сталі

забіраць, пакінулі дома. Але ўпустую ўсё адно з Батурына не з’ехалі. Як здрадніка савецкай улады арыштавалі Гэйна Уладзіміра, толькі за тое, што ён усёй сям’ёй у 1935 годзе патаемна збег ад галоднай смерці з савецкага Крамянца ў польскае Батурына. Нават тое, што неадукаваны Уладзімір у пана працаваў парабкам, не выратавала яго ад арышту і сталінскага лагера.

## *Вайна*

1941 год батурынцам прынёс новыя пакуты і выпрабаванні. На трэці дзень вайны ў Батурыне гаспадарылі ўжо немцы. Але адразу нікога з жыхароў не чапалі, пыталіся толькі камуністаў. У «гасцях» немцы затрымаліся ненадоўга. Наведаўшы кожную хату і пасля індывідуальнай размовы з гаспадарамі, пакінулі вёску. Бліжэйшыя нямецкія гарнізоны былі ў Ілы, у якой былі пераважна немцы, а гарнізон у Хаценчыцах складаўся амаль цалкам з паліцэйскіх і ў большасці сваёй з літоўскіх. Немцы ў Батурына наведваліся не часта, па аброк, і толькі ўдзень. Затое, амаль кожную ноч, не давалі спакою лясныя бандыты, якіх у пачатку вайны шмат цягалася па лясах. Турэмшчыкі, дэзерціры, акружэнцы ды і мясцовыя таксама арганізоўваліся ў цэлыя атрады, маскіруючыся пад партызан. Падобна, што ў вёсцы ўжо з самага пачатку вайны немцы мелі добра наладжаную сваю патаемную агентуру. Бо ўсё, што адбывалася, яны добра ведалі.

Лясным ваякам таксама хтосьці ўсё дакладваў, хто з вяскоўцаў і чым «дапамагае» немцам. Адны і другія гвалтоўна забіралі ў людзей апошнія пажыткі і яшчэ іх у чымсьці вінавацілі. Вёска жыла пад пастаянным страхам, паміж двух агнёў. А хто быў гэтым інфарматарам, дакладна так і не стала вядома і па сённяшні дзень. Вяс-

коўцам хтосьці ўставіў у вушы, што на немцаў працуе Паўлюкевіч Ясь, які даводзіўся шваграм Арцішэўскаму Ігнату, бо быў жанаты на яго сястры Валерыі. Падстава для абвінавачвання ў здрадзе была толькі тая, што Ясь пры Польшчы працаваў у Хаценчыцкай гміне. Зыходзячы з гэтага і была зробленая выснова: «Калі служыў палякам, не выключэнне, што служыць і немцам». Паўлюкевіч вымушаны быў хавацца і ад немцаў, і ад лясных бандытаў. Ён быў добрым кавалём і таму быў патрэбны і адным, і другім. Як толькі хто-небудзь ад нямецкай ці лясной «улады» наведваўся ў вёску, Ясь са старэйшым сынам Франакам сыходзілі з дому, каб іх ніхто не бачыў. Франаку на той час было гадоў 20, і яго немцы маглі б забраць у паліцыю, а лясныя банды – да сябе. Неяк аднойчы, пасля чарговых уцёкаў ад лясных ваякаў, Ясь з Франакам дадому больш не вярнуліся. Абодва як у ваду канулі. Дзесьці праз тыдзень гэтыя бандыты зноў завіталі ў Батурына да Паўлюкевічаў, забралі 17-гадовага Ясевага сына Тадзіка і павялі ў бок Навасёлкаўскіх могілак. Як толькі падышлі да лесу, Тадзік, хутчэй за ўсё ўжо ведаўшы свой далейшы лёс, кінуўся ад бандытаў у кусты. Але ад кулямётнай чаргі выратавацца не змог, так і застаўся ляжаць там, на ўскрайку лесу. Бандыты вярнуліся ў вёску зноў да Паўлюкевічаў, але там нікога ўжо не засталі, дык са злосці закідалі хату гранатамі. Дазнаўшыся, што бандыты сышлі, Валерыя з дзецьмі і з 23-гадовай сястрой Марыяй прыйшлі ў вёску, каб пахаваць забітага сына. Пахаваўшы з дапамогай радні Арцішэўскіх на скорую руку Тадзіка, Валерыя вярнулася да ўзарванай сваёй хаткі, каб сабраць хоць якія пажыткі на дарогу, таму што тут заставацца ўжо было небяспечна, бо бандыты маглі вярнуцца ў любую хвіліну і расправіцца з імі. Трэба было ратавацца і ратаваць астатніх дзетак.

Пасля бандытаў у хаце амаль нічога не засталося, яны выграблі ўсё, што знайшлі. Ужо вечарэла і надыходзіў дождж, і Валерыя вырашыла не кратацца ў дарогу на ноч гледзячы, а пераседзець у паўразваленай хаце. Пераканаўшы брата Ігната і сястру Марыю, што ў непагадзь, а тым больш у разбуранай хаце, іх шукаць ніхто не будзе. Змучаная і забітая горам, Валерыя, накрыўшыся лахманамі, задрамала разам з дзеткамі. Ігнат нейкі час яшчэ сядзеў са сваёй малодшай сястрой, якая яму казала, што вельмі шкадуе, што збегла з Докшыцаў сюды, каб не патрапіць пад гвалтоўную адпраўку на Нямеччыну. Казала, што там, хоць і сярод немцаў, але была нейкая надзея выжыць, а тут, сярод сваіх, верагоднасць загінуць у шмат разоў большая. Ігнат, адыходзячы дахаты, да вялікай сваёй сям'і, якую не мог і не меў права падстаўляць, на развітанне, як змог, супакойваў сястру, што, маўляў, дасць Бог усё абыдзецца. Не абышлося! Апоўначы бандыты наляцелі знянацку і з кулямёта ва ўпор расстралялі ўсіх, не шкадуючы нават дзяўчынак:

Паўлюкевіч Валерыя Ігнатаўна – 1901 г.н.

Паўлюкевіч Рэнька Іванаўна, гадкоў 15 ад роду.

Паўлюкевіч Лёнька Іванаўна, гадкоў 10 было.

Паўлюкевіч Марыська Іванаўна, каля 7 год.

Арцішэўская Марыя Ігнатаўна – 1919 г.н.

Здарылася гэтая трагедыя якраз у тую ж самаю ноч, калі ў суседніх Навасёлках яны расстралялі сям'ю з дзевяці душ Мардаса Івана ці, як іх называлі, Фрайцісёнкаў. Іванава жонка Манька, даводзілася роднай сястрой батурынскаму Паўлюкевічу Ясю. Затое, што нібыта яе брат Ясь перадае звесткі пра іх немцам, таму бандыты вырашылі расстраляць і іх. Гэта адбылося ў 1942 годзе. Жыхары былі ашаломленыя жудаснымі расправамі ні ў чым не павінных людзей. Але і пасля гэтых забойстваў


СЫЧ МАРЫЯ З ДАЧКОЙ БРОНЯЙ ФОТА; НКВД

усё адно хтосьці працягваў інфармаваць немцаў, і гэта пацвярджала, што загінуўшыя сем'і не былі вінаватыя.

Потым бандыты ўспомнілі пра сям'ю Сыча Пётры і завіталі да іх. У той час Сычы туліліся ў Лукаўцы ў васьмерыку (гэта пабудова барачнага тыпу на 8 кватэр), бо ў Батурыне хата, у якой яны жылі апошнім часам, згарэла. Магчыма, і іх напаткаў бы лёс Паўлюкевічаў і Мардасоў, каб не сусед па васьмерыку. Суседа звалі Грышка, а жонку яго Нюра. Яны самі былі з Ленінграда, а чаму тут апынуліся, адказвалі, што гасцявалі і вайна застала. Як завіталі да Сычоў бандыты, то Грышка штосьці ім сказаў і тыя сышлі. Але праз некалькі дзён жыхары васьмерыка заўважылі, што з-пад свінарніка, які стаяў каля лесу, да іх жытла накіроўваецца група паліцэйскіх. У гэты час Грышка-чорны (як яго клікалі з-за вялікай і чорнай барады) якраз размаўляў са сваім знаёмым, які часцяком заходзіў да яго па нейкіх справах.

Убачыўшы паліцэйскіх, яны, хаваючыся, даліся наўцёкі ў бок Батурына, таму што шлях да лесу быў адрэзаны. Перасякаючы адкрытую мясцовасць каля панскага сада, іх згледзелі паліцаі, паднялася страляніна.

Грышка з сябрам паспрабавалі схавацца ў статку кароў, якія пасвіліся на полі за Батурынам, але былі заўважаныя паліцэйскімі і там жа на месцы расстраляныя. Паліцэйскія вярнуліся ў Лукавец, але, не застаўшы ў васьмерыку нікога з жыхароў, падпалілі яго. Упэўніўшыся, што ў вёсцы паліцэйскіх няма, людзі грамадой пахавалі на Навасёлкаўскіх могілках Грышку і яго сябра. Як пазней высветлілася, Грышка і яго жонка Нюра (прозвішча невядома) былі прысланыя з Масквы для арганізацыі партызанскіх атрадаў і ліквідацыі бандфарміраванняў. У самаарганізаваных партызанскіх атрадах, відаць, шмат каму не падабалася прысутнасць маскоўскіх камісараў. Ад іх любым шляхам намагаліся пазбавіцца, і па першым часе ім гэта ўдавалася. Радыёсувязь з Масквой адсутнічала, і гэта давала магчымасць учыняць расправы над любым незнаёмцам, залічыўшы яго ў шпіёны. Не выключэнне, што забілі Грышку пераапранутыя ў паліцэйскіх лясныя бандыты. Такое ў той час практыкавалася, паліцэйскія дзейнічалі пад выглядам лясных бандытаў, а бандыты ад імя паліцэйскіх. Магчыма, сярод саміх ляс-


Бароўскія з Юнцавіч і Лукаўца. Пачатак ХХст.

ных ваякаў быў здраднік, а яны яго шукалі ў вёсках. Бо калі гэтыя бандыты знайшлі і забралі ў Батурынскім касцёле рознае адзенне, якое ксёндз Сэнк збіраў для бедных прыхаджан, то пра гэта адразу ж стала вядома немцам. Ды пры гэтым яшчэ дадалі, што ксёндз быццам бы дапамагае не прыхаджанам, а бандытам. Немцы не прымусілі сябе чакаць. 4 мая 1943 года Батурынскі касцёл і сама вёсачка былі спаленыя фашыстамі. Гэты касцёл не працаваў ад 1939 да 1941 года. Але ў 1941-м архіепіскап-мітрапаліт Віленскі Ялбжынкоўскі Рамуальд сваім дэкрэтам накіраваў сюды ксяндза Сэнка. І цяпер, атрымаўшы чорную падзяку за свой бескарысны пачын, ксёндз Сэнк вымушаны быў хавацца ад немцаў. Доўгі час ён жыў у Чарвяках, у хаце старога Захаркі, у якой пры Польшчы была школа.

Вось як ксёндз Сэнк Вацлаў у сваёй кнізе «Proboszcz z goracego pogranicza» апісвае падзеі таго часу: «Пад канец лета з’явіўся ў мяне мой добры знаёмы пан Цекатоўскі Ян з маёнтка Чарвякі, які належаў да роду Бароўскіх, маёнтак і вёска ацалелі. Перад вайной ён апекаваўся рыбнымі ставамі на тэрыторыі ў некалькі дзясяткаў гектараў. Цяпер вада са ставоў была спушчаная, а тэрыторыя яго ўяўляла сабой пустэчу. Пан Цекатоўскі прыехаў за мной на падводзе з намерам забраць да сябе. Месца тое, куды ён мяне прывёз, было бяспечнае, блізка каля лесу ды яшчэ можна было схавацца ў спушчаных ставах. Разам з Агатай, сабраўшы свае пажыткі, з ахвотай пакінуўшы спаленае Батурына з касцёлам, паехалі ў Чарвякі. Было нам там вельмі добра. Нарэшце там змог зажыць па-людску, а не як жывёліна. У хаце, якую мне далі, стварыў капліцу і пачаў гаспадарыць.

Хутка па ваколіцы разышлася вестка, што ў Цекатоўскага жыве і гаспадарыць ксёндз. Пачаў сваё душпастырства нанова, але ў змененым накірунку! У той капліцы




спаў, еў, хрысціў, вянчаў, праводзіў святую імшу і гэтак далей. Трывала гэта аднак не так доўга. Аднаго дня ўвосень з'явіліся партызаны і прапанавалі з'ехаць, бо гэтае памяшканне зойме іх камендант. Нам тут зручна, так што сабе можаш знайсці іншае месца ў вёсцы. Пайшоў шукаць новую кватэру, вёска была праваслаўная і даволі вялікая. На другім канцы, пад лесам, стаяў прыватны двухпавярховы дом, у якім размяшчалася школа. Прыйшоў запытаць, ці не знойдзецца для мяне месца. Гаспадыня была простая праваслаўная жанчына, удава, з двума сынамі і нявесткай старэйшага трэцяга сына, які быў арыштаваны. Ахвотна адпусціла месца «колькі хацеў» – два пакоі пад страхой (на гарышчы) і пустую школьную залу. У зале падрыхтаваў алтар і зрабіў у ёй капліцу, а ў пакойчыках на гарышчы пасяліўся з Агатай. Пан Цекатоўскі забяспечыў крыху мэбляй і бялізнай. Агата гаспадарыла на кухні разам з уласніцай жылля. Зноў пачалося маё душпастырства. Здавалася, што цяпер будзе выгадней і лепш. Але вайна хутка дала пра сябе знаць. Дзесьці ў канцы верасня ці ў пачатку кастрычніка, ідучы ў суседнюю вёску, заўважыў нямецкія самалёты, якія яе бамбілі. А другая, якая знаходзілася ў другім напрамку, ужо цалкам гарэла. Было гэта недалёка і было відаць усё як на далоні. Колькі было моцы пабег да сваёй кватэры. Людзі з маёй вёскі ўжо гэта ўбачылі, пачалі выкідаць усё з хат і выносіць у лес, нягледзячы на тое, што надыходзіў вечар. Скончы-

лася ўсё на ўзрушэнні. Чакалі вестак з пацярпелай вёскі. На шчасце, там ніхто не загінуў, толькі вёска ўся пайшла з дымам. Як высветлілася, немцы скідвалі запальныя бомбы і абстрэльвалі людзей з вышыні з кулямётаў. Новы ўсплёск і новая трагедыя. Вёскі, якія не спалілі, былі знішчаныя зверху. Цэлы кастрычнік уначы спалі ў хатах на «адно вока», а цэлымі днямі сядзелі ў лесе.

Прыйшла чарга і на нашу вёску Чарвякі. Па поўдні пачалася бамбёжка і абстрэльванне нашай вёскі. Хутка яна апынулася ў полымі, а мы за гэтым назіралі з лесу. Калі пачало цямнець, немцы адляцелі. Вёска дагарала. Ратаваць раней яе не было магчымасці, бо людзей абстрэльвалі з самалётаў. Толькі пасля іх адлёту людзі пачалі ратаваць тое, што яшчэ можна было. Ратавалі ўсю ноч. Некалькі дамоў, у тым ліку і наш, ён знаходзіўся на водшыбе пад лесам, ацалелі. Шмат пагарэльцаў, якія страцілі ўсё, прытуліліся ў нашым доме. У зале, дзе была капліца, засялілася некалькі сем’яў. Людзі ляжалі адзін каля аднаго. Пакойчыкі на гарышчы засталіся ў мяне. У адным зрабіў каплічку, у другім была мая спальня і гэтак далей. Пачалося жыццё пад пагрозай, але ў грамадзе. Людзі былі хоць і праваслаўныя, але вельмі зычлівыя. Ішлі позняя восень і зіма. Немцы прыпынілі бамбёжкі і далі нам спакою. Да каплічкі пачалі прыходзіць людзі. Маё душпастырства нагадвала місію дзесь у джунглях, толькі замест зверанят былі дзікія людзі, але з гэтым неяк ужывалася. Найгорш было тое, што не хапала віна імшовага і аплатак, хоць астатняе выпякаў сам. Агата здабыла недзе пшаніцы, змалола ў жорнах, перасеяла чорную муку на чыста пшанічную. Мясцовы каваль па маім прыкладзе зрабіў форму для выпечкі аплатак. Атрымліваў з яе танюсенькае прасянае печыва, падобнае да жыдоўскай мацы. А віно мне дасталі партызаны. Адзін, на кані, прывёз мне

маленечкую бутэлечку віна ад ксяндза аж са Смаргоні. Мусіў яго пачаставаць за гэта, чым меў. Відаць, я ў партызан быў на добрым рахунку. Яны былі ўладарамі цэлай ваколіцы. У кожнай ацалелай вёсцы ці ў спаленай сядзеў іх прадстаўнік, лічыўся іх камендантам. Без яго дазволу нельга было нікуды рушыць. Наш малады камендант Пашка жыў са сваімі людзьмі ў нашай хаце пада мной, і мае справы ішлі на лад. А было тых партызан без ліку. Пра іх выгляд, узбраенне і звычкі можна было б напісаць цэлую кніжку. Што тут адбывалася! Гэта былі пачвары, без пачуццяў, без нейкай культуры, бесчалавечныя. У такім таварыстве трэба было жыць. На першым месцы ў іх была самагонка, жратва ды дзяўчаты. Хадзілі на рабаванне за дзясяткі вёрст. Цягнулі сюды жывёлу, адзенне, харчы і ўсё, што ўдавалася. Мясцовых жыхароў не рабавалі, бо ў іх не было чаго ўжо браць. Людзі выжывалі, але не дарма, за тое выжыванне дарагой цаной разлічваліся дзяўчаты і жанчыны. Не жаліліся, не наракалі. Кожная мела свайго альбо сваіх, каторыя за жаночыя паслугі з імі дзяліліся нарабаваным. Акрамя вайны і небяспекі квітнела п'янства, застоллі і гулянкі дзень у дзень. Было мне вельмі гэта так непрыемна, сядзець сярод гэтай галоты і залежаць ад іх ласкі. Меў з імі і прыгоды.

Вяртаўся аднаго разу вечарам у сваю кватэру, а тут каля дзвярэй на кані стаіць узброены абарванец. Такі п'яны, што ледзь трымаецца ў сядле. Падыходжу, каб зайсці да сябе, а ён пытае: «Хто тут жыве?» Каб пастрашыць, адказваю: «Важнае начальства». У гэты момант выходзіць з хаты партызан, а я і дадаю: «Вось начальнік!» А як высветлілася, начальнікам апынуўся гэты п'янтос на кані, якому і падпарадкоўваўся наш кватарант-партызан. «Ты кпіш з мяне, – крычыць, – з такімі мы хутка». Выцягнуў рэвальвер, каб мяне застрэліць, але я ўваліўся

ў хату і папрасіў захінуць мяне, калі той зойдзе, каб я змог уцячы праз акно. П'янтос крыху пастаяў, схаваў рэвальвер і паехаў. Мабыць, пабаяўся злазіць з каня, таму што быў моцна п'яны. На другі дзень я ішоў з хлопцам у бок Брыгідава, а тут раптам з кустоў узнік той самы партызан-начальнік, але пешшу, каня трымаў за аброць. Падумалася, што тут ужо мне канец. Тым часам ён звяртаецца да мяне: «Вы хто?» Адказваю: «Ксёндз з Батуры« на». Працягвае мне руку, вітаецца і прамаўляе: «Даўно хацеў з Вамі пазнаёміцца, шмат чаго добрага пра Вас чуў». Так мяне апякло, занерваваўся: такое перажытае назаўсёды пакідае след.

Жыў у той школе з восені 1943 да вясны 1944 года. Не адзін раз чуў, што немцы набліжаюцца. Колькі разоў трэба было ўцякаць у лес, недасыпаць, мерзнуць, перажыць не адзін стрэс, але мая каплічка не замыкалася – адпраўляў імшу, хрысціў, вянчаў, маліўся па нябожчыках. Ездзіў, крыху радзей, у далейшыя ваколіцы з маімі місійнымі справамі».

Тое, што Сэнк Вацлаў распавядае ў сваёй кнізе, цалкам супадае з расповедамі карэнных жыхароў-сведак таго трагічнага часу.

## *Арцішэўскія*

Наступіў 1943 год. Пачалі з'яўляцца сапраўдныя дысцыплінаваныя партызанскія атрады. У лесе ў вярсце на поўдзень ад Навасёлак, на месцы былой смалакурні, дыслакавалася цэлая партызанская брыгада імя Фрунзе, а ў самой вёсцы размясціўся яе штаб, ільянскае падполле і асобы аддзел НКВД. Для зусім змардаванага і абрабаванага насельніцтва за амаль два гады шматуладдзя, ночы наступілі нашмат спакайнейшыя. Але з-за актыўных



дзеянняў партызан супраць фашыстаў у вёску вельмі часта сталі наведвацца немцы і паліцаі ў спадзяванні выведаць месцазнаходжанне партызан. Людзі пачалі рыхтавацца да горшага. Многія вяскоўцы пайшлі ў партызаны, а сем'і іх сышлі жыць у лес у зямлянкі. Рушылі ў партызаны і Арцішэўскія: Іосіф – 1922 г.н., Болесь – 1924 г.н., Вітак – 1927 г.н. Сам Ігнат, пахаваўшы памерлую ад тыфу ў 42-м годзе жонку Ганну, з малымі падаўся ўслед за вяскоўцамі ў лясны лагер на «панядзелькаўшчыну», які знаходзіўся ў лясным масіве за Мышыцамі. Ігнатаваму сямейству ў лесе, а гэта Стась – 1929 г.н., Юзэфа – 1931 г.н., Бронэк – 1936 г.н. і Ганначка – 1939 г.н., дапамагала выжыць кароўка.

Як пачалася апошняя блакада, усе жыхары Батурына пакінулі вёску і перабраліся ў «панядзелькаўшчыну». Пакінулі свае базы і партызаны, узяўшы накірунак на Палік. А каб немцы не змаглі хутка нагнаць абозы, на шляху адыходу расстаўляліся міны. Немцам пра гэта стала вядома, і яны для «размініравання» пачалі выкарыстоўваць мірнае насельніцтва. Агентура нямецкая працавала добра, таму ім лёгка было выявіць месцазнаходжанне лагера батурынцаў. 4 мая 1943 года, калі немцы вывелі ўжо людзей з лесу на дарогу і пагналі па ёй у бок Крамянца, над Батурынам паднялося вялізнае полымя, а ўсё вакол было заслана чорным дымам. Так выпала, што наперадзе расцягнутай калоны жанчын, старых і дзяцей ішоў Арцішэўскі Ігнат з дачкой Юзэфай на руках, якая толькі што перахварэла на тыф. Ступіўшы на масток праз «чорную лужу»,

спрацавала міна. Ігнату ўзрывам адарвала ступні ног, і ён вельмі енчыў. Немцы дабілі Ігната, а разам застрэлілі і яго 12-гадовую дачку. Дагнаўшы людзей да Крамянца, які таксама ўвесь гарэў, батурынцаў, на дзіва, адпусцілі.



1.АРЦІШЭЎСКІ ІОСІФ ІГНАТАВІЧ

Пасля вызвалення Батурына ад немцаў яго старэйшыя сыны вярнуліся дахаты, якой ужо не існавала. Самы старэйшы, Іосіф, адразу патрапіў у Чырвоную Армію, і баявы яго шлях скончыўся дзесьці на польска-нямецкай мяжы. Менавіта там 16 студзеня 1945 года ім было напісана і адпраўлена з палявой пошты 19767 л апошняе пісьмо на Радзіму. Увесь цяжар галавы сямейства Арцішэўскіх узваліў на сябе Вітак, хлопец рукасты і працавіты. Стаўшы гаспадаром без гаспадаркі, нават без кароўкі Лялькі, якая падчас апошняй блакады знікла, прыклаў шмат намаганняў, каб малодшыя хаця не загінулі. Залатыя яго рукі ўмелі ўсё. У партызанах ён мог адрамантаваць любую зброю. А цяпер збіраў ўсялякае жалеза, якога валялася пасля баёў вакол шмат, і вырабляў з яго ўсё, што неабходна было вяскоўцам, пачынаючы ад рыдлёвак, гаршкоў з дзюралю і заканчваючы самагоннымі апаратамі, якія мелі вялікі попыт ва ўсёй акрузе, таму што тады разліковай адзінкай пераважна хадзіла сівуха. А колькі было радасці, калі знайшлася іхняя Лялька! Вітаку падказалі суседзі, што як яны былі ў Іллі, то бачылі там іхнюю кароўку. Не марудзячы часу, разам з Вітакам рушылі ў Ілью і суседзі, як




сведкі для пацвярджэння, што карова, якую яны бачылі, належала Арцішэўскім.

Як Лялька патрапіла ажно ў Іллю, невядома. Кароўка была пярэстая, прыкметная, таму памыліцца было немагчыма, а тым больш, як толькі Вітак да яе падышоў і загаварыў, яна адразу ж адгукнулася. Новым «гаспадаром» Лялькі аказаўся нейкі службовец, і з рашэннем улады вярнуць карову быламу гаспадару не пагаджаўся. Нават трос пісталетам, пагражаючы застрэліць. Але Вітак быў не з пужлівых і ад сваёй каровы не адступіўся. Тады той службовец паабяцаў яму, што ў «даўгу» не застанецца. Дзесьці ўжо ў шасцідзясятых гадах, так і не ажаніўшыся, Вітак пайшоў у Іллю і там загінуў. Казалі, што бачылі, як ён з некім ішоў да рэчкі, але на другі бок так і не перайшоў. Афіцыйна было сказана, што сам зваліўся з кладкі і ўтапіўся. А як там было на самой справе, сцвярджаць не даводзіцца. Не выключэнне, што той самы службовец слова сваё стрымаў.

### *Сыч Пётра і Жук-Грышкевіч Вінцэнт*

Сям'я Сыча пасля таго, як паліцаі спалілі васьмерык, жыла ў зямлянцы, каля скарбніцы на былым панскім двары. Адседзелі ў ёй усю блакаду, і да іх ніхто з немцаў альбо паліцаяў так і не наведаўся. Затое, як толькі прагналі немцаў, іх лёгка адшукала НКВД. Першае і галоўнае

пытанне было пра Пётру. Дзе знаходзіцца і ці з'яўляўся тут падчас вайны? Нікому тут не было вядома, як пасля прысуду склаўся далейшы яго лёс. Сасланы ў лагеры Комі, Сыч шмат хварэў, пакутаваў ад невыносных умоў зняволення, але выжыў – мабыць, таму, што яго ў рэшце рэшт прызначылі мастаком (ён маляваў партрэты лагернага начальства).

У верасні 1941 года на падставе дамовы Сікорскага-Майскага як польскі грамадзянін Сыч Пётра быў перакінуты спачатку ў Надволжа, потым у Самараканд, дзе стваралася польская армія генерала Андэрса. Пётра, як і тысячы іншых беларусаў з Заходняй Беларусі, далучыўся да Войска Польскага. Андэрс не збіраўся ваяваць на баку саветаў і прыклаў шмат намаганняў, каб вывесці сваю армію з тэрыторыі СССР, што ўдалося яму зрабіць з вялікай цяжкасцю толькі пасля таго, як Вялікабрытанія перакінула частку сваіх войскаў з Сярэдняга Усходу на змаганне з японцамі. Месца англічан і заняў Другі польскі корпус, як пачалі называць армію Андэрса ў Іране. Іран, Ірак, Палесціна, Егіпет, Ліван, Італія – такі баявы шлях прайшлі жаўнеры гэтага корпуса да Монтэ-Касіна, а разам з імі і паручнік Сыч Пётра, які браў удзел у баях пад Монтэ-Касіна. Быў чатыры разы паранены. Уганараваны ўзнагародамі розных краін: брытанскімі – Зоркай Італіі, Зоркай 1939–1945, медалём вайны 1939–1945 і медалём Абароны, польскімі – Крыжам № 45039 Монтэ-Касіна, медалём Войска, Ганаровай адзнакай за раненні і іншымі.

Па заканчэнні вайны корпус генерала Андэрса быў пераведзены ў Англію. Там Сыч Пётра з 1946 года пачаў працаваць. У 1951 годзе пераехаў у Германію, дзе рэдагаваў сатырычны часопіс «Шарсьцень» і супрацоўнічаў з газетай «Бацькаўшчына», што выдавалася ў Мюнхене.

Стаў адным з самых першых супрацоўнікоў радыё «Свабода» (тады радыё «Вызваленьне»).

У лютым 1954 года з Канады ў Мюнхен прыехаў доктар Жук-Грышкевіч Вінцэнт, каб распачаць працу па стварэнні беларускай рэдакцыі радыё «Вызваленьне», і ён адразу запрасіў у штатныя супрацоўнікі Сыча Пётру. Сустрэча ў Мюнхене была не першай. Улетку 1940 года Жук-Грышкевіч Вінцэнт і Сыч Пётра разам сядзелі ў савецкай турме ў Полацку і з таго часу пасябравалі. Кіраўнік Беларускай рэдакцыі добра ведаў пра адданасць Сыча беларускай справе і лічыў, што менавіта такія людзі і павінны ствараць беларускае незалежнае радыё. Сыч з вялікім энтузіязмам узяўся за новую работу, укладаў у яе ўвесь свой талент і душу. Ён быў аўтарам тэксту-звароту, з якім самы першы раз выйшла да слухача 20 мая 1954 года беларуская рэдакцыя радыё «Вызваленьне», цяперашняя «Свабода». Называўся ён «Азімут сэрца». Сыч Пётра «меў багатую, чуллівую натуру, быў усебакова адораны. Быў ён і пісьменнікам, і публіцыстам, і паэтам, і мастаком, і маляром – з задаткамі да скульптуры. Жыццёвыя нягоды білі моцна нашага Петруся. Дзесьці ў глыбіні душы ён да канца сваіх дзён насіў крыўду на


Сыч Пётра, другі з лева.

свой жыццёвы лёс». Лёс, які разлучыў яго назаўсёды з самымі блізкімі і роднымі яму людзьмі, з Радзімай, за якую ваяваў, праліваў кроў і цудам застаўся жывы.

Пра перажытае пад Монтэ-Касіна Пётра наважыўся распавесці толькі напрыканцы жыцця, у кнізе «Смерць і салаўі», якая прысвечаная адной з вызначальных стратэгічных аперацый Другой сусветнай вайны – бітве пад Монтэ-Касіна ў студзені-маі 1944 года. У Беларусі, як і ўвогуле ў савецкай гістарыяграфіі мінулай вайны, бітва пад Монтэ-Касіна замоўчвалася. Так, напрыклад, у артыкуле БелСЭ «Другая сусветная вайна» (т. 4, стар. 278–281) падзеі пад Монтэ-Касіна нават не згадваюцца. А між тым, супраць фашыстаў там ваявалі тысячы беларусаў – салдатаў і афіцэраў Другога корпуса генерала Андэрса. Не вярнуўся на Радзіму Сыч Пётра толькі таму, што цудоўна ведаў, што яго чакае. Усе так званыя «ворагі народа», якія патрапілі з бальшавіцкага лагернага «раю» ў корпус генерала Андэрса і пасля перамогі вярнуліся на Радзіму, зноў апынуліся ў сталінскіх лагерах. Проста неабходна ўзгадаць хоць некалькі прозвішчаў нашых землякоў, якія атрымалі бальшавіцкую «ўзнагароду» за ўдзел у мясарубцы Монта-Касіна ў 1944 годзе. Вось іх імёны:

1). Брацук А.С. – 1912 г.н., вёска Андрэйкі, Мядзельскі р-н. Прысуд: 9 лютага 1950 года, 10 год лагера.

2). Касцюк С.І. – 1900 г.н., вёска Матыкі, Крывіцкі р-н. Прысуд: 20 верасня 1950 года, 10 год лагера.

3). Дзіковіч І.С.– 1882 г.н., вёска Чаромушкі, Пастаўскі р-н. Прысуд: 14 кастрычніка 1950 года, расстрэл заменены на 25 год лагера.

4). Жамойдзін І.І. – 1915 г.н., вёска Узбалаць-3, Валожынскі р-н. Прысуд: 8 снежня 1950 года, 10 год лагера.

Памёр Сыч Пётра ў Германіі 20 чэрвеня 1964 года, так і не даведаўшыся, праз якія бальшавіцкія жорны прыйш-




лося прайсці і яго сямейству. А яго сям'і на змену ваенным жахам прыйшлі пасляваенныя, рэпрэсіўныя. НКВД не давала спакою нават і ноччу. Сачылі за кожным крокам жонкі Пётры Ганны і дачкі Броні. Бо лічылі, што Пётра патаемна вярнуўся з-за мяжы і як былы афіцэр Войска Польскага ўваходзіць у склад антыбальшавіцкага падполля, якое ў пасляваенны час вельмі актыўна дзейнічала ў нашым рэгіёне. Але гэты супраціў ужо ў 50-х гадах быў цалкам зламаны савецкай уладай, а арганізатар яго Філістовіч Янка з Рэдзькавічаў Вілейскага раёна і кіраўнік моладзевай антыбальшавіцкай арганізацыі Лапіцкі Расціслаў з Касуты Вілейскага раёна былі расстраляныя. Не знайшоўшы сярод падпольшчыкаў Сыча Пётры, НКВД пачало яго сям'ю ўвогуле тэрарызаваць. Прымушалі пад дыктоўку пісаць лісты, каб Пётра варочаўся на Радзіму. Ужо дарослую Броню і маці вывозілі за вёску, фатаграфавалі і ўсяляк запалохвалі, нагадвалі, што бываюць такія выпадкі, што людзі проста знікаюць бясследна. Прыму-


ТАРАДАЙКА (СЫЧ) БРАНІСЛАВА ПЯТРОЎНА


ГАДЛЕЎСКАЯ (ГЭЙНА)МАРЫЯ УЛАДЗІМІРАЎНА

шалі пастаянна пісаць бацьку толькі пра добрае ў лістах, кожны раз класці фотаздымкі і маліць яго, каб той прыехаў хоць у адпачынак. Скончыліся праследаванні сям'і Сыча толькі ўжо пасля яго смерці і рэабілітацыі. Нават цяжка сабе ўявіць, колькі варожасці і якая была смага помсты ў бальшавікоў да гэтага героя вайны. І не толькі да яго аднаго?! Вось гэта і ёсць сапраўдны і ўсім ужо вядомы крыважэрны твар сталінізму, які забраў мільёны жыццяў.Хачу падзякаваць усім, хто дапамагаў мне ў зборы гістарычнай інфармацыі па гэтай маленечкай вёсачцы і яе жыхарах. І ў першую чаргу гэта:

Гадлеўская (Гэйна) Марыя Уладзіміраўна, 1931 г.н., жыхарка Батурына. Яна памятае і панскую Польшчу і «чорны


ВАСЬКО(АРЦІШЭЎСКАЯ) ГАННА ІГНАТАЎНА

варанок», які звёз бацьку ў лагер толькі за тое, што ён у пана Бароўскага Кондрата быў парабкам. Голад і смерць падчас вайны і ўсё астатняе, што распавядаецца ў гэтым артыкуле.

Васько (Арцішэўская) Ганна Ігнатаўна, 1939 г.н., самая малодшая з сям'і Арцішэўскага Ігната. Яна ад брата Вітака, які быў ім усім замест бацькі, як той загінуў, ведае ўсё пра сваю сям'ю, радню і вяскоўцаў. Са мной падзялілася ўсімі сваімі ўспамінамі. А яшчэ ў падарунак ад яе я атрымаў апошні ліст з фронту ад яе брата Іосіфа і шмат старых фотаздымкаў. Адзін з іх мае вельмі вялікую каштоўнасць і гістарычнае значэнне не толькі для Батурына, але і для ўсёй нашай краіны. Гэта фотаздымак Батурынскага касцёла, зроблены ў 1918 годзе падчас фэсту на Пятра, на якім абвяшчалася Беларуская Народная Рэспубліка (БНР), утвораная 25 сакавіка гэтага ж года. У гэтым фэсце прымалі ўдзел і кайзераўскія вайскоўцы са сваім ваенным аркестрам. Усё гістарычнае, што мне трапіла, я перадам па прызначэнні, каб было даступна іншым.

Тарадайка (Сыч) Браніслава Пятроўна, 1936 г.н., старэйшая дачка Сыча Пётры. Мне яна расказала столькі інфармацыі, што яе не на артыкул, а на цэлую кнігу хопіць. Гэта не размова была, а крык знявечанай душы. Тое, што я атрымаў інфармацыю з першых рук ад дачкі такога


ШАХРАЙ(ПЯТРОВІЧ) ФАІНА АЛЯКСАНДРАЎНА І
СТАНІСЛАЎ ЮСІФАВІЧ

знакамітага зямляка, для мяне вялікі гонар. Дзякуй Вам вялікі, Браніслава Пятроўна, што падзяліліся са мной успамінамі. Я Вам жадаю моцнага здароўя і доўгіх год жыцця.


КСЁНДЗ АНАТОЛЬ З АЛЬКОВІЧ

Шахрай Станіслаў Іосіфавіч, 1919 г.н., усё жыццё ў Лукаўцы, шмат расказаў пра жыццё за польскім часам. Вайна забрала бацьку і шмат яго радні. Даводзілася яму адбываць паншчыну і зарабляць працадні ў калгасе. Кажа, лепш і не ўспамінаць. Шахрай (Пятровіч) Фаіна Аляксандраўна, 1930 г.н., вёска Крамянец. Радаўніца 4 мая 1943 года ёй запомнілася на ўсё жыццё. Гэты дзень яна лічыць другім сваім днём народзінаў. Таму што раніцай, у той самы дзень, да іх у Крамянец прыйшоў яе родны дзядзька з Борак Сташкевіч Вікенцій і хацеў узяць яе да сябе ў нянькі на некалькі дзён, пакуль адсеюцца. Але маці, як адчувала нядобрае, не адпусціла. Дзядзька пайшоў дадому. А ўжо праз некалькі гадзін краменчукі ўбачылі вялізны дым над лесам у накірунку Борак, Брыгідава, Батурына. Чулі страляніну, а пасля і групоўку людзей, якіх гналі немцы з-пад Батурына. Краменчукі адразу ўсё зразумелі і хуценька даліся за Вострую гару на балота. Там на балоце ім і стала вядома пра трагедыю апошняга дня. Немцы ў гэты дзень спалілі датла і іх вёску.

Ксёндз Анатоль з Альковічаў, цудоўны суразмоўца і краязнаўца. Я шмат атрымаў ад яго дакладнай інфармацыі, якая мяне цікавіла па тэме, і вельмі за гэта ўдзячны. Я ўжо канчаткова вырашыў, што гістарычнаму фотаздымку Батурынскага касцёла месца павінна быць менавіта толькі ў касцёле, і Альковіцкі самы лепшы варыянт, таму што яны маюць гістарычную сувязь.

# ХАЦЕНЧЫЦЫ І НАВАКОЛЛЕ Ў ЛЮДСКІХ ЛЁСАХ

## *Мардасы*

Апошнім часам гістарычнай праўды раскрываецца шмат, але далёка не ўся. Таму, пакуль ёсць яшчэ жывыя сведкі тых далёкіх і трагічных часоў, трэба, не губляючы часу, запісваць і абнародаваць іх праўдзівыя расповеды пра сталінскія рэпрэсіі і жахі апошняй вайны. Вёску Мардасы і яе жыхароў таксама не абышоў бокам усебеларускі трагізм мінулага стагоддзя.

Мой субяседнік Дарожка Іосіф, карэнны жыхар гэтай вёскі, распавёў мне вельмі шмат цікавых эпізодаў як са свайго жыцця, так і з жыцця аднавяскоўцаў. Нарадзіўся Іосіф Пятровіч яшчэ пры панскай Польшчы ў 1931 годзе. Добра памятае той неспакойны ў гэтых мясцінах час, бо вёска яго знаходзілася на савецка-польскім памежжы. Адна польская стражніца размяшчалася ў вярсце на ўсход ад Мардасоў, у Батурыне – другая, на захад ад вёскі за дзве вярсты, пад Панышамі. Вакол



і ў саміх памежных вёсках было шмат савецкіх лазутчыкаў, якія агітавалі насельніцтва супраць польскай улады. Яны апісвалі шчаслівае жыццё людзей у Савецкім Саюзе. Падаўшыся за мяжу па абяцаны бальшавікамі рай і шчасце, амаль што ўсе дамоў ужо ніколі не вярнуліся. У бальшавіцкія Паны шы пайшоў і таксама не вярнуўся назад і яго бацька Бохан Пётра, які працаваў памочнікам каваля ў лукавецкага пана Бароўскага. Але давайце пра ўсё па парадку.



ДАРОЖКА ІОСІФ ПЯТРОВІЧ

Сам Бохан Пётра быў не з тутэйшых, а дзесьці з-пад Шыпкоў, за вёрст 15 ад Мардасоў. Ён быў круглай сіратой і гадаваўся ў сям’і старэйшага бацькавага брата. Свайго бацьку Пётра памятаў дрэнна, ведаў яго больш са слоў сваёй маці. Петрусю не было і шасці гадкоў, калі ў 1914 годзе ягоны бацька быў мабілізаваны ў расійскае войска і накіраваны на вайну з немцамі, на якой прапаў без вестак. Да 13-гадовага ўзросту Петруся гадавала адна маці. А ў 1921 годзе пасля смерці маці ад тыфу, які панаваў тут у той час, застаўся круглай сіратой. Але яго забраў да сябе на выхаванне родны дзядзька. Час ішоў. Узмужнелы, працавіты юнак не стаў сядзець на дзядзькавым карку. І ўжо ў 17-гадовым узросце падаўся шукаць сваёй долі ў Лукавец, да паноў Бароўскіх, пра якіх людзі гаварылі толькі добрае. Паны Бароўскія да сялян адносіліся са спагадай. Ніколі не крыўдзілі ў заробку, давалі магчымасць працавітым і кемлівым сялянам развярнуцца ў сваёй гаспадарцы. Давалі нават такі-сякі прытулак бяздомным. Уладкаваўшыся ў Лукаўцы на працу ў кузню памочнікам каваля, Пётра таксама не застаўся без даху над


Антоні,Міхал,Казімір,Гелена з Юнцавіч
Сафія з Лукаўца,Бароўскія. 1906год.

галавой. Пры кузні была невялікая каморка, якая мела прыстойны і абжыты выгляд. Вось яна і стала жыллём для хлопца.

Па заведзеных у паноў Бароўскіх правілах, кожная сялянская сям’я, незалежна ад яе складу, якая працавала ў іх, павінна была абзаводзіцца падсобнай уласнай гаспадаркай, а каровай у самую першую чаргу. Ранняе самастойнае жыццё прымусіла і Бохана Пётру завесці сваю гаспадарку. Ужо праз год-паўтара ў яго жыцці ўпершыню з’явілася асабістая ўласнасць – кароўка. Для тых, хто не меў сваіх гаспадарчых пабудоў, каровы іх «кватаравалі» і харчаваліся ў кароўніку разам з панскімі. І толькі ўлетку сялянскі статак чамусьці пасвіўся асобна ад панскага. Пётрава кароўка «прыпісалася» да галяноўскага кароўніка, які належаў малодшаму пану з Бароўскіх – Кондрату. Руплівы Пятрусь пасля працы ў кузні падпрацоўваў яшчэ ў пана Кондрата, падвозіў з лукавецкага бровара брагу на кароўнік у Галянова, на якім стаяла і яго карова. Для маладога адзінокага хлопца ў той час гэта было вялікім жыццёвым дасягненнем. На яго пачалі звяртаць увагу маладыя дзяўчаты як на прыгожага і дужага кавалера.

А бацькі тых дзяўчат заўважалі ў ім працавітага, не па гадах сур’ёзнага ды самастойнага дзецюка і перспектыўнага для іх зяця.

Аднойчы ў кузню падрамантаваць матычку завітала маладзіца з Мардасоў Аміля. Такую красуню Пётра не мог не заўважыць. Ды і сэрца дзяўчыны неяк адразу ж запала на статнага, высокага, дужага маладога хлопца. Яго чарнява-кучаравая шавялюра вабіла да сябе. Рэгулярныя сустрэчы хутка перараслі ў моцнае каханне. І закаханыя вырашылі расказаць пра свае адносіны бацькам дзяўчыны. Набраўшыся рашучасці, неяк летнім суботнім надвячоркам 22-гадовы Пётра зайшоў на падворак да Дарожкаў Ігнація і Марылі, дзе жыла яго каханая Аміля. Сям’я Дарожкаў мела два гектары зямлі і вяла сваю ўласную гаспадарку. Быў свой конь з усімі прыладамі, а таксама ўся жыўнасць. Маці разам з Аміляй займаліся па гаспадарцы, а бацька служыў кухарам пры двары ў Лукавецкім маёнтку паноў Бароўскіх. Мэта візіту маа ладога хлопца прыйшлася не па душы бацькам маладой. Яны катэгарычна адмовілі ў намеры Пётры пабрацца шлюбам з Аміляй. Жаніх без кала і двара, толькі з адной каровай, ніяк не задавальняў гэту сялянскую сям’ю з сярэднім дастаткам. Ігнацій, бацька Амілі, параіў Пётру,


Бароўскі Леон на ровары.
Бароўскі Ян у капелюшы. пачат.ХХст.

каб той спачатку сабраў хоць такія-сякія сродкі, а пасля ўжо можна будзе і пра вяселле пагаварыць.

Закаханая пара апынулася ў складаным становішчы. Пятрусь разумеў, што, працуючы ў кузні, за кароткі час не зможа сябе забяспечыць. Заставалася толькі адно выйсце, падацца за мяжу на заробкі. Улетку 1930 года ў Пётры з'явіліся дзве магчымасці. Адна была далёка за акіянам, ажно на амерыканскім кантыненце. Яна гарантавала кожнаму праз гады два вярнуцца на Радзіму з грашыма. А вось другая, не зусім надзейная і невядомая, – у Расіі, мяжа якой пралягала ў вярсце ад Мардасоў. Бальшавіцкія лазутчыкі агітавалі мясцовае насельніцтва на супрацоўніцтва з імі дзеля хутчэйшага вызвалення заходняй часткі Беларусі ад польскага панавання. А пакуль тут яшчэ паны, то савецкая Расея дае магчымасць зарабляць добрыя грошы не за акіянам, а тут, на месцы, у суседняй брацкай Краіне саветаў. Але для ўсіх ахвотнікаў расійскага рубля жыццё скончылася ГУЛАГам. Купіўся на агітацыю і Пятрусь. Вырашыў, што расійскі варыянт для яго лепш падыходзіць, чым амерыканскі. Усё ж такі як-ніяк свае, і мова зразумелая.

Кароткая летняя ноч для закаханых праляцела ў адно імгненне. Развітаўшыся са сваёй Аміляй ужо на досвітку, Пётра рушыў праз мяжу ў савецкія Панышы, за шчасцем з бальшавіцкага раю. Дамоў і да сваёй каханай Амілі ён больш так і не вярнуўся. Пасля апошняй той сустрэчы Аміля зацяжарала і ў наступным 1931 годзе нарадзіла хлопчыка. Немаўля назвалі Іосіфам, а па бацьку Пятровічам. А вось прозвішча вымушаныя былі пакінуць па маці, бо з Боханам Пётрам Аміля не была павянчаная. Праз год пасля таго, як Пётра сышоў за мяжу, і не атрымаўшы ад яго ніякіх звестак, пан Ігнась кароўку Пётры перадаў Амілі і яе сыну Юзюку, як бацькаву спадчыну.

А ад сябе асабіста падарыў гектар зямлі. Аміля, застаўшыся у бацькоўскай хаце, працавала па гаспадарцы, апрацоўвала зямлю і гадавала сына. Хлапчук падрастаў і з кожным разам усё больш і больш станавіўся падобным да свайго бацькі Пётры.

Не па гадах дужы і кемлівы, як і бацька, чарнява-кучаравы Юзюк да прыходу бальшавікоў у 1939 годзе паспеў скончыць два класы польскай школы.

### *Пачатак Другой сусветнай вайны*

Новая савецкая ўлада пазачыняла польскія школы, многіх настаўнікаў, якія не паспелі збегчы на Захад, арыштавала. Усіх іх напаткаў лёс нашага знакамітага земляка Сыча Пётры. Юзюку Сыч добра запомніўся, таму што той умеў вельмі добра маляваць. У лічаныя хвіліны мог намаляваць твар любога ахвотнага. Намаляваў Пётра і Юзюкоў партрэт, але падчас вайны яго хтосьці скраў. Дзень 17 верасня 1939 года прынёс некаторым вяскоўцам радасць, некаторым – расчараванні, гора ды слёзы. Новая ўлада пачала мясці па-новаму, аб’явіўшы на вызваленай зямлі раўнапраўе і волю ўсім яе жыхарам. Толькі для працавітых і сумленных людзей гэта раўнапраўе і воля аказаліся горш за няволю. Заможным сялянам прапаноўвалася «добраахвотна» падзяліцца сваімі пажыткамі з мясцовай беднатой.

Лайдакоў і п’яніц сярод сялян хапала і ў той час. Вось гэтыя лайдакі ды п’яніцы аднымі з першых рушылі рабаваць маёмасць паноў Бароўскіх. З маёнтка расцягнулі ўсё, што толькі можна было, а што не ўдалося прысабечыць, то паламалі, пакрышылі. Ужо праз тыдзень, гледзячы на голыя мураваныя сцены, было вельмі цяжка нават уявіць, што тут зусім нядаўна вiравала шчаслівае людское




жыццё, што працавалі вяскоўцы, абслуга панскага двара. У вачах Юзюковага дзеда Ігнація, ужо былога панскага кухара, увесь гэты жах выглядаў страшэнным і жудасным сном. З панскага бровара за суткі расцягнулі ўсё ягонае абсталяванне і ўсе запасы спірту. А вось на свінарнік, кароўнікі і канюшні бальшавікі наклалі вета, назваўшы іх стратэгічнымі аб’ектамі. Для савецкай улады яны на самой справе былі стратэгічнага значэння, бо тады бальшавікі жылі ў вялікай галечы. У той час, пакуль сяляне рабавалі маёнткі, савецкія вайскоўцы ладзілі абозы з панскіх коней, загружалі іх кабанамі з панскага свінарніка і адпраўлялі ўжо за былую савецка-польскую мяжу. З кароўнікаў забралі, праўда, толькі панскую жывёлу, сялянскіх кароў, якія стаялі з панскімі разам, не закранулі. Насельніцтву тлумачылі, што гэта забіраецца для патрэб Чырвонай Арміі.

Іосіф Пятровіч добра памятае, як тыя абозы бралі накірунак на Усход. Ужо праз некалькі месяцаў мардасяне ўсвядомілі, што атрымалі ўзамен польскай паншчыны. Фактычна ўсіх тут напаткала амаль што поўнае безладдзе і беспрацоўе. Беззямельнае насельніцтва, атрымаў-


ПАРЭШТКІ МАЁНТКА БАРОЎСКІХ У ЛУКАЎЦЫ

шы ад новай улады зямлю, не ведала, што з ёй рабіць, як і чым яе апрацоўваць? Тыя, хто меў сваю гаспадарку раней, цяпер яшчэ так-сяк мог звярнуцца. Але вось збыць, як раней, лішкі сваёй прадукцыі ужо не было магчымым.

Раней усё ў сялян скуплялі паны Бароўскія, якія мелі розныя невялікія вытворчасці. Малако можна было здаць на малачарню ў Хаценчыцах альбо на сырабойню ў Чарю вякі (цяперашняя Сакалоўка). У тых самых Хаценчыцах працавала кілбасная, на якую кожны мог здаць цяля альбо кабана на мяса. У Лукаўцы на броварную ад насельніцтва прымалі яблыкі ды збожжа на спірт. На свінарнік у Лукаўцы ды на кароўнікі пастаянна прымалася бульба, буракі, бручка і ўсё астатняе, што толькі можна было аддаць на корм жывёле. За ўсё гэта паны Бароўскія плацілі. Але што зрабілася, тое зрабілася! Надзеі вярнуць усё назад не было ўжо ніякай. Кожны пачаў працаваць, разлічваючы толькі на сябе. Саветы сваю ўвагу звярталі не на жыццё грамадзян, а толькі на выяўленне «ворагаў народа». І ім гэта ўдавалася, бо прыхільнікаў новай улады сярод насельніцтва хапала. Даносы чэкістам паступалі рэгулярна, і былі яны больш пад заказ. НКВД трэба


Бароўскі Міхал

было выконваць даведзены партыяй план на бясплатную працоўную сілу. І яны яго выконвалі паспяхова! «Чорны варанок» наведваўся ў вёскі часта, пераважна ў начны час. Школы былі пазачыняныя, не было каму дзетак вучыць. Польскамоўныя настаўнікі ўцяклі, а хто не паспеў, таго арыштавалі. У суседнім Батурыне пасля 17 верасня касцёл таксама не працаваў. А Юзюк тым часам, вольны ад вучобы, рос працавітым хлопцам. Мабыць, усё ж такі выяўляліся гены бацькі. Ён рабіў усё, што прасілі старэйшыя, маці альбо бабка Марыля. У сям'і Дарожкаў гэта быў адзіны ўнук, і таму бабка Марыля яго вельмі шкадавала і не магла нарадавацца, што ён такі руплівы і паслухмяны. Дзесьці ў глыбіні душы яна адчувала віну перад унукам, што той расце без бацькі, бо гэта ж яна не дазволіла дачцэ злучыць свой лёс са сваім нарачоным, Боханам Пётрам. І, мабыць, каб хоць неяк загладзіць віну, акружыла яго клопатам і ўвагай. Вось так і жылі мардасяне амаль два гады ў падвешаным стане, пакуль не наступіў 1941 год.

### *Чарговая змена ўлады з савецкай на нямецкую*

Вайну Юзюк сустрэў у дзесяцігадовым узросце і ў сваіх Мардасах. Яна прыйшла сюды ціха, без гарматных выбухаў і страляніны.

Ужо 25 чэрвеня з боку Хаценчыцаў па вясковай вуліцы пацягнуліся матацыклы, грузавікі з нямецкімі вайс-

коўцамі і бронемашыны са свастыкай. Калоны рухаліся ў накірунку Крамянца і Мышыцаў да самага вечара. Вулічная брукаванка, не бачыўшы дагэтуль такой колькасці цяжкай тэхнікі, прасядала ў каляіны, а месцамі ўвогуле правальвалася. Надвячоркам усё сціхла,


Падзел захопленай Польшы паміж саюзнікамі

як быццам бы тут нікога і не было. На наступны дзень мардасянам стала вядома, што ў Хаценчыцах немцы разгарнулі вайсковы гарнізон і камендатуру. Нямецкая ўлада заступіла ў свае правы. Па вёсках пайшлі яе прадстаўнікі, літоўскія паліцаі. Завіталі яны і ў Мардасы і давялі да ведама насельніцтва патрабаванні новай улады. Першае і самае галоўнае – гэта поўнае падпарадкаванне жыхароў нямецкаму парадку. А для паўсядзённага кантралявання выканання гэтага парадку жыхары павінны былі «дэмакратычным» шляхам выбраць свайго солтыса. Але ў мардасян «дэмакратыі» не атрымалася, бо добраахвотнікаў на гэту пасаду не знайшлося. Тады прымусова быў прызначаны вясковец Сцёпка Бандысёнак. Так у Мардасах і ў іншых вёсках з'явілася свая ўлада. Немцы спачатку прызначалі падатак, зыходзячы з магчымасці сялянскіх гаспадарак. Юзюк разам з вяскоўцамі амаль штодня вымушаны быў пераадольваць адлегласць у 12 вёрст да Раёўкі, каб разлічыцца за падатак малаком для нямецкіх салдат. Але ж тут у той час існавала не адна нямецкая ўлада, вяскоўцы павінны былі выконваць загады яшчэ дзвюх, партызанскай і лесабандыцкай – «лятучых галан-

дцаў», якія сваімі крывавымі расправамі над цэлымі сем'ямі наводзілі жах на мірнае насельніцтва. І амаль заўжды заставаліся невядомымі, неапазнанымі. Магчыма, з-за таго, што яны былі не мясцовыя, а засланыя правакатарамі. У адрозненне ад немцаў, гэтыя «падаткаабкладальнікі» прыязджалі па аброк самі. Партызаны бралі зыходзячы са сваіх патрэб. А вось лесабандыцкія фарміраванні падчас начных нашэсцяў на вёскі забіралі ў сялян усё, што толькі ім трапляла пад рукі. Пачынаючы з прадуктаў харчавання, адзення, абутку і заканчваючы нават жаночай сподняй бялізнай. Людзі апынуліся ў трайных цісках. Але трэба было неяк выжываць і выкручвацца ў гэтым смяротным трохкутніку. Пакуль лясныя ўлады не забаранялі сялянам плаціць немцам аброк, апошнія ў вёску наведваліся вельмі рэдка. Прыязджалі толькі тады, калі солтыс не мог сам справіцца з якім-небудзь неплацельшчыкам падатку. Яму, у лепшым выпадку, пагражаў бізун, а то як злачынца-сабатажнік мог апынуцца і ў лагеры.

«Вясёлае» жыццё пачалося з вясны 1942-га, калі на нямецкі падатак партызаны наклалі вета. Кожнаму, хто не падпарадкоўваўся, пагражала нават смяротнае пакаранне, як за здраду. А немцы са свайго боку пачалі караць людзей за непадпарадкаванне ім, як партызанскіх пасобнікаў. Людзі не па сваёй волі апынуліся паміж молатам і кавадлам. Іосіф Пятровіч добра памятае забойствы сваіх вяскоўцаў ляснымі бандытамі. Ім таксама добра быў вядомы партызанскі загад насельніцтву не плаціць аброк немцам.

### *Забойства сям'і Шабуневічаў*

Неяк аднойчы, расказвае Іосіф Пятровіч, як звычайна ноччу, некалькі бандытаў уварваліся ў хату да яго суседзяў Шабуневічаў. Усіх, хто на той час быў у хаце: гаспадара Іосіфа, яго жонку Марыльку і іх сына Болеся, вывелі на вуліцу і пагналі у бок свінарніка. Праз нейкі час

у тым баку, у лесе, прагучалі стрэлы. Усе ў вёсцы адчулі нядобрае і зразумелі, што сям'і Шабуневічаў больш няма. Прычынай знішчэння сям'і паслужыла тое, што перад гэтым гаспадар аддаў аброк немцам. І яшчэ як сям'ю нядобранадзейную, таму што Іосіф пры Польшчы служыў пры двары ў пана Бароўскага прыганятым.


ШАБУНЕВІЧ ІОСІФ і СЫН БОЛЕСЬ,А ВІЦЬКА КАЛЯ МАТУЛІ ВЕРЫ

Лёсам было наканавана застацца ў жывых толькі старэйшаму іх сыну Віктару. У той трагічны для яго сям'і вечар Віктар пайшоў на сустрэчу да сваёй каханай дзяўчыны, Шахрай Веры, якая яго і выратавала ад немінучай смерці, схаваўшы ў дрывотні. Некалькі разоў бандыты наведваліся ў вёску, каб адшукаць Віктара, але пасля пошукі спынілі. Праз нейкі час з'явіўся партызанскі атрад імя Варашылава, у яго рады Віктар і ўліўся. У 1944 годзе пасля вызвалення Беларусі ад нямецкіх захопнікаў ён быў мабілізаваны ў Чырвоную Армію. Скончыў вайну у Берліне, пакінуўшы на рэйхстагу свой подпіс. Быў тройчы паранены, узнагароджаны медалямі «За перамогу над фашысцкай Германіяй», «За ўзяцце Кёнігсберга», ордэнамі Айчыннай вайны і іншымі. Пасля дэмабілізацыі з савецкага войска ў 1945 годзе вярнуўся Віктар Іосіфавіч у родную вёску да сваёй каханай Веры Шахрай і адразу на ўсё жыццё звязаў з ёй свой лёс. Праз год нарадзіўся ў іх сынок, якога назвалі Генадзь, у гонар бацькавага сябра, які выратаваў Віктару


ВІКТАР ШАБУНЕВІЧ ТРЭЦІ З ПРАВА Ў ВЕРСЕ

жыццё пры праходжанні тэрміновай службы (1935–1937) у польскім войску.

Вайсковая часць, у якой служыў Шабуневіч Віктар, дыслакавалася недалёка ад савецка-польскай мяжы. Аднойчы адбылося сутыкненне польскіх памежнікаў з савецкімі дыверсантамі. На дапамогу ім быў накіраваны атрад жаўнераў, у якім і служыў Віктар. Сходу рушылі ў бой. Віктар не заўважыў, што далёка адарваўся ад сваіх. У выніку апынуўся ў варожым тыле. Вораг націскаў з усіх бакоў, патроны скончыліся, у ход пайшоў стратэгічны рэзерв, гранаты. Калі заставалася ўжо апошняя лімонка для сябе, бо ў палон здавацца Віктар не збіраўся, раптам дзесьці зусім блізка застракатаў кулямёт. Як пазней высветлілася, гэта Віктару на дапамогу прыйшоў яго сябра, Вайцяхоўскі Генадзь, родам з Ашмяншчыны.

У Шабуневічаў у 1949-м нарадзілася дачушка, назвалі яе Марылькай, у гонар дзвюх бабак. Адну з іх расстралялі лясныя бандыты ў 1942 годзе. Герой вайны спрабаваў знайсці тых лясных «лятучых галандцаў», забойцаў сваіх




родных, але ўсе яго намаганні засталіся безвыніковымі. Нідзе і ніхто не жадаў гэтым займацца. Не толькі пра забойцаў сваёй сям'і не даведаўся Віктар Іосіфавіч, але нават не змог высветліць, дзе іх магілка.

Пасля гібелі сям'і Шабуневіча, распавядае далей Іосіф Пятровіч, ланцужок забойстваў пацягнуўся на другі канец Мардасоў, да солтыса вёскі, Бандысёнка Сцяпана. Бандыты абвінавацілі яго ў тым, што той завёз паз датак (збожжа) немцам у Іллю. Але ж каб гэтага ён не зрабіў, немцы маглі б знішчыць усю вёску. А цяпер яму, як здрадніку і пасобніку фашыстам, прыйшлося аднаму несці адказнасць перад ляснымі бандытамі. Тыя нелюдзі, відаць, былі добра інфармаваныя, бо прыгадалі Сцяпану яшчэ і яго службу ў пана Бароўскага. А працаваў Сцяпан на панскай канюшні звычайным рымарам (шыў пастронкі). Сцяпанавай сям'і пашанцавала больш, чым Шабуневічам. Сцяпана бандыты расстралялі аднаго, а сям'ю яго, на дзіва ўсім, чамусьці не зачапілі. Але затое расстралялі яго зводнага брата, Шахрая (Марцінчыка) Мікалая. Не выратавала ад смерці і яго партызанская дзейнасць, бо афіцыйнае абвінавачанне Мікалаю ставілі быццам бы за марадзёрства. Сям'ю яго таксама не кранулі.

Жонка Мікалая Анэта Іванец (Таклёнцава) была родам з Ляхоў, за сем вёрст ад Мардасоў. Жанчына баявая і рашучая. Неяк у хуткім часе пасля гібелі яе Мікалая у Мардасах сярод белага дня з’явіліся ўзброеныя людзі. Сярод іх Анэта, на сваю бяду, прызнала забойцаў свайго мужа і падняла лямант на ўсю вёску. Затрымаць іх не ўдалося, хоць у вёсцы і кватаравалі партызаны. Бандыты спакойна сышлі ў лес. Іх помста жанчыне не прымусіла доўга чакаць. Праз некалькі дзён Анэту і дваіх маленькіх яе дзетак вяскоўцы знайшлі забітымі ў сваёй жа хаце. Лясныя «лятучыя галандцы» «паклапаціліся» пра іх лёс, як і пра лёсы іншых мардасянцаў.

*Мардасянскія ахвяры ляснога бандытызму.*

1. Шабуневіч Іосіф
2. Шабуневіч Марыля
3. Шабуневіч Болесь Іосіфавіч
4. Шахрай Сцяпан (Бандысёнак)
5. Шахрай Мікалай Марцінавіч (Марцінчык)
6. Шахрай Анэта
7. Шахрай Сашка
8. Шахрай (гадавалая дзяўчынка)

Дзякуючы агульнавясковай пільнасці мардасянцам удалося пазбегнуць яшчэ большых страт. Хто меў якія-небудзь пажыткі, хаваў іх па закутках альбо закопваў у вядомым толькі яму самому месцы. У хаце каля парога пастаянна напагатове стаялі пакункі з першай жыццёвай неабходнасцю, падрыхтаваныя на выпадак патрэбы для экстраннага знікнення з вёскі. Азвярэлыя фашысты маглі знішчыць каго заўгодна без разбору і без прычыны, таму што ўжо ў той час партызаны разгарнулі актыўную барацьбу супраць захопнікаў.

Тэрыторыя былой Хаценчыцкай гміны амаль цалкам кантралявалася партызанамі. Мардасы таксама ўвайшлі

ў партызанскую зону. Пачалося блакаднае жыццё. Мардасяне арганізаваліся ў самаахову. Усе па чарзе круглыя суткі дзяжурылі за вёскай на ўсіх да яе пад'ездах. У выпадку з'яўлення на гарызонце людзей са зброяй, па ўмоўным сігнале, усіх вяскоўцаў як ветрам здзімала ў лес. Хаваліся больш за ўсё пад Зачарной, у балоцістым і дрымучым векавым ельніку. Дзякуючы толькі вось гэтаму непралазнаму гушчару, мардасянам пашанцавала падчас вялікамаштабнай блакады вясной 1943 года. Што нельга сказаць пра іншыя




шматлікія навакольныя вёскі і іх жыхароў. Тады ўся хаценчыцкая партызанская зона апынулася ў шчыльным фашысцкім акружэнні, якое хутка звужалася. Пад смяротнай пагрозай апынулася не толькі насельніцтва, але і партызанскія атрады, якія дыслакаваліся на гэтай тэрыторыі. Ніхто не ведаў, дзе і якое шукаць выйсце з таго становішча? Партызаны яго знайшлі, але толькі для сябе. Напрыканцы красавіка, скарыстаўшы лясістую і забалочаную мясцовасць, атрады вырваліся з акружэння і, замініраваўшы свае шляхі адыходу, рушылі на ўсход Беларусі, да возера Палік. Тым самым пакінуўшы безабароннае мірнае насельніцтва на разарванне лютаму ворагу. 4 мая 1943 года Боркі, Любча, Брыгідава, Старынкі, Батурына былі цалкам знішчаныя фашысцкімі карнікамі. Каты жывымі спалілі амаль што ўсіх жыхароў гэтых вёсак.

Толькі лічаныя цудам уратаваліся. Боркі і Любча пасля вайны так і не адрадзіліся, бо не было ўжо каму, усе загінулі. Былі спаленыя і шматлікія навакольныя вёскі: Новая Гута, Зачарная, Загараны і іншыя. А жыхароў да тла спаленага Батурына фашысты выкарыстоўвалі для «размініравання» партызанскіх мін, якія былі выстаўлены партызанамі для прыкрыцця свайго адыходу з блакаднай зоны. Пасля апошняй блакады вясной 1944 года ў 13-гадовага Юзюка Дарожкі на галаве з'явіліся сівыя валасы. Пафарбавалі срэбрам валасы хлапчука подыхі непрадказальнай смерці, якая крочыла за ім усю вайну. Вось і ў той раз у апошнюю вясну акупацыі смерць у чарговы раз дыхнула Юзюку ў твар. З Мардасоў партызаны сышлі адразу ж, як толькі немцы пачалі бамбіць вёску. Як пасля казалі, пайшлі на прарыў, і гэта ў іх атрымалася. Вяскоўцы таксама ўсе дружна рушылі ў забалочаны ельнік пад Зачарную. Той лес хаваў ад смерці жыхароў і з іншых вёсак. Праз некалькі дзён стрэлы пачалі ўжо зусім сціхаць, і тады вясковая «разведка» далажыла жыхарам, што немцаў у вёсках няма.

Мардасяне, выбраўшыся з лясной нетры ў вёску, адразу пачалі прыводзіць сябе ў парадак. Не паспелі, як след, адмыцца ад балотнай рудаўкі, як у вёсцы раптам невядома адкуль з'явіліся паліцаі і немцы. Юзюк і яго сябра якраз у гэты час пасвілі сваіх кароў за вёскай непадалёку ад лесу. Было вакол усё ціха: ні страляніны, ні бамбёжкі не было чутна. Хлапчукі суцяшалі сябе: можа, ужо вайна скончылася. Але іх разважанні раптам абарвала размова чужынцаў. Не паспелі апамятацца, як з кустоў з'явіліся дзве постаці ў фашысцкай форме з аўтаматамі. Словы «Halt, hendehoh» прымусілі хлопцаў падпарадкавацца акупантам і пад дуламі шмайсераў гнаць сваіх рагуль у вёску. Перад Мардасамі, у якіх ужо поўным ходам гас-

падарылі фашысты з паліцэйскімі, немцы загадалі хлопцам пакінуць кароў на выгане ў агульным статку. Саміх жа пастушкоў нацысты далучылі да калоны вяскоўцаў, якая ўжо рухалася ў накірунку Хаценчыцаў. Ад нядобрага прадчування людзі ў калоне былі збянтэжаныя. Дзеці плакалі, абліваючыся горкімі слязьмі, галасілі жанчыны, старыя клялі паліцэйскіх-канваіраў на чым толькі свет стаіць! Каб супакоіць людзей у калоне, паліцэйскія раз-пораз стралялі ў паветра.

Дайшоўшы да Загаранаў, усю людскую калону (больш за сотню чалавек) надвячоркам загналі ў вялікі ток і наглуха зачынілі дзверы. Усе чакалі жахлівага канца. Сцямнела. Людзі пачалі пакрыху супакойвацца. У кожнага з’явілася надзея на выратаванне. Адны спадзяваліся на дапамогу ад партызан, а іншыя маліліся Богу і спадзяваліся толькі на яго літасць. Рана на досвітку дзверы ў ток расчыніліся і паступіў загад паліцэйскага-літоўца ўсім выходзіць і строіцца зноў у калону. Людзі, уздыхнуўшы з палёгкай, паслухмяна пастроіліся. Немцы і паліцэйскія накіравалі калону ў бок Панышоў. У Рабцах калона з мардасянамі далучылася да іншай. Пасля гэту аб’яднаную калону немцы чамусьці расцягнулі па дарозе на Панышы амаль што на вярсту.

Такая перабудова людзям стала зразумелай пасля таго, як галава калоны ўвайшла ў лес і прагучаў першы выбух. Спрацавала закладзеная міна партызанамі-лунінцамі, якія ішлі на прарыў з блакады. Загінулі на першай міне стары і жанчына з дзіцем. Калона як па камандзе спынілася. Але канваіры, якія ішлі на бяспечнай адлегласці, пад пагрозай расстрэлу прымусілі калону рухацца наперад. Юзюку пашчасціла, яго як дужага хлопца ўзяў з калоны да сябе ў памагатыя высокі і худы ў бліскучых акулярах немец-сувязіст. Узваліўшы на плечы рукзак з акамулятарамі да радыёстанцыі, юнак увесь шлях, ад Панышоў

да Янушкавічаў, прайшоў разам з немцамі. Толькі вось такая непрадбачаная выпадковасць выратавала яго ад магчымай смерці. А там, на дарозе, раз-пораз гучалі выбухі, ад якіх гінулі ні ў чым не павінныя мірныя жыхары. Такім чынам, азвярэлыя фашысты скарысталі безабароннае мірнае насельніцтва для размініравання. Гэтыя міны закладваліся партызанамі брыгады «Штурмавой», пад час іх прарыву з блакаднага кальца і служылі надзейным прыкрыццём для адыходу яе атрадаў на Палік. Дзясяткі мірных жыхароў сталі ахвярамі той дарогі смерці. Адны падарваліся на мінах, а іншыя, губляючы прытомнасць ад убачанага, былі расстраляныя карнікамі.

У Янушкавічах з калоны былі вылучаныя дужага складу мужчыны, якія былі накіраваны за суседнюю вёску Сліжана на будоўлю абарончых умацаванняў для адступаючай нямецкай арміі. Дзесьці ўдалечыні былі чутныя гарматныя выбухі, набліжаўся час вызвалення ад фашысцкіх захопнікаў. Але для шматлікіх нашых землякоў гэты час наступіў толькі праз год, і то на чужыне.

Астатак калоны са старымі, жанчынамі і дзецьмі, пераадолеўшы яшчэ сем вёрст пад ахоўвай паліцэйскіх, быў адпраўлены ў Мышыцы. У гэтай вёсачцы немцы арганізавалі нешта падобнае на перавалачную базу па адпраўцы людзей на працу ў Нямеччыну. Ноч правялі пад адкрытым небам за калючым дротам. Збегчы магчымасці не было ніякай, а на досвітку пачалася адгрузка працаздольных жанчын і дзяцей у грузавікі. Адразу пасля загрузкі калона аўтамабіляў з вязнямі рушыла на захад. Праязджаючы праз родныя Мардасы, Юзюк са слязьмі на вачах і камяком ў горле ў апошні раз убачыў насцеж расчыненыя дзверы сваёй асірацелай хаты. У Нямеччыне яму даводзілася працаваць па 12 гадзін у суткі за кусок хлеба з мякінай і жменьку пярлоўкі, кашу з якой самі і гатавалі. За вялікую радасць быў кавалачак сабачага мяса.

Але такая трапеза была вельмі рызыкоўная. За знішчэнне сабакі і ўжыванне яго ў ежу немцы адразу ж расстралялі б на месцы. Але каб выжыць, вымушаны былі рызыкаваць, бо голад не цётка!

На Радзіму вярнуўся Іосіф Пятровіч толькі праз паўтаара года, восенню 1945-га. Вызвалялі з палону вязняў, сярод якіх быў і мой субяседнік Дарожка Юзюк, англічане, таму і дахаты яны дабіраліся сваім ходам. Савецкае камандаванне ў першую чаргу займалася адпраўкай у Савецкі Саюз тых вязняў, якіх самі вызвалялі, а іншыя для іх быццам бы не існавалі, не лічылі за сваіх. Таму шлях дадому для Іосіфа Пятровіча быў такі доўгі.

Вярнуўшыся з фашысцкага пекла, на Радзіме давялося працаваць не менш, чым на чужыне. На лесадзялянках трэба было даваць непасільную кубатуру і таксама за кавалачак хлеба ды поліўку. Спагады і павагі да тых, хто пабываў у Германіі, нягледзячы нават на тое, што не па сваёй волі, не было ніякай. Малалетнія вязні былі пастаўленыя ў аднолькавыя ўмовы з тымі, хто падчас акупацыі, праяўляючы лаяльнасць да нямецкай улады, добраахвотна з’язджаў на працу ў Германію. Доўгі час пасля вайны савецкае кіраўніцтва ніяк не магло вызначыцца з афіцыйным статусам для гэтай катэгорыі грамадзян. Дарожка Іосіф Пятровіч, як і ўсе яго вяскоўцы, прайшоўшы праз пекла вайны, толькі нядаўна быў прызнаны малалетнім вязнем.

### *Вёска Дварэц*

Вёска Дварэц знаходзіцца ў вярсце на захад ад Мардасоў. У снежні 2012 года пайшла з жыцця самая старэйшая жыхарка гэтай вёсачкі Соф’я Мікалаеўна Дзік (Кратовіч). Незадоўга да смерці я наведаў яе ў спадзяванні даведацца пра што-небудзь з мінулага. Бабе Зоньцы (так яе звалі ў вёсцы) не вельмі падабалася распавядаць пра сваё амаль стогадовае жыццё. Але дазнаўшыся адкуль я і хто мой




тата, яна нават з зада-вальненнем пагадзілася падзяліцца сваімі ўспамінамі пра далёкае мінулае. Ну, а чаму – даведаемся пазней.

Нарадзілася баба Зонька ў 1916 годзе ў вёсцы Дварэц Хаценчыцкай воласці. У гэтай вёсачцы яна так і пражыла ўсё сваё доўгае, поўнае трагізму, апаленае вайной жыццё. Гэта калі не ўлічваць добраахвотна-прымусовую паездку на самалётабудаўнічы завод за Урал у 1944 годзе. Пры паляках жылося не ўсім аднолькава. Хто не баяўся працы і паставіў мэту перад сабой, меў хлеб і да хлеба. Але частыя розныя хваробы касілі людзей без разбору, ад старога да малога. Больш распаўсюджанай хваробай быў тыф.

Зонька расла моцнай, рухавай і працавітай дзяўчынкай. Скончыла чатыры класы польскай школы (навучанне было бясплатнае для ўсіх слаёў насельніцтва, незалежна ад веравызнання). Сям'я Кратовіча Мікалая складалася з васьмі душ і жыла за кошт сваёй гаспадаркі. Яны мелі нядрэнную хату з усімі гаспадарчымі пабудовамі і чатыры з паловай гектары зямлі. Для апрацоўкі яе быў свой конь. У гаспадарцы была таксама свая малатарня і шмат іншых сельскагаспадарчых прылад, кросны. Мелася і нямала жыўнасці: дзве каровы, авечкі, свойская птушка.

Гадавалі свіней і для сябе, і на здачу ў Хаценчыцы на кілбасную пані Высоцкай-Вайткевіч. За што тая плаціла злотымі. У пані Высоцкай-Вайткевіч можна было яшчэ і падзарабіць на той самай кілбаснай альбо ў аранжарэі. Зонька са сваёй сястрой часта скарыстоўвалі такую магчымасць, што дазваляла ім папоўніць сямейны бюджэт. Кожны год сям'я адбывала, як і ўсе, хто меў уласнага каня, панскую падзёншчыну (шараварку, рамонт і будоўлю дарог па воласці). Кіраваў гэтым валасны інжынер-будаўнік, наш знакаміты зямляк Сыч Пётра. Моладзі ў вёсцы было шмат. У вольныя часы па вечарах спраўлялі танцы, на якія заглядвалі кавалеры і з іншых суседніх вёсак. Быў і ў Зонькі кавалер з памежных Чарвякоў (цяпер Сакалоўка) Радкевіч Аляксандр (Ляксандра). Ён хоць і быў маладым, але ў акрузе пра яго гаварылі як пра добрага сталяра. Пазнаёміліся яны ў 1938 годзе, калі Ляксандра штосьці рабіў у яе вёсцы. Слова за слова, так і завязалася сяброўства. Але вясной 1939-га Зоньчын кавалер быў прызваны на службу ў польскае войска. А ўжо ў верасні таго ж года польская ўлада змянілася на бальшавіцкую. Гэта змена ў вёсцы адбылася неяк ціха, без ніякіх стрэлаў, гвалту ды насілля, што нельга казаць пра суседнія вёскі.

### *Прыход савецкіх вайскоўцаў*

Савецка-польская мяжа пралягала ў вярсце на ўсход ад Дварца. Яе польскія жаўнеры пакінулі яшчэ надвячоркам 16 верасня. А на досвітку наступнага дня з боку панышоўскай польскай стражніцы, у накірунку Хаценчыцаў, паходным маршам пацягнуліся шарэнгі савецкіх вайскоўцаў. Калона рухалася паміж Дварцамі і Рабцамі. Усе жыхары гэтых вёсак высыпалі са сваіх хат да той дарогі, каб падзівіцца на войска. Без пагонаў ды з анучамі


Радкевіч Аляксандр Лявонавіч(1940г).

на нагах замест ботаў, бальшавіцкае войска мела выгляд хутчэй арыштантаў, чым вайскоўцаў. Жыхары спачатку з усмешкай назіралі за вайсковай калонай. А пасля таго, як у аднаго з чырвонаармейцаў разматалася ануча на назе, а вайсковец, які ішоў за ім, наступіў на яе, з-за чаго спрацаваў прынцып даміно, бо ў адну кучу адразу завалілася чалавек сем, устрымацца ад смеху было ўжо немагчыма. Калона спынілася, а на ўсё наваколле разляцеўся рогат і салдат, і жыхароў. Але прыгоды на гэтым не скочыліся. Калі да іх вярхом на кані пад'ехаў камандзір, чырвонаармейцы з «кучы мала» пачалі хуценька падымацца. І ў гэты момант пры спешцы ў аднаго з вайскоўцаў выпадкова стрэліла трохлінейка і прама пад ногі жарабцу. Той ад перапалоху падняўся на дыбы і скінуў верхавога. У нейкі момант стала ціха, а пасля, як усе ўбачылі, што ніхто не пацярпеў, рогат падняўся яшчэ мацней.

Незапланаваны вайсковы прывал абарваўся ў адну хвіліну пасля таго, як у гутарку да вайскоўцаў пачалі ўмешвацца мясцовыя жыхары на польскай мове. Для чырвонаармейцаў гэта быў гром з яснага неба. Смех раптам сціх. Твары ва ўсіх сталі сур'ёзнымі. Камандзір, гучна мацюкнуўшыся, аддаў загад станавіцца ў калону і закамандаваў: «Ш-а-а-гам марш!»

## *Жыццё пры новай уладзе*

Па прыходзе бальшавікоў і пакуль іх не змянілі немцы, Дварэц жыў спакойна. У калгасы не зганялі, раскулачванняў не было, рэпрэсій таксама. Ажно да самай вайны ў вёску ніхто не заглядаў. Нават помнік пану Пілсудскаму, які стаяў пасярод вёскі, не закранулі ажно да пасляваенна-

га часу. Хаценчыцкі пан Вайткевіч дзесьці знік, ніхто не ведаў, дзе ён падзеўся. А жонка яго пані Высоцкая-Вайткевіч і іх агароднік Раноўскі (Жырыноўскі) заставаліся яшчэ тут доўгі час. Працавала панская кілбасная і аранжарэя. Але ўжо перад самай вайной гаспадарка пачала развальвацца, і пані Высоцкая-Вайткевіч з'ехала дзесьці пад Варшаву. А агароднік, на сваю бяду, застаўся жыць у яе маёнтку і ўжо праз год пасля пачатку вайны быў расстраляны партызанамі пад Дварцом, быццам бы за сувязь з немцамі. Вайна Гітлера і Сталіна супраць панскай Польшчы скончылася ў лічаныя месяцы. Дварэц тым часам жыў сваімі звычайнымі клопатамі.

### *Ляксандра – бацька аўтара гэтай кнігі*

Ужо ў лістападзе дадому пачалі вяртацца жаўнеры-беларусы з разбітага ўшчэнт польскага войска. Вярнуўся ў свае Чарвякі дзесьці з-пад Беластока і сябра Зонькі Радкевіч Аляксандр. Вярнуўшыся ўзімку 1940 года з вайны, Ляксандра пачаў усё часцей і часцей наведвацца ў Дварэц да сваёй сяброўкі. Сустрэчы ў маладых пачалі перарастаць ў моцнае каханне. Але лёсам ім было наканавана зноў развітацца. Радкевіча Аляксандра новая ўлада паставіла перад выбарам: альбо ГУЛАГ, альбо добраахвотнікам у Чырвоную Армію. Аляксандр выбраў апошняе. 15 верасня 1940 года Іллянскім райваенкаматам ён быў прызваны на вайсковую службу і накіраваны на Далёкі Усход у сапёрна-будаўнічую часць. Пасля вайна. Эшалон, які вёз Аляксандра на абарону Смаленска, пад Ярцавым разбамбілі немцы. Раненне. Год шпіталя. У 1943 годзе, як быламу жаўнеру польскага войска, а значыць, польскаму шпіёну артыкул № 58 адмерыў восем год ГУЛАГа. Спрабаваў патрапіць у армію Андэрса, але нацыянальнасць

«беларус», а магчыма штосьці іншае не дазволіла гэтай мэты дасягнуць. Выйшаў на волю ў 1951 годзе, калі яго дома ўжо ніхто не чакаў, у тым ліку і Зонька. Не дачаокаўшыся толькі пару год без вестак зніклага свайго каханага, яна выйшла замуж за мясцовага хлопца. І Аляксандр з'ехаў у Літву. Там сустрэў на 12 год маладзейшую за сябе дзяўчыну са Смаленшчыны. У 1953-м пажаніліся, а ў 1954 годзе нарадзілася ў іх дачушка Галя. А праз тры гады, у 1957 годзе, Бог ім паслаў сына, аўтара вось гэтых радкоў. А пасля яшчэ двух хлопчыкаў і дзяўчынку. Вось такая цікавая гісторыя, якая дапаўняе і мой сямейны гістарычны архіў, у якую я не зусім верыў, слухаючы старую. Але пацвярджэнне Зоніным расповедам з'явіліся зусім нечакана і выпадкова ў 2015 годзе.

Падчас рамонту бацькоўскай хаты, за абразом пад шпалерамі, быў знойдзены фотаздымак майго таты ў мундзіры жаўнера польскага войска. Пры жыцці тата пра службу ў польскім войску нічога не расказваў. За выключэннем не вельмі значных выказванняў, на падпітку. Кожны раз толькі казаў, што калі менш ведаеш – мацней спіш.

### *Як дварчане сустрэлі вайну з гітлерам*

24 чэрвеня 1941 года, упершыню пасля прыходу бальшавікоў, з'явіліся ў вёсцы чырвонаармейцы. Тыя ж самыя, без пагонаў і ў анучах замест ботаў. Але выгляд у іх быў ужо зусім не такі ганарлівы, як у 1939-м. Збянтэжанасць, разгубленасць панавалі сярод ваенных. Яны не маглі вырашыць, дзе і ў які бок ісці, што рабіць? З польскамоўным насельніцтвам размаўляць ужо не цураліся. Ад чырвонаармейцаў дварчане і даведаліся пра нападзенне немцаў на СССР. Але каб удакладніць, што ўсім цяпер рабіць, не было ў каго. Самы галоўным валасным начальнікам

застаўся паштар Рымша. Ён і распавёў усім, што бальшавіцкая ўлада драпанула, а яго часова пакінулі галоўным, надаўшы ўсе паўнамоцтвы савецкай улады. Рымша пры кожным выпадку не ўпускаў моманту, каб не паддзець савецкую ўладу, партапаратчыкаў, НКВД, якія далі дзёру на Усход, пакінуўшы людзей і рэштку свайго войска на волю лёсу. Дзесьці ўдалечыні грукатала, у небе раз-пораз пралятвалі, а то і кружыліся самалёты. Нічога падобнага раней жыхары не бачылі, і таму з зацікаўленасцю назіралі за лятаючымі жалезнымі птушкамі.




## *Шахраёў хутар*

Групоўка, чалавек трыццаць-сорак, галодных і змучаных савецкіх вайскоўцаў на ноч размясцілася за Дварцом, на Шахраёвым хутары. Людзі сабралі ім такія-сякія пажыткі на вячэру. На наступны дзень, дзесьці бліжэй да поўдня, з боку Хаценчыцаў у Дварэц заехалі некалькі машын і з дзясятак матацыклаў з немцамі. Чырвонаармейцам нямецкая калона была не па зубах, і яны пачалі хуценька адыходзіць з хутара ў лес. Немцы, заўважыўшы вайскоўцаў, пачалі праслед. Апошнія пачалі адстрэльвацца. Але тыя ў адказ адкрылі такі моцны аўтаматны і кулямётны агонь, які ў адзін момант прымусіў савецкае войска залегчы. Немцы, расцягнуўшыся па полі шчы-

льным ланцугом і «паліваючы» чырвонаармейцаў свінцовым «дажджом», не давалі ім адарваць ад зямлі нават галавы. Праз колькі часу страляніна скончылася, бо з адной трохлінейкай на дваіх савецкія вайскоўцы не маглі супрацьстаяць немцам, узброеным да зубоў. Палонных чырвонаармецаў яны адвялі ў Хаценчыцы і зачынілі ў недабудаваным касцёле. Праз нейкі час палонных савецкіх камандзіраў з Хаценчыцаў адправілі ў часовы лагер у Раёўку, а радавым чырвонаармейцам дазволілі жыць у вёсках у якасці наёмных работнікаў.

### *Новая ўлада і новы парадак*

З гэтага дня фашысты ўступілі ў свае правы, абвясціўшы па ўсёй акрузе нямецкую ўладу і свой парадак, якому павінны былі падпарадкоўвацца ўсе без выключэння. Парушальнікаў чакаў расстрэл і шыбеніца, у лепшым выпадку канцэнтрацыйны лагер. Пасля такога павароту мірнага жыцця дварчанам думалася, што гэта жудасны сон. Але ўсё было насамрэч, і таму, каб выратаваць свае жыцці, ім трэба было тэрмінова перастройвацца і падладжвацца да чарговай новай улады. Немцы адразу загадалі вяскоўцам абраць свайго солтыса, які будзе кантраляваць грамадскі парадак, падпарадкоўванне нямецкім законам і выкананне загадаў валасной адміністрацыі і паліцыі. Праз некалькі дзён хваляванні ў Дварцы сцішыліся, бо першапачаткова немцы насельніцтва не крыўдзілі. Не чынілі ніякіх перашкод у вядзенні асабістых гаспадарак. Наадварот, калі каму-небудзь патрэбная была людская дапамога, то па просьбе сялян у такой дапамозе не адмаўлялі і накіроўвалі ім у якасці памагатых савецкіх ваеннапалонных, якія ўтрымліваліся ў хаценчыцкім касцёле.

Прайшло колькі месяцаў, а дварчане так і не абралі свайго солтыса, бо ніхто не пагаджаўся на тую пасаду. Ды і немцы не бачылі ў ім патрэбу ў гэтай вёсцы, бо вяскоўцы самаарганізаваліся і спраўна здавалі новай уладзе прызначаны ім аброк. Бліжэй да восені ў Хаценчыцах немцы распачалі ўмацоўваць свой ваенны гарнізон. У ста кроках на ўсход ад гміны, на месцы недабудаванага касцёла, немцы пабудавалі моцны дзот, укамплектаваўшы яго некалькімі кулямётамі. Пры выездзе з мястэчка на ўсходнім накірунку, на вышцы, быў таксама усталяваны кулямёт, які меў вельмі добры кругавы сектар абстрэлу. Зручную абарончую пазіцыю займаў таксама кулямёт, усталяваны на званіцы Хаценчыцкай царквы. У 20 кроках ад царквы быў пабудаваны яшчэ адзін кулямётны дзот. Паміж гэтым дзотам і царквой быў пракладзены падземны ход. Ва ўсім хаценчыцкім гарнізоне было ўсталявана пяць агнявых кулямётных пунктаў. На ўзбраенні гарнізона мінамётаў, а тым больш гармат (пра якія згадваюць некаторыя крыніцы) не было. Нейкі час былі дзве бронемашыны, але іх перакінулі ў Іллю. І гэта пацвярджаюць непасрэдныя сведкі і ўдзельнікі разгрому хаценчыцкага гарнізона. Для ўзвядзення ўмацаванняў гарнізона былі задзейнічаныя, акрамя ваеннапалонных, мужыкі з навакольных вёсак. З самага пачатку хаценчыцкі гарнізон налічваў некалькі немцаў і са два дзесяткі літоўскіх паліцэйскіх. Паступова асабовы склад гарнізона папаўняўся за кошт мясцовага насельніцтва, з суседніх вёсак – Зачарной, Загаранаў, Пляшчанаў, Заельнікаў, Старынак і іншых. У яго ўліваліся нявінна пакрыўджаныя саветамі яшчэ да вайны працавітыя сяляне ды звычайныя лайдакі і п’яніцы. З Дварца ў паліцыю ніхто не пайшоў. Не ішлі і ў партызаны, прытрымліваючыся «швейцарскага» ней-

тралітэту. Аброкам адкупліваліся ад усіх: і ад немцаў, і ад рускіх, і ад невядомых бандытаў. Апошнія сваімі начнымі нашэсцямі на вёскі і крывавымі расправамі над цэлымі сем'ямі наводзілі жах на мірных жыхароў. Бандыцкія расправы працягваліся нават і пасля таго, як у рэгіёне ўжо дейнічалі цэлыя партызанскія брыгады.

## *Расповеды бабы Зонькі*

Баба Зонька шмат распавяла пра жахлівыя выпадкі ваеннага бандытызму, пра якія ведала не па чутках, а асабіста сустракалася з забойцамі-гвалтаўнікамі і на свае вочы бачыла іх злачынствы. Прайшло 70 год, а прозвішча Барвенка не сыходзіць у яе з памяці. Бо яно, як і Садко, у той час наводзіла жахі на мірнае насельніцтва. Хто ён такі быў, Барвенка?! Партызан, паліцай, звычайны бандыт-гвалтаўнік, ніхто не ведае. Але тое, што ён вольна і без боязі разгульваў па ўсёй акрузе – гэта факт. Амаль два гады мірныя жыхары жылі пад большым страхам ад таго Барвенкі, чым ад нямцаў. Гэты садыст беспадстаўна забіў двух ксяндзоў з Лядзвеняў. Прычапіўся невядома за што да настаўніка польскай мовы Грыбёнкі з Казлеўшчыны і расстраляў яго за Дварцом на ўзлеску як на Панышы. А праз тыдзень Барвенка прыйшоў, каб разабрацца з яго жонкай Алай. Схлусіўшы, што ён прыйшоў ад яе мужа, які быццам бы просіць Алу прыйсці да яго ў лес. Тая паверыла злачынцу і пагадзілася пайсці з ім да


ДЗІК (КРАТОВІЧ) СОФ'Я МІКАЛАЕЎНА

мужа, не ведаючы пра тое, што яго ўжо няма ў жывых. Брат Алы Віталь усяляк адгаворваў, але тая не паслухала. Пакінуўшы часова маленькага сына на Віталя, Ала рушыла з бандытам у бок панышоўскага лесу. Падманным шляхам Барвенка, давёўшы Алу да лесу, прымусіў раздзецца. І нават не падазраючы таго, што ў 50 кроках, з-за стажка з сенам, за яго дзеяннямі пільна назіраюць дзве пары дзявочых вачэй. Згвалтаваўшы Алу, садыст з карабіна амаль што ва ўпор два разы стрэліў у жанчыну. Але тая ўсё адно заставалася жывой. Стрэліць яшчэ раз у злачынцы штосьці не атрымоўвалася. Тады садыст некалькі разоў стукнуў прыкладам па галаве, і тая змоўкла. Дзяўчаты-сведкі, зразумеўшы небяспеку для сябе і скарыстаўшы момант, пакуль бандыт распраўляўся са сваёй ахвярай, даліся наўцёкі ў бок Дварца. Барвенка іх усё ж такі заўважыў, як тыя былі ўжо каля вёскі і падаліся ў хату Кратовіча.

Так, гэта Зонька са сваёй старэйшай сястрой зграбалі сена і апынуліся выпадковымі сведкамі таго жудаснага злачынства. Не паспелі распавесці сваім бацькам пра ўбачанае, як на парозе з’явіўся Барвенка з карабінам у руках. Уся сям’я падрыхтавалася ўжо да самага горшага. Але, відаць, ім лёсам было наканавана жыць, бо выратавала іх ад немінучай смерці няспраўнасць бандыцкай зброі. Той загадаў усім маўчаць пра ўбачанае, а не то іх чакае тое самае, што і Грыбёнку Алу. І галаве сям’і загадаў, каб той узяў рыдлёўку ды схадзіў на ўзлесак і закапаў забітую, а дзяўчаты, каб наладзілі яму добры абед, бо пасля забойства ў яго заўжды падымаецца вельмі добры апетыт. Дзяўчаты вымушаныя былі бегаць па вёсцы і прасіць хоць такіх-сякіх харчоў, каб накарміць таго нелюдзя.

## *«Душы дзіцяя, бо яно загубіць усю вёску!»*

Паэт, пісьменнік і перакладчык Папковіч Уладзімір вайну памятае не вельмі добра. Але ў яго дзіцячую памяць на ўсё жыццё ўрэзаўся адзін момант ваеннага ліхалецця. Гэта як у вёску наляцелі бандыты. Усе яны былі конна і як адзін з іх, з азвярэлым тварам, невядома за што лупцаваў парканінай па галаве свайго жарэбчыка. Бедная жывёліна ржала, спрабавала падымацца на дыбкі, каб вызваліцца ад свайго гаспадара-ката, але садыст моцна трымаў зацуглянага жарабца. Садко, так называлі яго тыя, з кім ён прыехаў, супакоіўся толькі пасля таго, як за жывёліну заступіўся іншы бандыт. Акрываўленая галава каня і азвярэлы твар таго бандыта ва Уладзіміра Антонавіча стаяць перад вачыма яшчэ і сёння. Ужо пасля вайны, калі ён вучыўся ў ільянскай школе, то некалькі разоў сустракаў таго бандыта-садыста, кульгавага на адну нагу, які пастаянна і заўжды п’яны боўтаўся на мясцовым рынку.

А вось сястра Уладзіміра Антонавіча, Леаніла Антонаўна, вайну памятае добра. Нарадзілася яна ў 1928 годзе і да прыходу бальшавікоў у 1939-м паспела скончыць тры класы польскай школы. Далей вучыцца не было магчымасці. Савецкая ўлада пазачыняла ўсе польскія школы, а іншых не паспела адчыніць, бо пачалася вайна.


ПАПКОВІЧ УЛАДЗІМІР АНТОНАВІЧ

Яна распавядала, што падчас вайны іх сям'я лясных бандытаў не вельмі баялася, таму што ў іхняй хаце «кватаравалі» партызанскія камандзіры. Але як толькі немцы распачыналі акцыю супраць партызан, то ўсе з вёскі даліся наўцёкі, кватаранты ў адзін бок, жыхары – у іншы. Вось толькі некаторыя яе ўспаміны, якія вельмі моцна ўрэзаліся ў памяць.

Калі пачалася вайна, іхняя вёсачка Дварэц, як і ўсе навакольныя, апынулася паміж двух агнёў. Днём наязджалі з гарнізонаў (з хаценчыцкага і ільянскага) нямецкія карнікі, рабавалі, забівалі, здзекаваліся з людзей. Ноччу ж наляталі лясныя бандыты, таксама рабавалі, гвалцілі дзяўчат ды жанчын. Па не праверaных даносах знішчалі цэлыя сем'і, не пакідаючы ў жывых нават дзетак. Смерць надчэквала на кожным кроку і невядома адкуль.

Неяк восенню 12-гадовая Лёнька са сваім сямігадовым брацікам Валодзькам капалі бульбу на сваім полі, якое знаходзілася акурат паміж Дварцом і Рабцамі. Раптам у паветры пачуўся гул матораў. Падняўшы галовы, заўважылі ў вышыні шмат самалётаў з крыжамі на крылах, якія кружыліся над Рабцамі і штосьці скідалі. Хоць узрываў і не было чуваць, але над Рабцамі пачаў падымацца чорны дым, а ўслед за ім вялізнае полымя. Вёска ўся палыхала. «Адзін з самалётаў накіраваўся ў наш бок, – расказвае Леаніла Антонаўна. – Страляючы па нас з кулямёта, ён праляцеў над нашымі галовамі так нізка, што мы ці то самі паваліліся ў баразну, ці то паваліла хваля паветра ад яго. На шчасце, кулі нас не закранулі. Пакуль самалёт пайшоў на другі круг, мы з Валодзькам паспелі адпаўзці і схавацца ў прыдарожнай канаве. Зрабіўшы сваю злачынную справу, самалёты зляцелі». Увечары мы даведаліся, што падчас бамбёжкі ў Рабцах загінула Спірыдовіч Ганна Іванаўна 1916 г.н. і яе дачушкі Зінаіда 1935 г.н. і Ле-




акадзія 1937 г.н. Жанчына схавалася ад абстрэлу з самалётаў пад яблынькай, прытуліўшы да сябе дачушак, але не выратаваліся, кулямётная чарга скасіла ўсіх траіх. У гэты ж дзень была знішчаная і суседняя з Рабцамі вёска – Заельнікі.

Наша вёска засталася цэлай. Немцы знішчылі толькі хутар Шахрая Канстанціна, які знаходзіўся каля самага лесу за Дварцом і выкарыстоўваўся пад партызанскі шпіталь. А тое што Дварэц не разбамбілі нямецкія самалёты, дапамог не цуд, а псаломскі Хаценчыцкай царквы Ляшкевіч Сцяпан. Ляшкевіч даведаўся, што немцы збіраюцца з паветра знішчыць партызанскія вёскі, у тым ліку Дварэц. Псаломскі падказаў вяскоўцам, што ёсць магчымасць выратаваць вёску ад знішчэння. Але для гэтага неабходна даць выкуп нямецкаму афіцэру, які адказвае за аперацыю. Дварчане купілі кабана, мёду і праз Ляшкевіча передалі немцу. Калі ў вызначаны дзень наляцелі нямецкія самалёты, то бомбы сыпаліся толькі на суседнія Рабцы, Заельнікі, Зачарную, Мардасы. Праўда, адна бомба звалілася каля лесу і знішчыла Шахраёў хутар. Вось такім чынам вёска была выратавана ад знішчэння.

### *Подзвіг маці*

Наступіўшы 1943 год, прынёс новыя выпрабаванні. Блакада пагнала партызан на Палік, а безабаронныя дварчане ўсёй вёскай рушылі ў глухі забалочаны лясны масіў паміж Лукаўцом і Зачарной. Апошнім часам там было накрыжавана бураломам шмат вялізных ялін, вывернутых з каранямі, якія былі асновай для будана і служылі людскім сховішчам – жыллём замест зямлянак.



Аднойчы надвячоркам, калі ўсе клаліся спаць, з аднаго будана разносіліся плач дзіцяці і жаночы гвалт. Усё дарослае вясковае насельніцтва павыскоквала са сваіх схованак на гэты крык, небяспечны для ўсіх. Высветлілася, што ў сям'і з суседняй вёскі немаўля моцна расплакалася, а маладая мама ніяк не магла супакоіць дзіцятка. Любы шум пагражаў усім смерцю. Старая жанчына з гэтай сям'і на поўным сур'ёзе дала маладзіцы загад: «Душы дзіця, бо яно загубіць усю вёску»! Пачуўшы такое, маладая маці зняла з сябе нейкі пінжачок, загарнула малога, завязала яму на галоўку нейкую хусціначку і са слязьмі на вачах рушыла ў невядомасць. Натоўп, які ціхенька назіраў за ўсім, што адбывалася, паволі стаў разыходзіцца да сваіх буданоў. Людзі пачалі ўладкоўвацца на начлег на нары каля сваіх дзетак, застаючыся кожны са сваімі думкамі.


МІЦЬКО(ПАПКОВІЧ)ЛЕАНІЛА АНТОНАЎНА

Прайшло некалькі дзён. Страляніна ў ваколіцах пачала сціхаць.

Блакада рухалася далей на Усход. Разведаўшы, што немцаў на дарогах і ў вёсках няма, сем'і пачалі збіраць клункі. У нейкі момант вяскоўцы заўважылі ўдалечыні сярод густога ельніку жаночую постаць з нейкім клункам перад сабой. Добра прыгледзеўшыся, яны распазналі ў ёй тую самую маладзіцу з дзіцем. Звалі яе Нінай, а немаўля Шуркам. Усе рушылі ёй насустрач. Якой радаснай і шчаслівай для ўсіх была гэта сустрэча. Усе ўздыхнулі з палёгкай. Муж Ніны быў партызанам і загінуў. Ніна адна выгадавала сына і выправіла яго ў людзі.

### *Трагедыя цёткі Вікці*

Застанецца назаўсёды ў памяці Леанілы Антонаўны трагедыя, якая здарылася ў сям'і яе цёткі Маскалевіч Вікці з Брыгідава. Муж цёткі, дзядзька Міша, быў у партызанах. Яна адна гадавала шасцярых дзетак. Вечарам 3 мая 1943 года сусед прынёс цётцы паведамленне з Навасёлак, што сваяк просіць дапамогі. Цётка павінна была накіраваць аднаго са старэйшых хлапчукоў на адзін дзень папасвіць кароў. Пытанне абмеркавалі на сямейным савеце. Вырашылі, што будзе весялей, калі пойдуць двое. Адольфіку каля дзесяці, а Геніку восем. Самыя пастушкі. Але цётка Вікця вырашыла сама даставіць хлапчукоў і перадаць з рук у рукі сваяку «рабочую сілу». Так і зрабіла. На досвітку 4 мая яна адвяла хлапчукоў па прызначэнні і паспяшалася ў зваротны



шлях, бо трэба было паспець да таго моманту, пакуль малыя прачнуцца. Іх жа трэба будзе памыць, апрануць, пакарміць. Але на выхадзе з лесу на брыгідаўскае поле, перад самым носам у цёткі Вікці, з'явіўся ўзброены фашыст. Ляснуўшы затворам, ён спыніў цётку і, ўпёршыся дулам у грудзі, не дазволіў ёй далей рушыць. Штосьці тлумачыў па-свойму. Але цётка Вікця нічога не магла зразумець і намагалася растлумачыць, што ёй трэба ў вёску, што там яе малыя чацвёра дзетак. Але салдат усё адно яе не прапусціў, бясконца паўтараючы толькі два словы «Кіндэр капут». Колькі часу гэта працягвалася, цётка Вікця ўжо не памятала. Яна разумела і душой адчувала толькі адно, што здарылася штосьці страшнае. У нейкі момант затрашчэў матор грузавіка. Немец штурхануў цётку ў лес далей ад дарогі, а сам вярнуўся назад і сеў у пад'ехаўшы грузавік з іншымі немцамі. Калі цётка Вікця выйшла з лесу на брыгідаўскае поле, яна на нейкі момант страціла прытомнасць. Яе вёска ўся дагарала разам з жыхарамі і яе чатырма маленькімі дзеткамі.

### ***Пляшчанская трагедыя***

Каб больш падрабязна даведацца пра трагедыю 70-гадовай даўніны, якая здарылася ў Пляшчанах на Вілейшчыне, я завітаў да карэнных жыхароў гэтай вёскі Доўнараў Аляксандра (1932 г.н.) і Аляксандры (Булах) (1929 г.н.). Яны пражылі разам доўгае жыццё. Але пакуль пажаніцца, давялося прайсці праз цяжкія жыццёвыя выпрабаванні. Да верасня 1939 года, які перакрэсліў жыццёвыя планы




ДОЎНАР АЛЯКСАНДР АЛЯКСАНДРАВІЧ

вяскоўцаў, Аляксандра Мікалаеўна паспела скончыць тры класы польскай школы ў суседніх Лоўцавічах. А вось Аляксандр Аляксандравіч толькі адзін клас Казлеўшчынскай сямігодкі.

### *З расповеда Доўнар (Булах) Аляксандры*

У адрозненне ад суседняга Дварца, пляшчанцы жылі больш заможна. Амаль што ўсе мелі свой кавалак зямлі і гаспадарку. Ад 1920 года зямля вакол Пляшчанаў належала Багдановічам, якую па загадзе Пілсудскага, па 25 гектараў, выдзялялі прыезджым польскім жаўнерам (асаднікам) у пажыццёвае карыстанне. Ад гэтых надзелаў заставаліся кавалкі (абрэзкі) зямлі, якія раздаваліся моцным і працавітым сялянскім сем'ям. Булах Фёдар атрымаў тры абрэзкі агулам каля 20 гектараў ворыва. Але каб не плаціць вялікіх падаткаў, зямлю раздзяліў на трох ужо дарослых сыноў. Сын Іван (1901 г.н.) не вельмі цікавіўся сялянскай працай. Ён яшчэ


ДОЎНАР(БУЛАХ) А.М.



пры царскай Расеі скончыў чатыры класы рускамоўнай Радашкаўскай гімназіі. Яго вабіла настаўніцтва, якое цягнула ў бальшавіцкую Расею, мяжа з якой пралягала за дзве вярсты на ўсход ад вёскі. У 1922 годзе Булах Іван пайшоў за лепшай доляй у савецкую краіну.

Праз гады тры перапіска з ім абарвалася назаўсёды. Другі сын, Аляксандр, застаўся пры бацьку, а Мікалай, тата Аляксандры Мікалаеўны, на выдзеленых яму дзедам сямі гектарах зямлі пабудаваўся і разгарнуў добрую гаспадарку, якая мацнела, дзеці былі абутыя, адзетыя, вучыліся ў школе. Здавалася, усё складваецца. Але ўсе планы і надзеі на будучыню пачалі знікаць вясной 1939-га. Чуткі пра вайну з Расеяй змяніліся ўжо на расповеды ад незнаёмцаў-агітатараў з таго боку. Правакацыі савецкіх памежнікаў прынялі рэгулярны характар. Пачалася мабілізацыя вяскоўцаў у польскае войска. Пад мабілізацыю патрапіў і Карповіч Уладзімір (1915 г.н.), родны дзядзька Аляксандры Мікалаеўны. Булахі пачалі рыхтавацца да вайны таксама. Да 17 верасня амаль што ўся гаспадарка была распрададзеная. У гэты дзень савецка-польскую мяжу перайшло савецкае войска. Баёў за мяжу не было, польскія памежнікі пакінулі яе яшчэ звечара. Савецкія вайскоўцы паводзілі сябе спакойна. Насельніцтва вёскі замерла ў чаканні.

## *Раскулачванне, арышты*

Спакой скончыўся з першых дзён 1940 года. Пачалося раскулачванне польскіх асаднікаў ды заможных сялян. З карэнных пад раскулачванне патрапіў Ваўчок Павел з Жардэцкіх. У пачатку прыходу Польшчы ён з'ехаў у Амерыку на заробкі. Праз пару год вярнуўся і на зробленыя грошы купіў у заборскага пана стары хутар з 15 гектарамі зямлі ў Зацішшы, гэта вярсты паўтары ад Пляшчанаў. Пабраўся шлюбам з карпавіцкай дзяўчынай, Рабунец Сцепанідай. Услед за гаспадаркай разрасталася і сям'я: нарадзіліся Лёня (у 1930 годзе), Ала (1932) і Поля (1934). І вось цяпер усё, што было зробленае і нажытае, савецкія «вызваленцы» падчыстую забралі і параздавалі беднаце, лайдакам ды п'яніцам. А самога Паўла разам з сем'ямі раскулачаных польскіх асаднікаў саслалі ў Сібір. А напрыканцы саракавога кудысьці ў Сібір саслалі і яго жонку Сцепаніду з дочкамі. Разабраўшыся з так званымі кулакамі, НКВД узялося за тых, хто вярнуўся з нямецкага палону з мабілізаваных у польскае войска беларускіх жаўнераў. Амаль што ўсе яны былі арыштаваныя і сасланыя ў ГУЛАГ. Так сталася і з дзядзькам Аляксандры Карповічам Уладзімірам. Нарадзіўся ён тут у Пляшчанах



Хаценчыцкай воласці ў 1915 годзе ў заможнай сялянскай сям'і. Да прызыву ў войска халасцякаваў і жыў у сям'і старэйшага брата. Падчас савецка-фашысцкай акупацыі Польшчы ваяваў супраць фашыстаў дзесьці на заходнім фронце, за Варшавай. Але вайна хутка скончылася. Карповіч патрапіў у палон да немцаў. Праз нейкі час яму і яшчэ двум зямлякам удалося збегчы – дапамагло веданне польскай мовы. Але дабрацца дадому Уладзіміру не атрымалася. У Маладзечне яго затрымалі патрулі і перадалі НКВД. А тыя шмат часу на Карповіча не трацілі. Асудзілі як здрадніка, які перайшоў мяжу, і накіравалі ў ГУЛАГ.

Вайну двух саюзнікаў Карповіч Уладзімір сустрэў на Салаўках. Як былы жаўнер польскага войска быў залічаны ў Армію Андэрса. У яе складзе ваяваў на розных франтах. Праваяваўшы усю вайну да самай перамогі, ардэнаносец Карповіч Уладзімір на радзіму больш не вярнуўся. Ужо аднойчы адчуўшы на сабе «справядлівасць» савецкай улады, ён вырашыў больш не рызыкаваць і паехаў жыць у Англію, пасля – у Амерыку. І толькі ў сярэдзіне 80-х мінулага стагоддзя, пасля 50-гадовай разлукі з радзімай, Карповіч наведаў Беларусь, свае родныя Пляшчаны. Пагасцяваўшы з месяц у родных, Уладзімір Сямёнавіч вярнуўся назад у чужую краіну, у якой атрымаў прытулак, працу і павагу і якая стала для яго другой радзімай. Там, у Амерыцы, і пахаваны.

86-гадовая Аляксандра Мікалаеўна распавядала мне пра мінулае з такой лёгкасцю і без блытаніны, быццам чытала свае ўспаміны з кніжкі. Пасля кароценькай паўзы і глыбока ўздыхнуўшы, працягнула свае распаведы пра нялёгкі свой лёс.

У чэрвені 1941 года бальшавіцкая ўлада змянілася на фашысцкую, і пляшчанцам у чарговы раз давялося

прыстасоўвацца да новай улады і новага парадку. З самага пачатку вайны ў Хаценчыцах стварылі ваенны гарнізон. Для яго ўмацавання ў якасці працоўнай сілы акупанты выкарыстоўвалі не толькі савецкіх ваеннапалонных, але і мясцовае насельніцтва. Ганялі на будаўніцтва ўмацаванняў не толькі пляшчанскіх мужыкоў, але і з навакольных вёсак. Калі настаў час жніва, то ўсе жыхары Пляшчанаў былі вызваленыя ад працы ў гарнізоне. Такія льготы яны атрымалі дзякуючы свайму аднавяскоўцу Івану Карповічу. Іван быў добра знаёмы з псаломшчыкам Хаценчыцкай царквы Сцяпанам Ляшкевічам, у якога штогод абрабляў зямлю. Ляшкевіч у немцаў быў перакладчыкам, бо добра валодаў нямецкай мовай. Ён па просьбе Карповіча і запэўніў немцаў у тым, што сялян неабходна вызваліць ад працы ў гарнізоне, каб тыя своечасова змаглі ўбраць ураджай, што можа станоўча паспрыяць на падатказбор. Пасля такога тлумачэння нямецкае камандаванне нават пайшло на большае, яно ў дапамогу сялянам накіравала яшчэ і ваеннапалонных. А з надыходам халадоў увогуле расфарміравала іх па вёсках як кватарантаў-працаўнікоў. Шмат хто з вяскоўцаў і рады быў памагатым, асабліва адзінокія жанчыны. Усё ж як-ніяк, але мужык у хаце.

Муж Аляксандры Мікалаеўны Доўнар Аляксандр родам з суседніх Загаранаў, якія шчыльна прылягаюць да Хаценчыцаў. Размежаваннем гэтых вёсак служыць маленькая лясная рэчачка. Маленькая, але ўдаленькая, як кажа Аляксандр, бо яшчэ за польскім часам і на першым годзе вайны на яе беразе каля крынічкі стаяў уласны паравы млын «Загараны» хаценчыцкага яўрэя Цурэнмана Сымаля. Спыніўся той млынок пасля расстрэлу немцамі яго гаспадара разам з ўсёй яго абшчынай. Аляксандр Аляксандравіч гэта добра памятае. Як і тое, што жыхары




з навакольных ад гарнізона вёсак бралі палонных не толькі для дапамогі, але яшчэ і таму, што шкадавалі тых чырвонаармейцаў, якія трапілі ў палон да захопнікаў. Рассяляліся па вёсках ваеннапалонныя толькі радавога складу. А палонных савецкіх афіцэраў і бальшавікоў немцы ці расстрэльвалі, ці адпраўлялі ў асобны неравалачны лагер у Раёўцы.

Аднаго такога небараку пашкадаваў, на гора сабе і людзям, і даў прытулак Грынкевіч Іван (Яцька) Агатавіч, 1900 г.н., з Заельнікаў. На гэтым чалавеку хачу завастрыць увагу чытача, бо быў Іван шырокай душы і шчырага сэрца, хоць лёс і не песціў з самага маленства. Так атрымалася, што нарадзіўся ён па-за шлюбам. Таму і імя па бацьку атрымаў Агатавіч. У маці сваёй, Агаты, ён быў адзіным дзіцем, бо яна так і не выйшла замуж. Гадавала яго і вяла гаспадарку адна. У 17 год Іван усю мужыцкую справу у гаспадарцы цалкам перацягнуў з матуліных плячэй на свае. З самага дзяцінства яго дражнілі Самасеўкам. Мянушкі ў вёсцы ў той час былі звычайнай з’явай, і на іх з крыўдай мала хто рэагаваў.

Не крыўдаваў на яе і Іван. Калі яму было ўжо гадоў 20, пра Самасеўку ўжо ніхто і не згадваў. А ў 1922 годзе




ён ажаніўся з прыгожай дзяўчынай з Мардасоў, Цывількай Паўлінкай (з Муляронкаў). Так атрымалася, што Паўлінка ў сваёй маці таксама была пазашлюбнай дачкой. Але ўсе гэтыя жыццёвыя абставіны не забралі прыгажосці, добрага сэрца і здольнасці кахаць і нарадзіць цудоўных пяцярых дзетак – Геню (1923 г.н.), Лёню (1927), Галіну (1930), Ваню (1932) і Марыську (1933). Неўзабаве пасля вяселля няшчасны выпадак у Іванавым жыцці прыляпіў яму новую мянушку. Летам Іван пасвіў кароў у полі. Раптам наляцела хмара і пайшоў дождж. Статак, перапалохаўшыся грымотаў, рвануў з поля ў вёску. Услед за каровамі падаўся і Іван. Аднак вырашыў пераседзець навальніцу пад дрэвам, у якое і ўдарыла маланка. Тое, што каровы вярнуліся без пастуха, усхвалявала гаспадароў. Івана знайшлі ў непрытомнасці. Але яму наканавана было жыць. Праляжаўшы пад глінянай «коўдрай» гадзіны тры, Іван прыйшоў у сябе. Аднак страціў слых і мову. Мог вымавіць толькі адно слова «Пя-я-ўн». Так нарадзілася яго новая і пажыццёвая мянушка Пярун.

Іван з Паўлінкай спраўляліся самі з небагатай сваёй гаспадаркай. Нараджалі дзетак і ніколі не адмаўлялі ў дапамозе вяскоўцам, за што былі ў пашане. Вайна прынесла ў Заельнікі жыццёвыя праблемы. Працавітаму і дужаму Івану памочнікі па гаспадарцы не былі патрэбныя. Але ўсё ж такі ён прытуліў у сябе аднаго з палонных, 26-гадовага чырвонаармейца, украінца, ураджэнца Алтайскага краю Беліка Івана. Першыя месяцы гаспадар і кватарант знаходзілі агульную мову, але да той пары, пакуль апошні


Хата Грынкевіча Івана Агатавіча. Тут кватараваў САДЫСТ БЕЛІК ІВАН.

не пачаў па начах дзесьці сыходзіць з хаты, што было забаронена яму немцамі як палоннаму. А за такія парушэнні разам з ім нёс адказнасць і гаспадар. Белік знікаў з хаты на цэлую ноч і прыходзіў з рознымі пажыткамі – прадукты, вопратка, абутак, нават траплялася жаночая бялізна. Грынкевіч зразумеў, што кватарант яго па начах займаецца дрэннымі справамі і тым самым нясе не толькі яму, але і ўсяму сямейству смяротную пагрозу. Аднойчы Белік на добрым падпітку прыцягнуў у хату нямецкі кулямёт і некалькі гранат. Такой нахабнасці Грынкевіч ужо не вытрымаў і, раззлаваўшыся на кватаранта, паказаў яму на дзверы. А калі не, то Іван заявіць на яго ў паліцыю. Беліку нічога не заставалася рабіць, як толькі папрасіць гаспадара, каб той дазволіў, пакуль пацяплее, пажыць у яго. У красавіку 42-га Белік з іншымі ваеннапалоннымі сышоў з Заельнікаў, але паабяцаў вярнуцца. І слова сваё стрымаў. Дзесьці ў пачатку мая, нягледзячы на тое, што яго і іншых зніклых палонных шукала гарнізонная паліцыя, Белік наведаў не толькі Заельнікі, але і Загараны, дзе жыў Доўнар Аляксандр. У Загараны ён завітаў у складзе ўзброеных васьмі чалавек. Усе былі на падпітку, вялі сябе

нахабна. Белік гарлапаніў, што ў вёску вярнулася савецкая ўлада, а ён яе прадстаўнік. І што вяскоўцы хутка зразумеюць, хто такі Белік! Але ў той дзень нязваныя госці не паспелі «пагаспадарыць» у Загаранах. Бо вясковая вуліца і падыходы да яе вельмі добра прагляडаліся немцамі са званіцы Хаценчыцкай царквы, якую яны скарысталі як назіральны і кулямётны пункт. Немцы, заўважыўшы ў Загаранах узброеных людзей, не сталі па іх страляць, хутчэй за ўсё таму, што хацелі схапіць іх жывымі. Белік, заўважыўшы ў канцы вуліцы паліцэйскіх, даў па іх доўгую чаргу з кулямёта. Пакуль паліцэйскія апамяталіся, групоўка Беліка без страт здолела выбрацца за вёску. На радасць вяскоўцаў, з паліцэйскіх таксама ніхто не зав гінуў, што і выратавала жыхароў ад пакарання.

### *Лунін Барыс*

Па словах Аляксандры Мікалаеўны, «савецкая ўлада» пасля таго выпадку ў Загараны больш не наведвалася ажно да лета 1944-га, што нельга сказаць пра Пляшчаны. Як пазней высветлілася, той самы Белік сышоў у партызанскі атрад «Штурм», які дыслакаваўся непадалёк у лесе, у межах Заслаўскага раёна. Гэты атрад спачатку быў сфарміраваны пераважна з ліку ўцекачоў ваеннапалонных і акружэнцаў. Узначаліў яго 24-гадовы Лунін Барыс, былы чырвонаармеец. Ён выдаваў сябе за афіцэра Чырвонай Арміі. А былы чырво-наармеец Белік таксама прысабечыў сабе званне палітрука і быў прызначаны Луніным начальнікам асобага аддзела атрада. У хуткім часе пра гэты атрад «народных» мсціўцаў пайшла далёка па наваколлі дурная слава. Белік слова сваё, дадзенае жыхарам вёсак, стрымаў. За кароткі час ён стаў знакамітым партызанам. З яго імем былі звязаныя шматлікія


Адразу за крыжам бачны падмурак Хаценчыцкай царквы.

«геройскія» ўчынкі, асабліва ў адносінах да жыхароў прылеглых вёсак, акрамя Загаранаў.

Бо гэта вёска знаходзілася ў добра прыцэльным сектары абстрэлу нямецкага кулямётнага пункта са званіцы Хаценчыцкай царквы. Беліку пра гэта было вядома, таму туды ён і баяўся сунуцца, нават ноччу. Затое ў астатніх «народныя» мсціўцы адчувалі сябе поўнымі гаспадарамі. Заходзяць, бывала, пасля задання на адпачынак у якую-небудзь вёсачку, а там перад імі павінны былі прагінацвца ўсе, ад малога да старога. Уся вёска павінна была зносіць пачастункі – гарэлку, закусь. А на «дэсерт», як правіла, жанчыны ды дзяўчаты. А паспрабуй селяніну штосьці ім пярэчыць, могуць тут жа на месцы як фашысцкага агента расстраляць. Што нярэдка і здаралася. Вельмі частымі «гасцямі» на падобных «адпачынках» былі то камандзір брыгады Лунін Барыс, то яго асабіст Белік Іван. Гулялі кожны раз да той пары, пакуль не з’яўляліся паліцаі, што аднойчы і прывяло да першай крывавай трагедыі ў Пляшчанах.

Па словах Аляксандры Мікалаеўны, неяк напрыканцы восені 1942 года ў Пляшчаны да Жукоўскіх Дзмітрыя і Варвары прыйшоў з Мінска сваяк, Варварынай роднай сястры Юлькі муж, Ігнат. Ён меў дазвол мінскай камендатуры на вольнае перамяшчэнне. А атрымаць такую прывілею яму дапамагла яго родная дачка Вера, якая, добра валодаючы нямецкай мовай, працавала ў немцаў перакладчыцай. Толькі засталося таямніцай па сённяшні дзень, Вера сама пайшла працаваць да немцаў ці была накіраваная мінскім падполлем. Але як бы там ні было, ёй стала вядома, што ў фашыстаў распачынаецца паляванне на мінскае падполле. Немцы штодня атрымоўвалі ад сваіх інфарматараў падрабязныя звесткі і адрасы падпольшчыкаў. У сувязі з гэтым Вера накіравала свайго бацьку да родных у Пляшчаны, каб тыя дапамаглі яму сустрэцца хоць з якімі-небудзь партызанамі, каб перадаць звесткі пра разгаданых, але пакуль што не арыштаваных мінскіх падпольшчыках. Толькі апошнім часам партызаны ў вёсцы штосьці не з'яўляліся. Жукоўскі параіў швагру схадзіць у Жабічы ды наведаць ягоных сваякоў і паспрабаваць з іх дапамогай наладзіць сувязь з партызанамі Луніна, якія вельмі часта наведвалі Пляшчаны. Так і зрабілі. Ігнат, схадзіўшы ў Жабічы, зноў вярнуўся назад да Жукоўскіх, бо наладзіць сувязь з партызанамі не атрымалася. Ён быў вымушаны застацца ў швагры на нявызначаны час. Дзесьці праз тыдзень, бліжэй да абеду, у вёсцы з'явілася невялікая групоўка лунінцаў. Гэта ўся арава цалкам завалілася ў хату да Булаха Фёдара і як поўныя гаспадары загадалі накрываць стол. У такім выпадку ўсе ведалі, што трэба было рабіць. Старэйшыя заставаліся хто ў хаце, а хто на падворку на варце. Дзеці разбягаліся па вёсцы, каб сабраць пажыткі для такіх гасцей. Усе вяскоўцы давалі, што маглі, бо добра ведалі, што дрэнны

прыём «абаронцоў» для вяскоўцаў дабром не скончыцца. Гарэлкі не шкадавалі, частавалі ад «душы», каб хутчэй паснулі. Ігнат, даведаўшыся пра партызан, пайшоў да Булаха, на сустрэчу з імі. Калі Ігнат зайшоў у хату, госці былі ўжо добра захмялелыя. Да Ігнатавых слоў аднесліся з недаверам. І няведома, чым бы скончылася тая сустрэча, калі б гаспадар хаты не падняў трывогу, што да вёскі ідуць паліцэйскія. Лунінцы павыскоквалі на вуліцу і заляглі ўздоўж паркана, прама ў двары Булахаў. Дзед Аляксандры Мікалаеўны на каленях прасіў партызан не падымаць страляніну ў двары, але ўсё дарэмна. Іх камандзір даў загад страляць па паліцэйскіх, якія ішлі з боку Карпавічаў на Пляшчаны. Пасля першых стрэлаў быў забіты адзін паліцэйскі, а астатнія чацвёра адразу ж заляглі. Пастраляўшы з хвілінку, «госці» даліся наўцёкі ў бок лесу, Зацішша. А паліцэйскія, упэўніўшыся, што бяспека мінавала, рушылі на Хаценчыцы, пакінуўшы свайго забітага на полі.

Для Пляшчанаў тая перастрэлка і забіты паліцэйскі вельмі дорага абышліся. У гэты ж дзень, бліжэй да вечара, лунінцы вярнуліся ў вёску, але ўжо ў большай колькасці і ўзначаленыя вядомым асабістам Белікам. Яны адразу ж пачалі высвятляць, хто на іх наклікаў паліцэйскіх.

## *Расправа асабістаў*

Лунінцы адразу западозрылі швагру Жукоўскага, Ігната, які днём перадаў ім разведдадзеныя пра бяспеку, якая пагражае мінскім падпольшчыкам. Частка атрада зайшла ў хату да Жукоўскіх, а астатнія засталіся на вуліцы. Адразу з парога Белік пачаў задаваць Ігнату пытанні пра яго візіт у партызанскую зону. Галоўным чынам распытваў пра дачку. З кожным пытаннем і адказам, які не задавальняў

Беліка, допыт набіраў усё больш і больш вострую форму. Не атрымаўшы адказу, якога хацеў, Белік загадаў Ігнату збірацца. Іван і Варвара паспрабавалі заступіцца за сваяка, што той ніякі не шпіён, а прыйшоў папярэдзіць пра праваленае мінскае падполле. У адказ Белік абазваў Жукоўскіх фашысцкімі прыхваснямі і загадаў сядзець і не высоўвацца, паабяцаўшы да іх яшчэ вярнуцца. Ігнат на хаду накінуў кажушок на плечы і выйшаў з хаты. На прыцярушанай сняжком вуліцы ўжо шарэла і браўся марозік. Праз хвілін 20 пасля таго, як лунінцы сышлі, дзесьці за вёскай прагучалі стрэлы. Вяскоўцы зразумелі, што асабісты пакаралі чарговага «нямецкага шпіёна». Сям'я Жукоўскіх чакала сваёй чаргі, але ў гэты вечар да іх не прыйшлі. Назаўтра з самага рання Жукоўскія разам з Жогламі, якія даводзіліся ім блізкай раднёй, знайшлі за метраў 500 ад вёскі забітага і раздзетага амаль дагала Ігната. Але забіраць яго, каб пахаваць, пабаяліся – трэба быў дазвол асабіста.

### *Фашысцкая помста*

Не паспелі Жукоўскія толкам распавесці суседзям пра іх гора, як на вёску наляцелі хаценчыцкія паліцэйскія і зондэркаманда з Ілы. Уся гэта фашысцкая хеўра адразу ж запоўніла ўсе падворкі, з якіх мінулым днём была адкрытая страляніна па паліцэйскіх і падчас якой адзін з іх быў забіты. Калі пачалася ў вёсцы страляніна і запалалі чатыры хаты з усімі пабудовамі, Аляксандра Мікалаеўна са сваім татам знаходзіліся ў свірне, за метраў 200 ад свайго падворка. Стаялі і бездапаможна назіралі, як гінуць іх родныя і суседзі і як гараць іх хаты. Расправіўшыся з сем'ямі Булаха, Горбача і Дзіка Яўгена, фашысцкая помста за забітага паліцэйскага пачала пераходзіць ужо

на ўсю вёску. Але тут умяшаўся якраз падаспеўшы псаломшчык Ляшкевіч. Ён запэўніў немцаў у тым, што ў забойстве паліцэйскага вінаваты не сяляне, а партызаны. І тым больш, што гэтыя людзі самі сталі ахвярамі партызан-лунінцаў і паказаў на Жукоўскіх, у якіх напярэдадні тыя расстралялі сваяка. Афіцэр зондэркаманды паверыў Ляшкевічу і адмяніў акцыю па знішчэнні ўсёй вёскі і яе жыхароў. Пляшчане цэлы дзень не маглі адысці ад ранішніх жахаў. Бо кожны з іх прама ў вочы глядзеў сваёй смерці. І толькі бліжэй да вечара, крыху супакоіўшыся, на могілках у Загаранах родныя пахавалі Дзіка Яўгена (1904 г.н.) і яго шасцігадовага сына Ваню. Жонка Яўгена Лізавета (1905), параненая ў сківіцу, здолела выцягнуць з палаючай хаты сына і мужа. Але з сям'і выжыла толькі яна. Сям'ю Горбача нацысты расстралялі ў двары. Спачатку гаспадароў, Габруся (1904) і яго жонку Гэльку (1907), а потым і дачку Аляксандру (1927). Аляксандра з меншымі братам і сястрой, калі пачулі страляніну і дым над суседскай хатай, ссякалі падмарожаную капусту за хлявом на агародзе. Аляксандра загадала малодшым схавацца ў барозны, чым і выратавала ім жыцці, а сама пабегла да хаты, насустрач сваёй смерці.

Горбачаў вяскоўцы пахавалі на месцы расстрэлу, у іхнім жа двары пад яблынькай, дзе тыя спачываюць і па сённяшні дзень, без магілкі і помніка, бо перапахаваць не было каму. На наступны дзень усе жыхары Пляшчанаў сабраліся на папялішча сялібы Булаха Фёдара. Пахаванне гэтай сям'і ўскладнялася тым, што загінулыя згарэлі разам з хатамі. Суседзі добра бачылі, як фашысты разам з паліцэйскімі ўварваліся ў хату і сходу ўсіх пастралялі. Гаспадара, Булаха Фёдара, яго 24-гадовага сына Аляксандра, 22-гадовую нявестку Надзю і прыблукаўшую мінчучку Кацю, а потым, абліўшы пабудовы бензінам,




падпалілі іх. І вось вяскоўцы сабраліся ў спадзяванні, што ўдасца знайсці целы Булахаў і пахаваць іх. Але калі камяні падмурка парассыпаліся і паплавіліся ад тэмпературы, то што можна было казаць пра целы. Таму пахавалі тое, што можна было пахаваць, прама на падворку пры дарозе. Свой двор для іх, як і для Горбачаў, стаў вечным прыстанішчам.

Для Пляшчанаў гэта трагедыя не была апошняй. Паліцаі лазілі па вёсцы і выведвалі, хто мае дачыненне да партызан і дапамагае ім. А партызаны са свайго боку сярод жыхароў адшуквалі здраднікаў. І першыя, і другія за самую малую падазронасць каралі безабароннае насельніцтва ад старога да малога. Вельмі моцны кантроль быў з боку партызан. Іх разведка працавала не горш за нямецкую, але ў шматлікіх выпадках з перабольшваннем. Бо лунінцы ўсё дакладна ведалі, хто дзе з кім загаварыў альбо куды хто схадзіў? Людзі стараліся маўчаць і не казаць нікому пра ўбачанае і пачутае. Але сярод насельніцтва знаходзіліся гэтак званыя «стукачы». Апошняя трагедыя, якая адбылася з Булахамі, у чарговы раз пераканала пляшчанцаў ў мудрасці прыказкі: «Язык мой – вораг мой!» Вось «каб не заўважыў» Булах Фёдар тых паліцэйскіх, глядзіш і ўсё абышлося б ціха, спакойна і без ахвяр. Бо, як стала вядома пазней, тыя пяцёра паліцэйскіх ішлі ў вёску да Баран Евы, за пасам да паравога млына «Загараны». Яго гаспадар, Цурэнман Сымаль, пас той пакінуў у Евы на захоўванне. І іншай мэты паліцэйскія

не мелі. Пакуль яны забіралі б у Бараноў той пас да млына, то партызаны ў Булахаў дапілі б гарэлку ды паснулі. І, хутчэй за ўсё, не адбылося б перастрэлкі і ўсе засталіся б жывымі. Але што здарылася, тое ўжо здарылася.




Наступіў 1943 год, які прынёс вяскоўцам новыя выпрабаванні. Партызаны забаранілі насельніцтву плаціць падаткі нямецкай уладзе. Такая забарона ўсім жыхарам вёскі несла смяротную пагрозу. Солтыс Ключнік не ведаў увогуле, што рабіць – ісці ў партызаны ці ў паліцыю. Вяскоўцы, заціснутыя з усіх бакоў, пачалі баяцца лунінцаў больш, чым немцаў. А лунінцы – вяскоўцаў. Нямецкія шпіёны ім здаваліся не толькі ў навакольных вёсках, але і ў сваіх атрадах. Жыхары клаліся спаць адзетымі, працягвае свае расповеды Аляксандра Мікалаеўна. І толькі з аднымі думкамі, калі і хто прыйдзе па іх жыццё? У лютым 1943-га асабіст Белік з трыма сваімі памагатымі ў чарговы раз наведаў Пляшчаны. Паводзіны яго ў той дзень былі нейкія незвычайныя. Хадзілі ад хаты да хаты, распытвалі: ці заўважаў хто чужынцаў у вёсцы і да каго тыя заходзілі? Папалуднаваўшы ў Карповіча Івана, працягнулі абход вёскі. Не звярталі нават увагі на дзяўчат. Магчыма, яго жарсці да жанчын астудзіла не вельмі прыемная хвароба, якой нядаўна перахварэў. Ужо прыцемкамі зайшлі ў хату да Жукоўскіх. Доўга не марудзілі, бо абвінавачанне ім было ўжо падрыхтаванае. У віну

ім ставілася тое, што быццам Жукоўскія паспрыялі цэлай групоўцы нямецкіх агентаў пад выглядам савецкіх выведвальнікаў укараніцца ў рады іх брыгады. І што іх швагра Ігнат таксама ўваходзіў у склад завербаваных фашыстамі агентаў. Але ўсе яны своечасова былі выяўленыя і расстраляныя. Так заявіў Белік. Таму, згодна з ваенным часам, чакае расстрэл і тых, хто з нямецкімі «агентамі» меў хоць якую сувязь. А гэта цэлы ланцужок здраднікаў, які цягнецца ажно да Мінска. І што моцным звяном таго ланцуга з'яўляецца і сям'я Жукоўскіх, іх швагра Ігнат з Мінска і ягоная дачка Вера, перакладчыца мінскай камендатуры. Расстрэльвалі Жукоўскіх прама ў хаце.

І калі меркаваць па характары выканання прыгавору, то там ўсё выглядала на бандыцкае жахлівае забойства азвярэлых нелюдзяў. Відовішча было не для слабанервовага чалавека. Усе сцены і нават столь былі ссечаныя кулямі і залітыя крывёй. На падлозе ў крывавых лужынах ляжалі знявечаныя шматлікімі кулямі целы Жукоўскіх: гаспадара Дзмітрыя (67 год), гаспадыні Варвары (58), дачкі Серафімы (27), сына Лёні (23), дачкі Марыі (20), унучкі Алімпы (10 год). Асабіст Белік прымаў самы непасрэдны ўдзел у тым крывавым забойстве ў ролі суддзі і выканаўцы прысуду. Пасля рас-стрэлу гэтай сям'і, Белік са сваімі галаварэзамі ўсю маёмасць, вопратку і прадукты, якія толькі былі ў расстраляных, пагрузілі на вазы і забралі.

Але садысты не ўсіх расстралялі. Падчас знішчэння сям'і 12-гадовая ўнучка Ніна схавалася у другім пакойчыку, і яе бандыты не заўважылі. Адразу пасля той трагедыі яе забрала да сябе Вольга, родная сястра бабы Варвары. Яна была замужам за суседам Жоглам Іванам. Так і жыла Ніна ў Жоглаў да свайго шлюбу з Луцкім Міхаілам з Хаценчыцаў. Пасля вайны яна як адзіная, хто застаўся ў жывых з сям'і, выступіла ў судзе як відавочца

і сведка супраць забойцаў яе родных і іншых вяскоўцаў. У тым ліку Карповічаў – Івана Сямёнавіча (1899 г.н.) і ягонай жонкі Марыі Васілеўны (1908), расстраляных 28 мая 1943 года, у якіх кватараваў сам Белік. Асабісту вельмі не падабалася, што да Карповіча Івана ўсе жыхары ў вёсцы адносяцца з павагай, як да разумнага і разважлівага чалавека, які нікому не адмаўляў у вырашэнні тых альбо іншых жыццёвых праблем. Беліка насцярожвалі таксама стасункі Карповіча з псаломшчыкам Ляшкевічам. Хаця цудоўна ведаў, што здрады ў тых стасунках няма.

### *Забойства сям'і Карповічаў*

Асабіст канчаткова абурыўся на Карповіча пасля таго, як Іван супраць загада Беліка «здраднікаў не хаваць» арганізаваў вяскоўцаў для пахавання забітай сям'і Жукоўскіх, бо яны пасля расстрэлу з тыдзень ляжалі ў хаце. Услед расправіцца з непакорным Карповічам не атрымалася з-за распачатай немцамі блакады. Праўда, ён сам не рашыўся прыняць непасрэдны ўдзел у знішчэнні сям'і, якая яго прытуліла, карміла ды абагравала. Карповічаў закатавалі


РАКОВІЧ(КАРПОВІЧ) ЗІНАІДА ІВАНАЎНА

іншыя, яго паплечнікі па барацьбе. Больш падрабязна пра гэта забойства распавяла Раковіч (Карповіч) Зінаіда Іванаўна, 1929 г.н., старэйшая дачка Карповіча Івана.

Блакада 1943-га пазаганяла пляшчанцаў у глухія лясныя нетры. Частка сышла ў Зацішша, а частка за Хаценчыцы ў Зачарнянскі лес, моцна забалочаны, пераважна хвойны. Напрыканцы мая блакада аслабела, і людзі пачалі варочацца ў свае вёскі. Вайна-вайной, а садзіць-сеяць трэба. «Тата, мабыць, прадчуваў нядобрае, – расказвае Зінаіда Іванаўна, – бо дахаты адразу нас, мяне, сястру Жэньку (1936 г.н.) і брата, Аляксандра (1928), з сабой не забраў, а адправіў быццам на тыдзень ў Куляшы, за вёрст пяць ад Пляшчанаў, да бабы Дар'і і дзеда Васіля.

Праз некалькі дзён у Куляшы дайшлі чуткі, што ў Пляшчанах забілі сям'ю Карповічаў, але якіх, дакладна не гаварылі. Пачалі мы больш хвалявацца, калі мінуў час, а тата так і не прыехаў за намі. Бабуля з дзядулем таксама месца не знаходзілі ад розных думак. Урэшце мы самі разам з бабуляй і дзядулем рушылі ў Пляшчаны. Пляшчанцы сустрэлі нас са слязамі на вачах і спачуваннем, сказаўшы, што здарылася вялікае гора ў нашай сям'і. Што бацькі нашы былі забітыя бандытамі ў сваёй жа хаце тыдзень таму, але дагэтуль так і не пахаваныя. Вяскоўцы баяліся заходзіць у хату з-за пагрозаў тых бандытаў. Да падворка нас праводзілі ўсе вяскоўцы. Мы ўжо самі сябе падрыхтавалі да трагічнай сустрэчы са сваімі загінуўшымі бацькамі, але ад таго, што ўбачылі ў хаце, ледзь не страцілі прытомнасць. Нас і ўсіх прысутных уразіў жахлівы выгляд расправы над нашымі роднымі. У таты



былі пазрываныя пазногці на нагах, а ў мамы павырываныя на галаве валасы. Па ўсім было бачна, што іх моцна катавалі. Вяскоўцы дапамаглі пахаваць тату і маму на Загаранскіх могілках.

Бандыты пасля расправы з нашымі бацькамі абрабавалі ўсё, што было магчыма звезці. Але адна ямка засталася некранутай, тата ўсё ж такі нават пад катаваннем не сказаў садыстам, тым самым не пакінуў нас на галодную смерць».

Пытаюся ў Зінаіды Іванаўны, ці ведае яна прозвішчы непасрэдных забойцаў таты і мамы? «Аднаго толькі. Бо пасля вайны мы яго сустрэлі ў Ільі. Тады гэта быў райцэнтр, і ён там працаваў на нейкай пасадзе. Мы яго на ўсё жыццё запомнілі. На пытанне, за што нашых бацькоў закатаваў, адказаў, што яму быў загад расстраляць, і ён толькі страляў. А здзекаваліся іншыя, каб даведацца, дзе пажыткі схаваныя. Бо быў такі загад камандавання – забраць усё і расстраляць!». Зінаіда Іванаўна прыціхла ў задуменні, а вочы, напоўненыя слязьмі, глядзелі недзе ўдалеч. Мо, у далёкі і страшэнны 43-ці. Бо раптам, змахнуўшы з твару слязінкі, прадоўжыла размову пра свой далейшы ваенны лёс: «Асірацелым дзецям ад-


КАРПОВІЧ (КУЛЕШ) МАРЫЯ ВАСІЛЕЎНА


КАРПОВІЧ ІВАН СЯМЕНАВІЧ



ЧАРГОВЫЯ "ВЫЗВАЛЕНЦЫ"

ным заставацца ў Пляшчанах было раўназначна смерці, і таму баба Дар'я забрала іх да сябе ў Куляшы. Пасля такіх трагічных падзей, забойстваў і гвалту, з Пляшчанаў сышло амаль усё насельніцтва. У партызаны да Луніна не ішлі, не хацелі, каб мірнае насельніцтва на іх глядзела, як на лунінцаў-забойцаў. Асабліва пасля таго, як нагледзеліся на іх здзекі і гвалт з насельніцтва. Сышлі хто ў Іллю, хто ў Раёўку, а хто ў Радашкавічы – дзе ў каго была радня. Насельніцтва ўцякала ў нямецкія гарнізоны не толькі з Пляшчанаў, але і з іншых вёсак, куды дабіраліся лунінцы. Заставаліся толькі лічаныя, каму не было да каго прытуліцца.

У Куляшах таксама жыццё было, што на вулкане. Тут часцей, чым у Пляшчанах, наведваліся паліцаі і немцы. Брат Сашка вымушаны быў днямі хавацца дзесьці ў агародзе альбо ў полі, каб не патрапіць на прымусовую службу ў паліцыю. Дахаты прыходзіў толькі нанач і то баючыся налётаў лунінцаў».

## *Адпраўка вяскоўцаў у Германію*

Вясной 1944-га немцы разгарнулі чарговую блакаду не толькі супраць партызан па іх знішчэнні, але і супраць насельніцтва для адпраўкі ў Германію. Выгнаўшы людзей з лесу, старых і слабых адпусцілі, а ўсіх маладых ды працаздольных паходным маршам пагналі на Раёўку. Там яшчэ раз зняволеных перасартавалі і, пагрузіўшы на машыны, завезлі ў Краснае на станцыю.

А там у вагонах-цялятніках цягнік павёз Зінаіду Іванаўну з васьмігадовай сястрой Жэнькай і 16-гадовым братам Сашкам кудысьці на Захад. Стараліся трымацца ўсе разам. Дзесьці ў сярэдзіне лета цягнік давёз іх да месца прызначэння, у Асвенцым, фашысцкі канцлагер Аўшвіц. Там прабылі паўтара месяца, а пасля іх перавезлі ў іншы лагер пад Дрэздэн. Вызваленым вязням можна было выбраць любую краіну свету для жыцця. Пра лагернае існаванне Зінаіда Іванаўна размаўляць не стала, а я, разумеючы яе перажытае, не стаў аб гэтым і распытваць. У 1945 годзе з таго лагера іх вызвалялі амерыканцы. Усім



ЯЎГЕНІЯ ШОСТАК і ЗІНАІДА РАКОВІЧ (КАРПОВІЧЫ)

вызваленым вязням амерыканскім бокам было прапанавана выбіраць любую краіну свету, куды б яны хацелі паехаць жыць. Усім гарантаваліся ўсе грамадзянскія правы той краіны, якую яны абяруць. Пасля прыехалі прадстаўнікі савецкай арміі, якія таксама гарантавалі роўныя правы ўсім тым, хто пажадае вярнуцца ў СССР. Усе, хто будзе згодны з прапановай, будуць без затрымкі адпраўленыя на Радзіму.

Зінаіда Іванаўна з братам і сястрой і з іншымі вязнямі, тымі, хто адмовіўся ад амерыканскай прапановы, тры тыдні чакалі савецкага транспарту, каб адправіцца дадому. Шмат хто ўжо шкадаваў, што не пагадзіліся з амерыканскім бокам, бо тыя ўслед вывезлі «сваіх» з лагера. У выніку вязні, разбіўшыся на групы, рушылі ў Савецкі Саюз пешшу. Дзень выхаду з Дрэздэнскага лагера, 28 мая, запомніўся добра, бо ён супаў з гадавінай расстраляных бацькоў. У дзень праходзілі па 50-60 кіламетраў. Каб выжыць, па дарозе вымушаныя былі прасіць яду, а дзе і красці. Дадому ў Куляшы дабраліся напрыканцы жніўня. Два гады жылі разам з бабай Дар’яй і дзедам Васілём і хадзілі ў Куляшоўскую школу. А ў 1947 годзе, як брата Сашку мясцовая ўлада адправіла ў Карэлію на дрэванарыхтоўкі, Зінаіда Іванаўна з малодшай сястрой пайшлі жыць у Пляшчаны, ва ўцалелую бацькоўскую хату. Працавала на ферме цялятніцай, а малодшая сястра Жэнька працягвала хадзіць у школу. Праз некалькі год з Карэліі вярнуўся брат Сашка. Для яго канцэнтрацыйныя лагеры не прайшлі бясследна. Саш-


КАРПОВІЧ АЛЯКСАНДР ІВАНАВІЧ

ка доўга і моцна хварэў. У хуткім часе, пасля атрымання статуса вязня канцлагера ў 1958 годзе, сышоў з жыцця. А сёстры гэты статус вязняў атрымалі толькі ў 1991 годзе. «А што тут больш казаць, – кажа напрыканцы Зінаіда Іванаўна, – што палупцаваў нас лёс, то палупцаваў! Што нават забойцу нашых бацькоў не пажадаеш!»

### *Уцёкі асабіста ад пляшчанцаў*

Распаведы Раковіч (Карповіч) Зінаіды пра дзейнасць партызанскай брыгады «Штурмавая» дапаўняе былы партызан брыгады імя Фрунзе Кажура Аляксандр. Аляксандру Іванавічу было 16 год, калі ён прыйшоў у партызаны да фрунзенцаў. Брыгада дыслакавалася ў вярсце на поўдзень ад вёскі Навасёлкі (ад Хаценчыцаў сем вёрст). У ёй знаходзіўся штаб брыгады і асобы аддзел. Малалетняга Шурку пакінулі пры штабе. Вазіў падрыўнікоў на чыгунку ды сакрэтныя пакеты па іншых партызанскіх атрадах і брыгадах. Часта бываў і ў «Штурмавой». На думку Аляксандра Іванавіча, і не толькі яго, гэта брыгада мела авантурны і анархісцкі характар з зусім нізкай вайсковай дысцыплінай. Яе камандзір Лунін Барыс сам злоўжываў спіртным і не забараняў сваім падначаленым. Вызначаўся разгульнымі паводзінамі адносна жанчын, празмернай самастойнасцю і «адсябячынай» пры вядзенні барацьбы з ворагам, лічыў нормай рабаванне насельніцтва нават не на сваёй падкантроль-


КАЖУРА АЛЯКСАНДР ІВАНАВІЧ

най тэрыторыі, што ўскладняла ўзаемадзеянні пры правядзенні буйнамаштабных баявых аперацый. Да прыкладу, ад сумеснага разгрому фашысцкага гарнізона ў Хаценчыцах лунінцы адмовіліся. Але дзякуючы дасканала распрацаванаму плану ваенных дзеянняў, фрунзенцам хапіла трох гадзін, каб цалкам завалодаць гарнізонам з мінімальнымі стратамі. Былі знішчаныя пяць кулямётных пунктаў (у тым ліку два кулямётныя дзоты) і мінамётны разлік. Было забіта 30 паліцэйскіх і трое немцаў. Гарнізон фашысты больш не аднавілі. Нейк Аляксандара Іванавіча камандаванне адправіла з пакетам да лунінцаў. Той праехаў спакойна праз усю падкантрольную «Штурмавой» тэрыторыю аж да самога яе штаба і нідзе не заўважыў ніякіх пастоў. І толькі на зваротным шляху, у адным месцы з чатырох, усё ж спынілі для праверкі. «Адмоўныя паводзіны лунінцаў у вачах насельніцтва кампраметавалі і нашу брыгаду, кажа Аляксандар Іванавіч. А яшчэ за імі вадзіліся празмерныя прыпіскі. Заб'юць дзе-небудзь немца ці паліцэйскага, а два прыпішуць. Кажаш іншы раз: «А я ж бачыў, што там адзін ляжаў забіты». А яны ў адказ: «Значыць, двух ужо ваўкі з'елі». Ну, і што ім можна было сказаць на гэта? Вось так і ваявалі!

Пасля вайны шмат хто з жыхароў, у тым ліку дзеці загінуўшых Карповічаў, а таксама родныя расстралянай сям'і Жукоўскага Змітрака Жоглы, спрабавалі адшукаць забойцаў сваіх родных, каб прыцягнуць іх да адказнасці. Але першая спроба не прынесла staноўчых вынікаў. Праз пэўны час пасля звароту пацярпелыя атрымалі адказ, у якім паведамлялася, што для ўзбуджэння крымінальнай справы супраць герояў вайны пададзеных матэрыялаў недастаткова. Ды і ўвогуле, была вайна, а на вайне заўжды ёсць ахвяры. Герояў-пераможцаў у СССР не судзілі. Але толькі не ў гэтым выпадку. Пасля смерці Сталіна і Берыі настырнасць і паслядоўнасць жыхароў

у зваротах прымусіла ваенную пракуратуру БССР распачаць крымінальныя справы супраць былога камандзіра партызанскай брыгады «Штурмавая» Луніна Барыса і начальніка асобага аддзела гэтай брыгады Беліка Івана. Нашы героі-садысты адразу пасля вызвалення атрымалі не толькі высокія дзяржаўныя ўзнагароды, але і высокія дзяржаўныя пасады. Камандзір партызанскай брыгады «Штурмавая» Герой Савецкага Саюза Лунін Барыс, хоць і не меў вышэйшай адукацыі, атрымаў пасаду намесніка міністра аўтамабільнага транспарту БССР. Але за сістэматычныя запоі быў вызвалены з пасады. Пасля чаго з'ехаў на Кубань. Там у 1955 годзе быў арыштаваны следчым Беларускай ваеннай пракуратуры. У гэтым жа годзе быў арыштаваны і яго намеснік начальнік асобага аддзела Белік Іван, які, не меўшы адукацыі, працаваў інкжынерам на «Інтэграле» ў Мінску.

За злачынствы, здзейсненыя падчас вайны супраць мірнага насельніцтва, гвалт, здзекі, рабаванне, а таксама за забойства 36 мірных грамадзян, у тым ліку малалетніх, немаўлят і васьмі савецкіх выведвальнікаў, Лунін і Белік былі асуджаныя Ваенным трыбуналам на сем год кожны. Абодва былі пазбаўленыя ўсіх дзяржаўных узнагарод, а Лунін і звання Героя Савецкага Саюза. Белік пасля вызвалення вярнуўся назад на «Інтэграл». Жанаты быў на Змяеўскай Ніне з Жабічаў. Пазнаёміўся ён з ёй, як там партызаніў. Аднойчы ў 1976 годзе Белік з жонкай прыехалі ў Пляшчаны на пахаванне яе дзядзькі Карповіча Юзі. Пра прыезд партызана-ката імгненна


ЖОГЛА МІХАІЛ ІВАНАВІЧ

даведаліся жыхары не толькі Пляшчанаў, але і навакольных вёсак. Навіну гэту тады распаўсюдзіў Жогла Міхаіл Іванавіч, стрыечны брат Жукоўскай Ніны, чыя сям'я была расстраляная Белікам. Міхаіл Іванавіч на той час працаваў старшынёй Хаценчыцкага сельсавета і таксама вельмі хацеў зазірнуць у вочы таму забойцу яго родных.

Ад самасуду Беліка выратавала «Волга», на якой прыехаў. Натоўп людзей перакрыў вясковую вуліцу з двух бакоў і чакаў, калі пачнецца працэс пахавання, каб вычапіць і расквітацца з Белікам за ўсе яго злачынствы і забойствы іх родных. Бо лічылі, што прысуд яму быў моцна заніжаны. Агрэсіўнасць грамадзян з кожнай хвілінай нарастала. Белік з двара назіраў за натоўпамі і перабіраў усе варыянты прарыву з заблакаванага падворка. Дапамагла ваенная партызанская кемлівасць. За падворкам была пасеяная калгасная канюшына, але не ўбраная. Вось на тое поле ён і звярнуў увагу. Як толькі сабраліся выносіць памерлага, Белік, не завастраючы на сабе ўвагі, сеў у сваю «Волгу» і пачаў яе разварочваць, быццам для выезду на вуліцу. Людзі расступіліся, каб даць магчымасць Беліку выехаць з двара. Ну а што здарылася далей, кажа Міхаіл Іванавіч, то ўсё трэба было бачыць. Белік на поўным газе рвануў машыну не ўперад, а назад і на поўным ходзе праз падворак, збіўшы прасла плота, даўся наўцёкі па канюшынным полі, пакідаючы за сабой толькі вялізны слуп пылу. Ад нечаканасці людскі натоўп стаяў моўчкі ў разгубленасці. А пасля, забыўшыся нават пра нябожчыка ў хаце, жыхаы ры паднялі рогат на ўсю вёску. Уцёкі ката былі людской перамогай над Белікам, ды і ўвогуле над несправядлівасцю. Пасля таго выпадку ўсе ўздыхнулі з палёгкай і засталіся задаволеныя, што абышлося без кровапраліцця. Больш Белік у Пляшчанах не з'яўляўся. Для яго далейшы лёс склаўся не зусім удала, бо сышоў з жыцця не ў пару і не звычайным шляхам.

# ДАВЕДКА З АФІЦЫЙНЫХ КРЫНІЦ

На ***Луніна Барыса Мікалаевіча і Беліка Івана Мікітавіча: http://xn--80adc3aa2ah.xn--p1ai***

СЕКРЕТНО

ЭКЗ 1

ПРИГОВОР

военного трибунала Белорусского военного округа.

*22 июля 1957 года. г. Минск*

Именем Белорусской Советской Социалистической Республики. Военный трибунал Белорусского военного округа в открытом судебном заседании в городе Минске в составе председательствующего – полковника юстиции Морозова, народных заседателей – подполковника Павленко, майора административной службы Аистова, при секретаре Карабань, с участием государственного обвинителя, помощника военного прокурора округа – подполковника юстиции Сергеева, защиты в лице адвокатов Эпштейна и Баран рассмотрел дело:

1) бывшего командира партизанской бригады «Штурмовая» ЛУНИНА Бориса Николаевича, 1918 года рождения, уроженца села Турки Турковского района Саратовской, ныне Балашовской области, жителя города




Анапы Краснодарского края, по национальности русского, беспартийного, женатого, с низшим образованием, несудимого, служившего в Советской Армии по призыву Турковского РВК с сентября 1939 года до августа 1941 года,после чего плененного немцами;

2) бывшего начальника Особого отдела НКВД той же бригады БЕЛИКА Ивана Никитовича, 1915 года рождения, уроженца деревни Ново-Алексеевка Бурлинского района Алтайского края, жителя города Минска, БССР, по национальности украинца, члена КПСС, исключенного в связи с настоящим делом, женатого, с низшим образованием, несудимого, служившего в Советской Армии с 1936 по 1938 год и сверхсрочно до 1940 года секретарем, практикантом, пом. оперуполномоченного Особого Отдела НКВД Благовещенского Укрепрайона, служившего вновь рядовым в Советской Армии с июля до октября 1941 года, после чего плененного немцами, – обоих по обвинению в преступлениях, предусмотренных ст. ст. 180 п. «б» и 214 УК БССР,

ЛУНИН, будучи рядовым 17 мотострелкового полка, в 1941 году попал в плен к немцам и был помещен в лагерь военнопленных Масюковщина Минской области, где вскоре вступил в лагерную полицию. В марте 1942 года ЛУНИН вместе с другими военнопленными совершил побег из лагеря, ушел в Рудненский лес и присоединился



Министерство Обороны
Союза ССР

**ВОЙСКОВАЯ ЧАСТЬ**
№ 38729

13 февраля 1958 г.
№ 82406

Исп. вх. 56/ж

СЕКРЕТНО
экз. № 1

38

ЗАМЕСТИТЕЛЮ НАЧАЛЬНИКА ОТДЕЛА ПО ПЕРСОНАЛЬНОМУ УЧЕТУ ПОТЕРЬ СЕРЖАНТОВ И СОЛДАТ СОВЕТСКОЙ АРМИИ

ПОЛКОВНИКУ тов. КОЗЬМИНУ

На Ваш № 8050 от 25.01.58 г.

Сообщаю, что 18.04.42 нами была переброшена в район г. Минска разведгруппа, возглавляемая младшим сержантом БАРСУКОВСКИМ Леонидом Александровичем, с задачей разведки войск противника в Минске и его окрестностях.

В декабре 1942 г. в связи с создавшейся в Минске обстановкой, во избежание ареста и провала, БАРСУКОВСКИЙ Л.А. и другие разведчики были вынуждены уйти в лес в партизанский отряд "Димы", где 14.01.43 г. расстреляны командиром партизанской бригады "Штурмовая" Луниным и начальником отдела бригады БЕЛИКОМ как агенты Гестапо, о чем тогда же было сообщено нам.

В настоящее время Главной Военной прокуратурой установлено /письмо № 3с – 45915-55 от 4.09.57 г./, что БАРСУКОВСКИЙ Л.С. и другие расстрелянные с ним разведчики, являлись патриотами родины и честно выполняли данное им задание.

За необоснованный и незаконный расстрел группы разведчиков Лунин и Белик 22.07.57 г. Военным трибуналом осуждены.

На основании вышеизложенного, нами принимаются необходимые меры, вытекающие из реабилитации погибших разведчиков, по восстановлению материальных и иных прав их родственникам.

НАЧАЛЬНИК УПРАВЛЕНИЯ В/Ч 38729
ГЕНЕРАЛ-МАЙОР /СМОЛИКОВ/

т. Семинову
17.2.58 г.

Доложено. Восстановить на учет погибшим 14.1.43 г. мл. сержант
21.2.58

Падрабязнасці з прыгавора суда

к действовавшим там партизанам капитана Советской Армии Асташёнок. В последующем ЛУНИН отделился с группой в 15 человек от Асташенок и ушел в Заславский район Минской области, где организовал самостоятельный партизанский отряд, впоследствии переросший в партизанскую бригаду «Штурмовая». ЛУНИН, организовывая партизанский отряд, выдал себя за кандидата коммунистической партии и офицера Советской Армии в звании младшего политрука. ЛУНИН, участвуя в боях с немцами, проявил себя смелым боевым руководителем партизан, но, став командиром, окружил себя людьми, выслуживавшимися перед ним. ЛУНИН первое время противился организации партийно-политической работы среди партизан, не терпел возражений и советов и боялся разделять с кем-либо свою славу и положение командира. ЛУНИН злоупотреблял спиртными напитками, сожительствовал со многими партизанками и, отличаясь властолюбием, с неугодными ему лицами, особенно присланными из-за линии фронта, жестоко расправлялся. Послушным исполнителем таких его дел являлся присоединившийся к ЛУНИНУ в апреле 1942 года, также бежавший из немецкого плена рядовой телеграфно-строительной роты БЕЛИК. Он назвался работником органов НКВД и был вскоре назначен ЛУНИНЫМ вначале уполномоченным, а потом и начальником Особого отдела партизанского отряда и бригады и именовал себя лейтенантом госбезопасности. ЛУНИН отдавал БЕЛИКУ незаконные приказы о расстрелах и убийствах неугодных ему лиц и попустительствовал БЕЛИКУ как своему подчиненному, а последний, в свою очередь, самостоятельно незаконно расстреливал и убивал советских людей. С целью оправдания и сокрытия таких расстрелов и убийств ЛУНИН совместно с БЕЛИКОМ фальсифицировали

следственные и другие материалы о якобы причастности расстрелянных лиц к вражеской агентуре. Эти действия ЛУНИНА и БЕЛИКА вызывали возмущение партизан и местного населения и наносили вред партизанскому движению в Белоруссии. Конкретно преступные действия ЛУНИНА и БЕЛИКА выразились в следующем. Так, в марте и апреле 1942 года советским командованием для работы в тылу противника в районе города Минска было выброшено две группы разведчиков, возглавляемых Вишневским (Владимировым) и Барсуковским, каждая из трех человек. Обосновавшись в Минске, Вишневский и Барсуковский стали проводить работу по сбору и передаче командованию Советской Армии разведывательных данных о немецких войсках. В октябре-ноябре 1942 года вследствие предательства немецкого агента Петрова-Трифонова создалась угроза ареста и провала названных групп советских разведчиков. В декабре 1942 года Вишневский Сергей, Барсуковский, радист группы Мельников, связной Бортник и привлеченные к разведработе местные жители Кухто Ольга (Люся), Володько-Лисецкая и супруги Загорские, связавшись с партизанами и получив согласие командования партизан, возглавляемых ЛУНИНЫМ, ушли в зону их расположения, принеся с собой оружие, боеприпасы и рацию. Между руководителем группы разведчиков Вишневским и ЛУНИНЫМ вначале установились хорошие взаимоотношения, но после того, как Вишневский стал высказывать критические замечания в адрес ЛУНИНА, последний свое отношение к Вишневскому и всей группе разведчиков резко изменил. Имея от БЕЛИКА провокационную информацию о членах группы разведчиков, ЛУНИН после очередного столкновения с Вишневским на встрече в ночь под новый 1943 год, будучи возбужденным и нетрезвым, нес-

мотря на возражение комиссара, приказал БЕЛИКУ арестовать и расстрелять находившихся на вечере разведчиков. БЕЛИК в ту же ночь без какого-либо допроса и предъявления обвинения арестовал и расстрелял со своими подчиненными Вишневского, Мельникова, Бортника и супругов Загорских. На другой день ЛУНИН приказал начальнику штаба Фогелю, невзирая на его несогласие, расстрелять и остальных из группы разведчиков: Барсуковского, Кухто Ольгу (Люсю) и Володько-Лисецкую. Эти лица были расстреляны лично БЕЛИКОМ и подчиненными ему партизанами, причем прибывший к месту расстрела ЛУНИН сам расстрелял Кухто Ольгу. С целью сокрытия незаконного расстрела уже после случившегося по указанию ЛУНИНА было составлено за подписью БЕЛИКА и с утверждением ЛУНИНА фиктивное обвинительное заключение, в котором указано, что возглавляемая Вишневским группа якобы является немецкой агентурой. Кроме того, в тех же целях оправдания подобной расправы над группой Вишневского был составлен приказ по бригаде за подписью ЛУНИНА, в котором указано, что Вишневский с членами своей группы будто бы пытался совершить покушение на ЛУНИНА. Так были расстреляны ЛУНИНЫМ и БЕЛИКОМ восемь (8) разведчиков Генерального штаба Красной Армии и привлеченные ими к разведработе советские патриоты. Расправляясь с неугодными ему лицами, ЛУНИН, узнав о высказывании недовольства его действиями со стороны командира партизанского отряда «Грозный» старшего лейтенанта Чугуй, приказал арестовать последнего. Арест Чугуя произвел в августе 1943 года лично БЕЛИК, который в тот же день вывел Чугуя из шалаша, где он находился под арестом, выстрелом в голову убил последнего, после чего снял с убитого сапоги и брюки и забрал их

себе. Уже после убийства Чугуя были составлены приказы по бригаде об аресте его и расстреле, а также составлено обвинительное заключение, подписанное БЕЛИКОМ и утвержденное ЛУНИНЫМ, в котором указывалось, что Чугуй подлежит расстрелу. Факты, приведенные в этих документах, в основном не соответствовали истине, а имевшие место отдельные случаи недостойного поведения Чугуя не могли явиться основанием для его расстрела. В 1942 году ЦК Коммунистической партии Белоруссии в Заславский район была направлена группа коммунистов для организации партизанского движения, возглавляемая старшим лейтенантом Гурко и секретарем Заславского подпольного райкома партии Дубовиком. Вскоре этой группой был организован партизанский отряд имени Фрунзе под командованием Гурко, который в последующем вошел в состав партизанской бригады «Штурмовая». Между ЛУНИНЫМ и Гурко сложились ненормальные отношения. Гурко, как опытный кадровый командир, противопоставлял себя ЛУНИНУ. Гурко сигнализировал высшим инстанциям за линию фронта о поведении ЛУНИНА, последний знал об этом. Воспользовавшись некоторыми упущениями со стороны Гурко по службе, ЛУНИН издал приказ об отстранении его от должности командира отряда с понижением до командира роты в госпитальном отряде и аресте на 7 суток. Объявление данного приказа Гурко было поручено начальнику особого отдела БЕЛИКУ. 24 октября 1943 года Гурко был вызван в штаб бригады, где БЕЛИК, зачитав названный приказ, потребовал от Гурко сдать оружие. Гурко на это ответил: «Не вы дали мне оружие, и я могу разговаривать при оружии», но затем сделал движение рукой к кобуре, в этот момент ЛУНИН сказал БЕЛИКУ: «Если не подчиняется, то не возитесь и стреляйте», и БЕЛИК тут же

мгновенно выстрелил в Гурко, ранив его в грудь, после чего вторым выстрелом добил Гурко. С целью сокрытия обстоятельств этого убийства БЕЛИКОМ был сфабрикован акт, где указано, что Гурко был убит при попытке применить оружие к присутствующим в штабе командирам, и, кроме того, по указанию ЛУНИНА был составлен другой приказ по бригаде, в котором указывалось, что Гурко отстраняется от должности и предается суду трибунала. Убийство командира отряда Гурко, пользовавшегося любовью и уважением партизан, вызвало среди них большое возмущение, и командованию бригады пришлось специально выезжать с разъяснениями в отряд имени Фрунзе. ЛУНИН пьянствовал и, используя свое служебное положение, сожительствовал с партизанками, бросая одну и вступая в сожительство с другой, а с выражавшими этим недовольство – расправлялся. Так, ЛУНИН в течение 1942 года сожительствовал с партизанками Верховодько Верой, Ширко Валентиной, Жигалко Раисой и другими. Верховодько Вера, будучи беременной от ЛУНИНА, после того как он ее бросил, открыто выражала недовольство по адресу ЛУНИНА, и последний стал искать повода расправиться с ней. При выполнении одного из заданий подпольного горкома комсомола в Минске, Верховодько задерживалась полицейским, оказавшимся ее соучеником в прошлом, который расспросил ее о бригаде, высказал ей свое желание тоже уйти в партизаны и отпустил ее. Верховодько, возвратясь из Минска, откровенно рассказала об указанном случае ЛУНИНУ, БЕЛИКУ, комиссару бригады Федорову и начальнику штаба бригады Фогелю. ЛУНИН после этого приказал БЕЛИКУ оформить материал на Верховодько и ее расстрелять. БЕЛИК сфабриковал протокол допроса Верховодько и с помощью Фогеля составил обвинитель-

ное заключение в отношении Верховодько о наличии у ней якобы связи с немецкой полицией и разглашении партизанской тайны, а затем осуществил ее расстрел. Расстрел Верховодько был произведен без согласования с подпольным горкомом комсомола, несмотря на то, что к этому времени Верховодько уже находилась в распоряжении последнего и ходила в Минск по заданию горкома, а не командования партизанской бригады. Несколько ранее расстрела Верховодько было организовано БЕЛИКОМ убийство второй сожительницы Лунина – партизанки Ширко Валентины, предлогом для чего послужило золото, хранившееся у неё от матери, расстрелянной немцами. Убийство Ширко было осуществлено БЕЛИКОМ в отсутствие всего командования бригады, которое в это время находилось вместе с ЛУНИНЫМ на выполнении боевой операции. БЕЛИК о расстреле Ширко доложил ЛУНИНУ, и последний на это не реагировал, попустительствуя таким образом произволу своего подчиненного БЕЛИКА. Трибунал считает не доказанным, что это убийство было совершено по прямому указанию ЛУНИНА, так как доказательств в этом не добыто, а БЕЛИК от ранее данных им в этой части показаний в суде отказался. БЕЛИК также с попустительства ЛУНИНА как командира, злоупотребляя своим положением начальника особого отдела, на почве неприязненных отношений между семьями Шейбак и родственниками своей жены Змеевскими 10 июля 1942 года расправился с жителем деревни Жабичи гражданином Шейбак Владимиром. БЕЛИК неправильно информировал командира отряда Гломоздина о виновности Шейбак и предложил совместно уничтожить последнего. Убив вместе с Гломоздиным гражданина Шейбак, БЕЛИК сфабриковал соответствующий акт, в котором указал, что Шейбак будто бы являлся немецким

агентом. В феврале 1943 года партизан Горошко на почве личных счетов с жителями деревни Новый Двор Сокол Андреем, Войтович Петром и Кабановой Анфисой донес БЕЛИКУ о том, что якобы они сообщают немцам о передвижении партизан и те потому попадают в засады. БЕЛИК приказал партизану Косареву с группой других бойцов, в том числе и Горошко, расстрелять вышеназванных жителей, что исполнено: Войтович и Кабанова расстреляны, а Сокол удалось бежать из-под расстрела. Зимой 1942-1943 годов и весной 1943 года в Логойском районе по указанию и с личным участием БЕЛИКА без достаточных законных оснований были расстреляны как якобы немецкие агенты две семьи советских граждан вместе с малолетними детьми. Так, в деревне Плещаны с участием БЕЛИКА была расстреляна семья Жуковского, состоящая из главы семьи – Жуковского Дмитрия, 67 лет, его жены Жуковской Варвары, 60 лет, их детей – Серафимы, Марии, Леонида и внучки 13 лет – Алимпии. После расстрела этих лиц по приказанию БЕЛИКА все их имущество было забрано и увезено. В деревне Дашки также с личным участием БЕЛИКА была расстреляна Семья Гирлятович: жена Гирлятович Александра и ее четверо детей в возрасте от одного года до шести лет. Вместе с ними были расстреляны женщины – Рулькевич Агафья и Амильянович Серафима, которые членами семьи Гирлятовича не являлись и лишь только проживали в одном доме с Гирлятович. ЛУНИН, давая объяснения трибуналу по предъявленным ему обвинениям, показал, что он, возглавив командование партизанами, действительно высказывался против партийно-политической работы, считая это излишним в условиях партизанской войны, и что он действительно не терпел советчиков из числа кадровых офицеров Советской Армии и поспешно

принимал решения о расправах с теми, кто не внушал ему доверия... ЛУНИНУ по обвинительному заключению был также вменен в вину незаконный расстрел весной 1942 года небольшой группы партизан Ермолкевича и партизана Шматова. Это обвинение ЛУНИНА было основано на том, что ЛУНИН на следствии признал себя виновным в том, что отдал приказ расстрелять вышеназванных лиц как лиц, открывших бесцельную стрельбу в лесу и как мародеров. В суде ЛУНИН от этого признания отказался, а свидетель Тимохин показал лишь о факте расстрела им совместно с другим партизаном Ермолкевича и Шматова, за то, что последние, будучи пьяными, открыли бесцельную стрельбу в условиях близости немцев. Учитывая изложенное, трибунал считает недоказанной виновность ЛУНИНА в данном обвинении. Трибунал в то же время находит доказанным, что ЛУНИН как командир партизанской бригады и его подчиненный БЕЛИК как начальник особого отдела этой бригады при особо отягчающих обстоятельствах, а именно в обстановке войны в тылу врага, злоупотребляли своим служебным положением и из-за личной заинтересованности незаконно расстреливали и убивали многих советских людей, а БЕЛИК – в том числе малолетних детей и что эти действия ЛУНИНА и БЕЛИК вызывали возмущение партизан и местного населения и наносили вред партизанскому движению в Белоруссии, чем совершили преступления, предусмотренные ст.ст. 180 п. «б» и 214 УК БССР. Переходя к определению меры наказания, трибунал, учитывая давность совершения ЛУНИНЫМ и БЕЛИКОМ указанных преступлений, сложность обстановки, в которой они находились, их молодость в то время, заслуги в борьбе с фашисцкими захватчиками, полученные ими ранения и контузии, а также их последующую по-

ложительную общественно-полезную деятельность, находит возможным применить к ним наказание ниже низшего предела, установленного законом за данные тяжкие преступления. На основании изложенного, руководствуясь ст.ст. 319 и 320 УПК БССР, приговорил ЛУНИНА Бориса Николаевича и БЕЛИКА Ивана Никитовича на основании ст. 180 п. «б» УК БССР с применением ст. 51 УК БССР лишить свободы в ИТЛ сроком на 6 лет каждого, с поражением в правах по п.п. «а», «б» и «в» ст. 34 УК БССР сроком на 3 года каждого. Их же на основании ст. 214 УК БССР с применением ст. 51 УК БССР лишить свободы в ИТЛ сроком на 7 лет каждого, с поражением в правах по п.п. «а», «б» и «в» ст. 34 УК БССР сроком на 3 года каждого. Окончательную меру наказания по совокупности совершенных преступлений ЛУНИНУ и БЕЛИКУ определить на основании ст. 214 УК БССР с применением ст. 51 УК БССР – семь (7) лет каждого, с поражением в правах по п.п. «а», «б» и «в» ст. 34 УК БССР сроком на три (3) года каждого. Срок отбывания наказания с зачетом предварительного до суда заключения исчислять ЛУНИНУ с 7 марта 1957 года, БЕЛИКУ – с 27 октября 1956 года. Меру пресечения до вступления приговора в законную силу осужденным ЛУНИНУ и БЕЛИКУ оставить ранее избранную, т.е. содержание под стражей.

### *Выпіска з рашэння суда*

«На основании изложенного, руководствуясь ст.ст. 319 и 320 УПК БССР, приговорил Лунина Бориса Николаевича и Белика Ивана Никитовича на основании ст. 180 п. «б» УК БССР с применением ст. 51 УК БССР лишить свободы в ИТЛ сроком на 6 лет каждого, с поражением в правах по п.п. «а», «б» и «в» ст. 34 УК БССР сроком на

3 года каждого. Их же на основании ст. 214 ч. II УК БССР с применением ст. 51 УК БССР лишить свободы в ИТЛ сроком на 7 лет каждого, с поражением в правах по п.п. «а», «б» и «в» ст. 34 УК БССР сроком на 3 года каждого. Окончательную меру наказания по совокупности совершенных преступлений Лунину и Белику определить на основании ст. 214 ч. II УК БССР с применением ст. 51 УК БССР – семь (7) лет каждого, с поражением в правах по п.п. «а», «б» и «в» ст. 34 УК БССР сроком на три (3) года каждого. Срок отбывания наказания с зачетом предварительного до суда заключения исчислять Лунину с 7 марта 1957 года, Белику – с 27 октября 1956 года. Меру пресечения до вступления приговора в законную силу осужденным Лунину и Белику оставить ранее избранную, т.е. содержание под стражей. 21 сентября 1957 года Военная коллегия Верховного суда СССР отклонила кассационную жалобу Лунина на приговор. 26 ноября 1957 года Президиум Верховного совета СССР лишил его звания Героя Советского Союза, орденов и медалей».

# ПАМЯЦЬ ЛЮДСКАЯ НЕ ЗГІНЕ Ў ВЯКАХ

Вёска Боркі Хаценчыцкага сельсавета была спаленая разам з яе жыхарамі 4 мая 1943 года фашысцкімі карнікамі і паліцаямі. Вёска не адрадзілася, бо не было каму яе адраджаць. Згінулі ўсе, акрамя Анасовіч (Кучко) Фаіны Сяргееўны 1931 г.н., якая адзіная цудам выжыла. Цяпер жыве ў Рабуні Вілейскага раёна. Яе памяць шмат зберагла пра сваю вогненную вёску і пра яе жыхароў. Гадоў сем таму я ўпершыню наведаў Фаіну Сяргееўну з мэтай зрабіць план даваеннай забудовы Борак. Я не магу пераказаць таго, з якім вялікім жаданнем і хваляваннем яна дапамагала мне складаць план вёскі. Магчыма, у ім ёсць і недакладнасці, але нязначныя. Яно ж, канешне, прашло ўжо столькі часу. Успамінаючы па прозвішчах дзе хто жыў, на яе твары свяцілася надзея адраджэння вёскі, хоць і ведала, што ад складання гэтага плана і маёй асобы


АНАСОВІЧ(КУЧКО)ФАІНА СЯРГЕЕЎНА




амаль што нічога не залежыць. Але яна ведала і іншае, тое, што дагрукацца да сумлення тых, ад каго залежыць памяць па загінулых і лёс жывых, практычна немагчыма. Таму так старанна і дапамагала мне ў гэтай справе, убачыўшы ў маёй асобе хоць невялікую, але надзею на справядлівасць.

На працягу амаль сямідзесяці год Фаіна Сяргееўна жыла толькі адной марай, што да яе вёскі, да БРАЦКАЙ магілы родных і аднавяскоўцаў, пабудуецца дарога працягам усяго толькі ў адну вярсту ды паставяцца на папялішчах хат хаця б просценькія крыжы па закатаваных родных вяскоўцах. Шмат чаго са свайго жыцця як ваеннага, так і пасля расказала Фаіна Сяргееўна. Лёс яе вельмі цяжкі і трагічны, што нават такога і ворагу не пажадаеш. Вось так чалавек са знявечанай душой і параненым сэрцам, пражыўшы пасля вайны шмат год, і не дасягнуў сваёй мары. Абяцалі шмат хто і шмат чаго, а ў выніку далей абяцанак справа так і не даходзіла, скардзілася мне жанчына. Я не імкнуўся нагружаць яе ўспамінамі, але яна сама, прыпамінаючы цяжкія моманты свайго жыцця, усё гаварыла і гаварыла, як быццам баялася пакінуць без увагі самае галоўнае ў сваім лёсе. Гутарка наша зацяг-




нулася да позняга вечара. Праводзячы мяне да машыны, Фаіна Сяргееўна напаследак сказала: «Калі не атрымаецца што-небудзь адрадзіць у Борках, то хоць не забывайце, што там была вёска, што там жылі людзі і як яны загінулі і праз каго!» Гледзячы ў напоўненыя слязьмі вочы пажылой жанчыны, я паабяцаў, што сумесна з сябрамі і неабыякавымі знаёмымі паспрабуем зрушыць з месца сцяну чэрствасці і абыякавасці.

З планам былой вясковай забудовы я ўжо на наступны дзень быў у Борках. Цяпер Фаіна Сяргееўна ў спакоі. Яе мара споўнілася. Агульнымі намаганнямі чэрствасць і бюракратызм чыноўніцтва перамагла воля народа. Памяць боркаўцаў ушаноўваецца. Сама вёска Боркі хоць на стэндзе, але адроджаная. Гэтай пакутнай вёсачцы прысвечана шмат артыкулаў, вершаў. Вось адзін з іх, які хоць і адрасуецца памяці Борак, але я яго прысвячаю ўсім нашым землякам, ахвярам мінулай вайны.



Стаяла вось тут, у сасновым бары,
Цудоўная вёсачка БОРКІ.
У каханні і шчасці яе жыхары,
Жылі й расшыралі падворкі.
Вось там Альшукі, а вось тут Семянёк,
Хацёнкі свае збудавалі.
У працоўных турботах жылі штодзянёк
Ды дзетак сваіх гадавалі.
Шчырасць, сяброўства, жыццё грамадой –
Усіх іх заўсёды яднала.
Такое яднанне з любою бядой
Змагацца заўжды ім спрыяла.
Для іх сорак трэці стаў жыццёвым канцом,
Калі прыйшлі ў вёску фашысты.
Палілі ўсіх, без разбору, жыўцом…
Мірны народ, працавіты.
Ахоплены полымем, свіран гарэў,
І толькі слуп чорнага дыму
Даваў зразумець, што ніхто не ўцалеў,
Бо збегчы было немагчыма.
этым ахвярам мінулай вайны
Узвядзём неўзабаве святыню.
І будуць звінець па загіблых званы,
Такія ж, як і ў Хатыні.

*08.05.2015 г.*

# ПАСЛЯСЛОЎЕ

Вось гэтыя дадзеныя на асобна ўзятай тэрыторыі мне ўдалося сабраць за апошнія сем гадоў. Гэта па васьмі вёсках Хаценчыцкага сельсавета: Сакалоўка (Чарвякі), Навасёлкі, Ляхі, Новая Гута, Батурына, Мардасы, Дварэц, Пляшчаны. Калі ўсё абагульніць, то толькі ў гэтых вёсках на Хаценшчыне падчас Другой сусветнай вайны, згодна з дадзенымі ў Кнізе памяці, загінула 114 чалавек. А на самой справе, дзякуючы ветэранам, сведкам тых трагічных часоў, іх колькасць дасягнула 212 чалавек. У лік загінулых уваходзяць і ахвяры ляснога бандытызму, якімі сталі 50 мірных жыхароў

***Удакладніць і дапоўніць спіс загінулых дапамаглі мясцовыя жыхары:***

1. Барысевіч Уладзімір Канстанцінавіч – 1928 г.н. 2. Паўлюкевіч (Шахрай) Галіна Пятроўна – 1932 г.н. 3. Вярбіцкая (Юшкевіч) Яўгенія Аляксандраўна – 1934 г.н. 4. Валовік (Валовік) Паліна Ігнатаўна – 1937 г.н. 5. Валовік (Валовік) Соф’я Іллінічна – 1935 г.н. 6. Шахрай Станіслаў Іосіфавіч – 1919 г.н 7. Валовік (Цывілька) Ганна Канстанцінаўна – 1932 г.н. 8. Пякарская Марыя Трафімаўна – 1930 г.н. 9. Спецыян Таццяна Іванаўна – 1931 г.н. 10.Дарожка Іосіф Пятровіч – 1931 г.н. 11. Гадлеўская(Гэйна) Марыя Уладзіміраўна – 1931 г.н. 12. Кажура Аляксандр Іванавіч – 1927 г.н. 13. Кажура Галіна Іосіфаўна – 1925 г.н. 14. Луцкі Міхаіл Гаўрылавіч – 1922 г.н 15. Доўнар Аляксандр Аляксанд-

равіч – 1932 г.н. 16. Доўнар (Булах) Аляксандра Мікалаеўна – 1929 г.н. 17. Тарадайка (Сыч) Браніслава Пятроўна – 1936 г.н. 18. Міцько (Папковіч) Леаніла Антонаўна – 1928 г.н. 19. Васько (Арцішэўская) Ганна Ігнатаўна – 1939 г.н. 20. Шахрай Станіслаў Іосіфавіч – 1919 г.н. 21. Шахрай (Пятровіч) Фаіна Аляксандраўна – 1930 г.н. 22. Мікуліч (Кулеш) Леакадзія Станіславаўна – 1934 г.н. 23. Дзік (Кратовіч) Соф'я Мікалаеўна – 1916 г.н. 24. Раковіч (Карповіч) Зінаіда Іванаўна – 1929 г.н. 25. Карповіч Яўгенія Іванаўна – 1934 г.н. 26. Бейшар Ірына Антонаўна – 1938 г.н.

# ЗМЕСТ

